*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*



# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ

Верасень

№ 9 (11)

МЕНСК — 1931

**В. Самцэвіч.**

# Разам з ТДАавіяхэму ўзмоцнім абароназдольнасьць краіны.

Капіталістычны сьвет рыхтуецца да вайны і ў першую чаргу супроць СССР. Гэта патрабуе ад усіх працоўных нашай краіны штодзеннай напружанай работы па ўзмацненьню абароназдольнасьці Савецкага Саюзу, як апоры сусьветнай пролетарскай рэволюцыі. Асновай нашай абароназдольнасьці зьяўляецца пасьпяховае выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады з адначасовай вайсковай падрыхтоўкай працоўных СССР. Задача вайсковай падрыхтоўкі працоўных мас асабліва востра стаіць у БССР, якая знаходзіцца на мяжы з капіталістычным сьветам і яго верным лёкаем—фашысцкай Польшчай.

Аднэй з найгалоўнейшых задач краязнаўчых організацый зьяўляецца задача ўсямернай дапамогі ўзмацненьню абароназдольнасьці краіны. Гэта работа павінна быць шчыльна і органічна ўвязана з усёй працай краязнаўчых організацый па садзейнічаньню і актыўнаму ўдзелу ў социялістычным будаўніцтве. Праца краязнаўчых організацый у справе ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны павінна быць цесна ўвязана з працай часьцей Чырвонай арміі і організацый Т-ва дапамогі Авіяхэму. У гэтым кароценькім артыкуле мы маем на ўвазе паказаць тыя агульныя моманты ў рабоце краязнаўчых організацый і організацый ТДАавіяхэму, якія патрабуюць мобілізацыі сіл з боку памянёных організацый. Шчыльная ўвязка ў працы дасьць найбольшы эфэкт.

Якія-ж задачы абароназдольнасьці СССР павінны быць вырашаны аб'яднанымі сіламі краязнаўчых організацый і ТДАавіяхэму?

Перш за ўсё агульнымі момантамі ў працы краязнаўчых організацый і ячэек ТДАавіяхэму зьяўляецца самы актыўны організаваны ўдзел у выкананьні і перавыкананьні вялікага пляну социялістычнага будаўніцтва, у садзейнічаньні партыі і савецкай уладзе пасьпяховаму правядзеньню ўсіх асноўных гаспадарча-політычных кампаній і барацьба за генэральную лінію партыі.

Дапамога краязнаўчых організацый ТДАавіяхэму павінна выявіцца ў вырашэньні наступных задач, якія выцякаюць з пастаноў II Ўсебеларускага зьезду ТДАавіяхэму [1]) і стаяць перад усімі ячэйкамі:

1) вывучэньне найбольш спрыяючых умоў і найлепшых мэтодаў разгортваньня ўсіх відаў вайсковай работы на фабрыках і заводах, колгасах, саўгасах і МТС і дапамога ў організацыі там вайсковай работы (III разьдз. 1, а);

[1]) Адбыўся 10—12 лютага 1931 г.

2) вывучэньне пастаноўкі справы жывёлагадоўлі ў спэцыялізаваных колгасах і саўгасах (у прыватнасьці конягадоўлі) у мэтах дапамогі выкананьню плянавых заданьняў у гэтай справе і організацыі гурткоў па ваенна-кавалерыйскай справе (III, 1, г);

3) дасьледваньне і пропаганда ўжываньня хэмічных угнаеньняў і хэмічных сродкаў барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі; організацыя ў колгасах і саўгасах спэцыяльных брыгад, гурткоў і атрадаў па хэмізацыі с.-г. і барацьбе са шкоднікамі сельскай гаспадаркі; збор і вывучэньне найлепшага скарыстаньня мясцовых і штучных угнаеньняў (III; 6; а, в, г);

4) шырокае разгортваньне работы „ў галіне садзейнічаньня вывучэньню шляхоў зносін, якія маюць абароннае значэньне..., вывучэньня гістарычных момантаў з эпохі грамадзянскай вайны на тэрыторыі БССР, організацыі ваенна-турысцкай работы з навукова-дасьледчай мэтай, аказаньня дапамогі вынаходніцтву, асабліва такому, якое мае абароннае значэньне і г. д.“ (III, 19). Работа ў вызначаным у гэтым пункце напрамку павінна праводзіцца пад кіраўніцтвам Раённага Савету ТДАавіяхэму;

5) садзейнічаньне Ўсесаюзнаму Аб'яднаньню грамадзянскай авіяцыі ў яго практычнай рабоце, па „разгортваньні грамадзянскай авіяцыі; (у падшуканьні пасадачных пляцовак, аховы іх і г. д.)“;

6) організацыя пры ячэйках ТДАавіяхэму спэцыяльных каманд, брыгад па вывучэньню мясцовасьці свайго раёну, па адшуканьню і вызначэньню месцаў броду (для людзей, коняй), назіральных пунктаў, газаўбежышчаў; у гэту працу асабліва павінна быць уцягнута вясковая моладзь, піонэры, вучні. Апрача таго, з боку ячэек ТДАавіяхэму і краязнаўчых організацый павінна быць зьвернута вялікая ўвага на організацыю і сыстэматычнае нясеньне гідрамэтэоролёгічнай службы, якая мае вялікае значэньне як у вайсковай, так і ў сельска-гаспадарчай справе.

Тут вызначаны толькі некаторыя моманты, якія маюць значэньне ў справе дапамогі ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны і павінны вырашацца сумесна сіламі ТДАавіяхэму і краязнаўчых організацый. Такой цеснай увязкі ў працы памянёных організацый мы яшчэ ня маем, а яна павінна быць, мы павінны яе дасягнуць абавязкова ў мэтах большага сплачэньня і консолідацыі сіл на адным з адказьнейшых вучасткаў работы партыі і ўсёй рабочай клясы.

Сумесная работа ТДАавіяхэму і краязнаўчых організацый у галіне ўзмацненьня абароназдольнасьці СССР павінна быць накіравана па шляху стварэньня з кожнага прамысловага прадпрыемства, кожнага саўгасу, колгасу, кожнае вёскі, школы і г. д. маленькіх умацаваньняў соцыялістычнай абароны.

**Т. П. Кулакоў.**

# Колгас Комінтэрн.

*(Вёска Савічы Мазырскага раёну).*

Цяжка жылося бяднейшаму сялянству ў вёсцы Савічы да Кастрычнікавае рэволюцыі. Будучы ў суседзтве з былым маёнткамПератрутавічы, памешчыка Баліцкага, ды кулацтвам шляхецкіх засьценкаў—Курганы, Крывуша і Востраў, бедната была ў поўнай экономічнай залежнасьці ад памешчыка і кулакоў. У выніку непамернай эксплёатацыі, бедната пераходзіла цэлымі сем'ямі ў батракі да памешчыка і кулакоў. Яшчэ больш пагоршылася становішча беднаты, калі ў 1912 годзе вёска Савічы, пад напорам кулацка-заможнай часткі расьсялялася на хутары па сталыпінскай сыстэме. Хутарызацыя садзейнічала ўзмацненьню кулацка-заможных гаспадарак вёскі шляхам яшчэ большай эксплёатацыі беднаты і батрацтва.

Пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі становішча рэзка зьмянілася. Памешчыцкая і царкоўная зямля перайшла ў карыстаньне батрацтва і беднаты, але яшчэ доўгі час заставаліся тут кулакі, якія сумелі ў пэрыод „прышчэпаўшчыны" набыць сабе дыплёмы „культурных гаспадарак" і пад гэтай шыльдай разьвівалі далей свае кулацкія гаспадаркі. Яны пацїху эксплёатавалі батрацтва і беднату, сумелі выкарыстаць льготы, якія савецкая ўлада прызначала на дапамогу батрацкім і бядняцкім гаспадаркам. Батрацтва і бедната нутром успрынялі яскравую дырэктыву партыі, што паставіць належным чынам дробную індывідуальную гаспадарку на належную вышыню і зрабіць яе прыбытковай нельга. Вось чаму батрацтва, бедната і лепшая частка серадняцтва прыхільна сустрэла пастанову XVI партконфэрэнцыі аб рашучам павароце перабудовы сельскай гаспадаркі з дробнаіндывідуальнай у буйную соцыялістычную гаспадарку. 19 гаспадарак вёскі Савічы, пераважна батрацкіх, бядняцкіх і часткова серадняцкіх, рашуча сталі на шлях ажыцьцяўленьня пастаноў партыі і ўраду па перабудове сельскае гаспадаркі. 19 жніўня 1929 году 19 гаспадарак на агульным сходзе вынесьлі пастанову аб організацыі колгасу ў вёсцы Савічы. Далі назву колгасу „Комінтэрн" і ўзьнялі хадайніцтва перад был. Азарыцкім РВК аб зацьвярджэньні колгасу і землеўпарадкаваньні яго. Савіцкі сельсавет і раённыя ўстановы былога Азарыцкага раёну аказалі належную дапамогу новаорганізаванаму колгасу і колгас пачаў сваю працу. Колгасьнікі ўзяліся за сяўбу, абагулілі цягавую сілу і сельска-гаспадарчы інтвэнтар. Кулакі ды заможнікі ўсякімі спосабамі імкнуліся перашкодзіць організацыі колгасу. Яны разгарнулі шалёную агітацыю супроць колгасу, пусьцілі ў ход подкупы, пагрозы, падпалы,

зрывалі сходы колгасьнікаў і інш. Кулакі для сваіх мэт скарыстоўвалі несьвядомых беднякоў і асабліва жанчын. Распускалі чуткі аб „абагульненьні ў колгасе жанчын“ аб „пячатаньні“ тых, хто будзе ў колгасе, аб забойстве старых непрацаздольных колгасьнікаў, называлі справу колектывізацыі „антыхрыставым делам“. Пагражалі набліжэньнем канца сьвету і страшэннымі войнамі.

Колгасьнікі давалі рашучы адпор кулацтву і ўпарта праводзілі пачатую справу. Колгас паступова ўзрастаў. Кулакі і заможнікі бачылі, што справы колгасу паляпшаюцца, у колгас пачалі ўступаць лепшыя серадднякі, тады яны пачалі разбазарваць сваю маемасьць, рэзаць бяз меры жывёлу, гнаць самагонку ды наладжваць „пірушкі“, называючы гэта „падрыхтоўкай да ўступленьня ў колгас“.

Колгасны рух у раёне наогул і ў прыватнасьці ў вёсцы Савічы ўзрастаў шпаркімі тэмпамі. Непазбаўленыя „галавакружэньня ад посьпехаў“ раённыя ўстановы і організацыі Азарыцкага раёну і Савіцкі сельсавет, абвясьціўшы суцэльную колектывізацыю ў в. Савіч, не заўважылі як у колгас Комінтэрн пачалі прабірацца заможнікі і нават кулакі, якія чулі, што ім не здабраваць, што іх песьня сьпета. Прабраўшыся ў колгас кулакі спадзяваліся падарваць яго з сярэдзіны, але дзякуючы наяўнасьці ў колгасе досыць стойкага ядра батрацтва, беднаты і лепшых серадднякоў, кулацкія пляны і тут былі біты.

У лютым 1930 году па трэбаваньню агульнага сходу беднаты 10 кулацкіх гаспадарак былі раскулачаны і частка з іх выселена з межаў вёскі. Была праведзена чыстка колгасу ад пралезшых у яго кулацкіх і варожых элемэнтаў. У выніку чысткі ў колгасе засталося 60 гаспадарак к пачатку вясны 1930 году і пры такім складзе колгас прыступіў да працы. Вось кароткая гісторыя заснаваньня і організацыі колгасу Комінтэрн у вёсцы Савічы.

На 1 мая 1931 году ў колгасе было ўжо 133 гаспадаркі, з іх: батрацкіх 7, бядняцкіх 46, серадняцкіх 66 і адзіночак 14.

Лік насельніцтва ў колгасе 460 чал. з іх: мужчын 228 і жанчын 232.

Землеўпарадкаваньне колгасу праведзена ў 1930 годзе. Зямельная плошча колгасу займае тэрыторыю ў 1412 га, якая па ўгодзьдзях разьмяркоўваецца так: ральлі 650, сенажаці 550, саду 3, гароду 10, лесу і хмызьняку 70, выгану 80 і няўдобы 49.

За кароткі час існаваньня колгас здолеў прарабіць некаторыя зьмены ва ўгодзьдзях, так: раскарчавана хмызьнякоў і падлеснае плошчы 15 га і занята пад засеў лубіну да 20 га няўдобы. Вясеньня-пасеўная кампанія ў колгасе, не зважаючы на зацяжку зімы і недастачу кармоў, праведзена досыць дружна і сваечасова. Намечаныя плянавыя меркаваньні засеву выкананы поўнасьцю. У выніку было засеяна пад асобнымі культурамі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Пшаніцы яравой | 12 га | Проса | 6 га |
| Ячменю | 15 „ | Канапель | 4 „ |
| Аўсу | 90 „ | Бабоў | 5 „ |
| Бульбы | 150 „ | Сілосных культур | 16 „ |
| Грэчкі | 25 „ | Сэрадэлі | 3 „ |
| Лёну | 15 „ | Лубіну | 20 „ |
| Канюшына | 16 „ | Табакі | 2 „ |
| Кораньплодаў | 20 „ | Гароду | 11 „ |
| Вікі | 15 „ | | |

Пад азімымі культурамі занята: жыта 220 га і пшаніцы азімай 22 га. Такім чынам пад засевамі ў колгасе занята 667 га, гэта значыць выкарыстана ня толькі ральля, а пасеўны клін пашыраны за рахунак раскарчовак і скарыстаньня закінутых зямель.

У засеве колгасу, як бачым з прыведзенай вышэй табліцы, пераважаюць зернавыя культуры, бульба і кармовыя травы, гэта вымагаецца напрамкам гаспадаркі колгасу, які вызначаны—бульбяна-зернавы з жывёлагадоўчым і сьвінаводчым ухілам.

Ураджай селёта ў колгасе сярэдні, з прычыны засушлівага лета.

Значныя зьмены і паляпшэньне ўнесены колгасам як у тэхніцы палявое гаспадаркі, так і апрацоўцы глебы і падборы гатункаў рознага насеньня. Акрамя выкарыстанага гною ад жывёлы, колгас скарыстаў у якасьці ўгнаеньня 27185 кілёграм фасфарытнае мукі, 416 кг супэрфасфату попелу 1350 кг, завапнавана 8 га. Усё насеньне перад засевам ачышчана на трыеры і частка пратручана. Севазварот у гаспадарцы прыняты 5-польны і 8-польны. Апрацоўка поля праводзіцца 2-лямешным параконным плугам і жалезнымі баронамі.

Колгас мае наступны сельска-гаспадарчы інвэнтар і машыны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Малацілак конных | 5 | Колы на жалезным ходу | 70 |
| " ручных | 1 | Плугоў | 80 |
| Жнярак | 1 | Бароны з жал. зубамі | 60 |
| Сеялак | 1 | Акучнікаў | 7 |
| Веялак | 5 | Драпачоў | 3 |
| Трыераў | 1 | Упражы | 75 комплектаў. |
| Саламарэзак | 9 | | |

Праведзеныя лічбы гавораць за тое, што колгас забясьпечаны толькі простымі сельска-гаспадарчымі машынамі. Таму зусім зразумела, што колгас ставіць перад сабою задачу ў хуткім часе набыць трактар і больш складаныя сельска-гаспадарчыя машыны.

Забесьпячэньне колгасу жывёлаю наступнае:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Коняй рабочых | 101 | Бычкоў | 8 |
| Маладняку | 30 | Сьвіней-матак | 12 |
| Кароў | 123 | Парасят | 36 |
| Нецелей | 32 | Сьвіней на адкорме | 10 |
| Цялят | 37 | Авец | 56 |
| Бугаёў плем. | 2 | | |

Як відаць з прыведзенае табліцы, колькасьць жывёлы ў колгасе далёка не адпавядае зернавому-жывёлагадоўчаму яго напрамку.

Жывёла ў пераважнай большасьці звычайнай мясцовай пароды. З палепшаных парод коняй ёсьць 5 матак і 4 жарабцы поўардэны. Сярод маладняку ёсьць экзэмпляры мяшанае пароды.

Трэба адзначыць, што ў колгасе наглядалася недаацэнка каня, так у мінулую зіму па пастанове праўленьня колгасу да 20 горшых коняй падлягалі „расстрэлу“ як нягодныя. Іх паставілі ў асобны хлеў, дрэнна кармілі і чакалі дазволу на расстрэл ад Райколгассаюзу. Райколгассаюз, зразумела, гэтага не дазволіў і пастанову колгасу адмяніў, была праведзена адпаведная растлумачальная праца сярод колгасьнікаў і коні засталіся жывымі і зараз працуюць у колгасе.

Значная частка кароў знаходзіцца яшчэ ў індывідуальным карыстаньні колгасьнікаў. Сьвіньні і авечкі яшчэ зусім не абагулены, за выключэньнем толькі тых, што колгас атрымаў ад райколгассаюзу.

Утрыманьне жывёлы пакуль што не пастаўлена на належную вышыню. Прычыны гэтаму: адсутнасьць прыстасаваных памяшканьняў. Лепш справа абстаіць з утрыманьнем малядняка-цялят і парасят, для іх спэцыяльна абсталяваны памяшканьні і корм выдаецца ім па нормах.

Пытаньне па ўпарадкаваньню і паляпшэньню ўтрыманьня жывёлы ў колгасе, пастаўлена на чаргу дня. Ёсьць пэўныя пляны ў гэтым напрамку і прыступлена да выканьня гэтых плянаў. Дрэнна толькі тое, што колгас мае слабую дапамогу з боку агрономіі. Агрономы вельмі рэдка заглядваюць у колгас. Трэба Райколгассаюзу аб гэтым сур'ёзна падумаць.

Колгас мае да 15 розных будынкаў агульнага карыстаньня, якія скарыстаны для жыльлёвых і гаспадарчых патрэб. Заканчваецца будаўніцтва досыць вялікага хлява і гумна. Пабудаваны ўжо леднік і сілосная башня. Колгас мае досыць добрую кузьню пры 3 рабочых, сталярную майстэрню пры 3 рабочых і мае свайго шорніка.

Капіталы колгасу складаюцца: уступных 2.800 р., паявых 12.452 р., доўгатэрміновага крэдыту ў 1930 годзе колгас атрымаў 16.540 руб., частка якога ўжо пакрыта.

Організацыя працы ў колгасе досыць важнае і цяжкае пытаньне. Гэтаму пытаньню праўленьне колгасу і агульныя сходы колгасьнікаў аддаюць шмат увагі. Дапамогі з боку Райколгассаюзу па частцы інструктажу ў гэтым напрамку мала, як аб гэтым заяўляе праўленьні колгасу. У гэтым напрамку колгас выкарыстоўвае пэрыодычны друк, ды абменьваецца вопытам з суседняю комунаю „Шлях Саветаў“ і іншымі колгасамі. У колгасе распрацаваны, пры шырокім удзеле колгаснае масы, правілы ўнутранага распарадку. Правілы гэтыя прадугледжваюць правы і абавязкі праўленьня, загадчыкаў асобных галін гаспадаркі і кожнага радавога колгасьніка.

Так згодна правіл унутранага распарадку: старшыня адказвае за агульнае кіраўніцтва гаспадаркаю, палявод—за організацыю працы на полі, загадчык гаспадаркі, ён-жа кладаўшчык, адказвае за захаваньне ўсёй маемасьці, продуктаў і інвэнтару, загадчык жывёлагадоўчай часткі адказвае за пастаноўку работы ў частцы організацыі жывёлагадоўлі і г. д. Уся працоўная сіла колгасу разьмяркоўваецца на брыгады па асобных галінах працы. На чале брыгады становіцца старшы брыгадзір або групавод, які разам з брыгадаю выконвае фізычную працу і нясе адказнасьць за выкананьне заданьня ўсёю брыгадаю і вядзе належны вучот працы, вынікі якога перадае ў кантору колгасу. Кожны колгасьнік нясе поўную адказнасьць за даручаны яму інвэнтар і жывёлу ў часе выкананьня працы, а па сканчаньні працы перадае яго на склады і стайні. Паміж асобнымі брыгадамі заключаны дагаворы па соцспаборніцтву на лепшае і сваечасовае выкананьне даручаных заданьняў. У колгасе наладжана сыстэматычная праца вытворчых нарад па асобных галінах працы.

У бягучым годзе колгас перайшоў на зьдзельшчыну, праўда, гэтае пытаньне яшчэ мае шэраг недакладнасьцяй, але-ж зьдзельшчына садзейнічае значнаму паляпшэньню працы. Асабліва гэта выяўлена ў часе

сенаўборкі і ўборкі ўраджаю наогул, калі асобныя брыгады і колгасьнікі выконвалі выпрацаваныя нормы з значным павялічэньнем.

Прыводзім некаторыя нормы зьдельных работ прынятых у колгасе.

| | Разрад | Норма |
|---|---|---|
| Ворыва 2-лямешным плугам . . | 4 | 0,60 га |
| Баранаваньне ў 2 сьляды . . . | 3 | 1 „ |
| Возка гною на адлегласьці 1 кілём. | 1 | 10 вазоў |
| „ „ 1/2 „ | 1 | 15 „ |
| Раскідваньне гною на полі . . . | 3 | 30 „ |
| Сяўба рукамі . . . . . . . . | 4 | 3 га |
| Касьба сенажаці . . . . . . | 5 | 0,25 га |
| Жніво рукамі . . . . , . . | 5 | 0,15 га |

Кожны колгасьнік мае разьліковую кніжку, у якую заносяцца: вучот працы і розныя выдачы як грашыма, так і натураю. Узаемаадносіны паміж колгасам і аднаасобнымі-індівыдуальнымі гаспадаркамі досыць спрыяючыя. Колгас аказвае дапамогу бядняцкім індывід. гаспадаркам у часе вясеньняй пасеўкампаніі і ўборкі, а таксама дарэмна абслугоўвае іх сваім бугаём, жарабцом і хракам (кныром).

Застаецца сказаць пра культурна-асьветную працу ў колгасе. У гэтых адносінах колгас мае 3-комплектавую школу, у якой у мінулым годзе навучалася 120 дзяцей. Уведзена яшчэ ў мінулым годзе ўсеагульнае навучаньне дзяцей 8-9-годак. Школа прымае ўдзел разам з колгасам у правядзеньні політычна-гаспадарчых кампаній і наогул у грамадзка-карысной працы. Пры школе працавала 2 лікпункты, у якіх навучалася да 80 няпісьменьных, акрамя таго працавала 10 культармейцаў, пераважна з колгасьнікаў, якія ў індывідуальна-групавым парадку ліквідавалі няпісьменнасьць сярод 35 чалавек.

У часе ўборачнай кампаніі ў колгасе працавалі дзіцячыя ясьлі на 45 дзяцей, што ў значнай меры палягчала працу жанчын-колгасьніц.

Колгас мае нядрэнную хату-чытальню і клюб, апошні зьмяшчаецца ў будынку былой царквы. У клюбе зьмяшчаецца да 250 чалавек. У хаце-чытальні і клюбе наладжана масавая політвыхаваўчая праца. Маецца ў клюбе сцэна, радыё-гучнагаварыцель. Хата-чытальня і клюб значна дапамаглі ў колектывізацыі вёскі і зараз наладжана сыстэматычная політыка-выхаваўчая праца сярод колгасьнікаў. Пры клюбе ёсьць драмгурток з колгаснае моладзі. Часта робяцца пастаноўкі на сцэне. Пры хаце-чытальні маецца бібліотэка, якая рэгулярна папаўняецца навінкамі, выпісьваецца шмат газэт і часопісаў. Наладжаны голасныя чыткі газэт і літаратуры. Організаваны і працуюць ячэйкі: мопру, асоавіяхэму, прэч няпісьменнасьць і іншыя. Пры хаце-чытальні рэгулярна—адзін раз у м-ц—выдаецца насьценгазэта, якая адбівае жыцьцё, працу і быт колгасу.

У колгасе расьце партыйная і комсамольская праслойка: ёсьць 3 партыйцы і 12 комсамольцаў, партыйцы і комсамольская ячэйка сапраўды вядуць упартую працу па організацыі новага жыцьця і згуртоўваюць навакол сябе колгасьнікаў на выкананьне мерапрыемстваў партыі і ўраду ў галіне соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, праводзячы рашучую барацьбу з кулацтвам і іншымі ворагамі соцыялістычнага будаўніцтва. Колгас перажыў цяжкі організацыйны

пэрыод, мае ўжо пэўную матар'яльную базу і практыку для свайго далейшага разьвіцьця і ўзмацненьня.

Батрацтва, бедната і лепшая частка серадлякоў вёскі Савічы, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, на ўласнай цяжкой практыцы пераканаліся, што не сталыпінскія хутары і прышчэпаўскія хутары-пасёлкі, а буйныя колектыўныя гаспадаркі—ёсьць сапраўдны шлях палепшаньня становішча батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі.

30/VIII-1931 г.

Ул. Стрыгельскі.

# Комуна імя Сталіна Бярэзінскага раёну.

## Уводзіны.

20 клм ніжэй мястэчка Бярэзынь на правым беразе Бярозы разьмясьцілася ў вялікім Бярозавым парку гордасьць соцыялістычнага сэктару Бярэзінскага раёну — Гарадзішчанская сельска-гаспадарчая комуна імя тав. Сталіна. У Бярэзінскім раёне маецца больш 80 даволі моцных колгасаў, але сярод іх комуна Сталіна больш другіх прыкоўвае да сябе ўвагу ваколічнага насельніцтва. Часта батракі, бядняκі і серадняκі прыяжджаюць у комуну за 40-50 клм, каб сваімі вачыма паглядзець на жыцьцё комуны і праверыць розныя несапраўдныя пад час чуткі. Прыяжджаюць, і тут-жа відавочна бачаць сапраўднае жыцьцё ў комуне. Яны абыходзяць поле, хлявы, сьвірны, глядзяць з вялікім зьдзіўленьнем, што сабраўшыяся сюды батракі і беднякі ўжо добра жывуць і хутка падымаюць вышэй свой дабрабыт... Вясёлыя і здаволеныя комунары ім паказваюць усё, тлумачаць сваё жыцьцё, садзяць іх за стол з сабою разам есьці. Экскурсанты ад'яжджаюць вясёлыя, бадзёрыя, дзякуюць комунарам і абяцаюць, што як прыедуць дамоў, дык адразу прымуцца за організацыю колгасу.

Гэта сьведчыць аб тым, што комуна Сталіна ўжо служыць добрым прыкладам для неорганізаванай на сёнешні дзень бядняцкасераднядкай часткі вёскі, указвае верны шлях, па якому трэба ісьці, каб хутчэй пабудаваць соцыялізм.

## Гісторыя комуны.

Комуна організанана ў былым маёнтку пана Рагоўскага. У вёсцы Гарадзішча ў 1918 годзе быў створаны камітэт беднаты, які меў цэлы ўзброены атрад з вясковай моладзі. Увесь маёнтак з маемасьцю быў у распараджэньні камітэту беднаты.

Польская окупацыя спыніла ўладу беднаты да 1921 году, пакульня прышла Чырвоная армія і прагнала палякаў. Разам з палякамі ўцёк у Варшаву і пан, забраўшы з сабой жывёлу. У 1922 годзе ў Гарадзішчанскім двары быў створан агроўчастак на плошчы 36 га, а астатнюю зямлю разьдзялілі беднаце в. Гарадзішча. У 1925 годзе агроўчастак быў ліквідаваны і зямля гэта з усёй маемасьцю (садам і будоўляй) была здана Бярэзінскім РВК у арэнду на 12 год, але ў 1928 годзе ўмова аб арэндзе была скасавана і на гэтай плошчы была організавана садова-аграрная колектыўная гаспадарка — Гарадзішчанская сельска-гаспадарчая комуна імя Сталіна. Спачатку ў ко-

муну ўвайшлі сем членаў з паявым капіталам у 360 рублёў і атрыманай ад дзяржавы маемасьцю на суму 8.200 рублёў. З жывёлы мелі толькі 2 каровы і 2 сьвіньні, ня было таксама насеньня і продуктаў харчаваньня. Але комунары ня падалі духам—працавалі не пакладаючы рук. Зьмяшчаліся ўсе разам у аднэй цеснай хаце, потым атрымалі ад дзяржавы крэдыт 3.000 рублёў, набылі трое коняй, 5 кароў, патрэбны інвэнтар і насеньне. Першы год сваёй працы кончылі з прыбыткам у 350 рублёў. Зямельная плошча тады была 36 га. Ка дню 2-й гадавіны ў 1930 г. комуна мела зямлі 160 га, 22 коні, 51 шт. кароў, 10 цялят, 10 сьвінаматак, 6 падсьвінкаў і 50 шт. авец. Працаздольных сяброў у комуне 42 чалавекі.

Другі год працы быў скончаны з прыбыткам у 6.600 рублёў. Комуну організавала Богушэвіцкая ячэйка КП(б)Б. У першы год існаваньня комуны наглядалася значная цякучасьць членаў комуны. У комуну ўступалі і выступалі, бо працаваць патрэбна было многа, а сродкаў, каб забясьпечыць сваіх членаў, комуна ня мела. Вясной у 1929 годзе становішча ў комуне было пагражаючае, у комуне засталося дзьве сям'і партыйцаў. Але хутка ў комуну ўступіла яшчэ 2 сям'і, і 2 комсамольцы адзіночкі і адзін батрак з сям'ёй. З гэтага часу і пачаўся рост комуны. У гэты час да комуны далучылі Асмолаўскі двор, дзе была сельска-гаспадарчая арцель „Чырвоны Кастрычнік", якая распалася к гэтаму часу. Пачала павялічвацца плошча комуны за кошт зямлі тых сялян, якія ўступілі ў комуну.

Акрамя таго да комуны прырэзалі 42 га пасекі. З кожным месяцам комуна расла і мацнела.

Цяпер комуна займае плошчу ў 438 га. Плошча гэта ў 3-х былых панскіх маёнтках.

## Аб жыцьці комунараў.

У першы год існаваньня комуны, значная частка комунараў былі серднякі. У далейшым роля батракоў і беднякоў значна павялічылася.

Соцыяльны склад комунараў за ўсе гады відаць з наступнай табліцы:

| Соц. групы і гады | 1928 г. | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. |
|---|---|---|---|---|
| Батракоў | 1 | 13 | 22 | 26 |
| Беднякоў | 5 | 1 | 20 | 27 |
| Сераднякоў | 7 | 5 | 21 | 21 |
| Рабочых | — | — | 9 | 11 |
| Усіх разам | 13 | 19 | 72 | 90 |

„Мне цяпер каб давалі валоку зямлі, 4 каровы, 2 коняй і ўсю гаспадарку і сказалі жыві аднаасобнікам,—я не згадзіўся-б", кажа Фама Мотуз—няпісьменны батрак, які ўступіў у комуну ў 1929 годзе. Ён да ўступленьня ў комуну не знасіў ніводнай пары ботаў. Цяпер ён мае боты, чаравікі, добрыя суконныя штаны, і наогул добрае адзеньне. Жонка яго і дзеці таксама добра абуты і адзеты.

Вольны свой час комунары праводзяць з карысьцю для сябе. У комуне часта бывае кіно, ёсьць гучнагаварыцель. Слухаюць радыё,

робяць спэктаклі, сходы вечары. У комуне ёсьць і свой добры гармоністы: так што жывецца комунарам даволі весела. Партыйцы і комсамольцы ў выходныя дні і ўвесь свой вольны час скарыстоўваюць для грамадзкай працы: ходзяць у вёскі праводзіць розныя сходы, дапамагаюць у працы сельсавету і г. д. У комуне рэгулярна выходзіць насьценная газэта „Комунар", якую чытае ўвесь сельсавет і адзін экзэмпляр якое вісіць у сельсавеце. Для разгортваньня і ў далейшым культмасавай працы ў комуне маюцца пэрспэктывы. Членамі комуны зьяўляюцца 6 настаўнікаў. У галіне культуры ёсьць каму працаваць. Неабходна, каб на гэта зьвярнулі ўвагу культурныя ўстановы ў раёне. Патрэбна, каб адна з ШКМ (а іх у раёне 4) узяла шэфства па культурна-гаспадарчаму абслугоўваньню комуны. Усе магчымасьці, якія маюцца ў гэтым напрамку, патрэбна скарыстаць для павялічэньня культурнасьці комунараў.

## Комуна—культурна-экономічны цэнтар.

Комуна ў сучасны момант зьяўляецца культурна-экономічным цэнтрам свайго раёну. Як культурна-экономічны цэнтар, яна робіць вялікі ўплыў на акаляючае сялянства і колгасы. Гэты ўплыў значны ў галіне жывёлаводзтва і паляводзтва. Комуна ў справе паляпшэньня парод жывёл ідзе насустрач сялянству. Злучны пункт комуны па вельмі нязначным цэнам абслугоўвае ўсе вакольныя вёскі. Комуна абменьвае гатунковае насеньне ваколічным колгасам. У 1930 годзе, напрыклад, колгасам было прадана 35 штук палепшанай пароды сьвіней, абменена 800 пудоў гатунковага жыта—пэткус і 10 пудоў льнянога насеньня. Значна дапамагае комуна як колгасам, так і аднаасобнікам сваёй кваліфікаванай сілай (напр., па пчалярству і інш.).

Апрача таго, для беднаты з боку комуны аказваецца трудавая дапамога. Так, напрыклад, у 1930 г. па ініцыятыве яч. ЛКСМБ комуны, была скошана сенажаць бяднячцы в. Асмолаўкі—Рыбачэнка, сына якой, як актыўнага змагара за новае жыцьцё, забілі кулакі ў 1924 г. У сваю чаргу бедната суседніх вёсак таксама ў многім дапамагае комуне. Калі ў 1931 годзе паводкай была размыта грэбля каля млына комуны, дык на дапамогу комуне сабралася каля тысячы сялян і аднавілі грэблю.

## Кіраўніцтва і ўнутраная будова комуны.

Комуна мае свой статут, прыняты агульным сходам комунараў і зацьверджаны Райземчасткай, згодна гэтага статуту сход комунараў і савет комуны, які зараз абіраецца з 5-ці членаў і 2-х кандыдатаў, вядуць усе справы комуны. На чале савету комуны стаіць абраны саветам старшыня, а на чале асобных галін гаспадаркі комуны стаяць адказныя гаспадарчыя кіраўнікі: загадчыкі гаспадаркі—палявод, садавод, жывёлавод, пчаляр і г. д. Кіраўнікі назначаюцца саветам комуны і зацьвярджаюцца агульным сходам комунараў.

Савет комуны выдзяляе з сябе яшчэ камісіі: культурную і санітарную, якія ведаюць культурнай і санітарнай справай комуны, выдзелена рэдколегія насьценгазэты комуны.

Пры комуне маюцца ячэйкі КП(б)Б і ЛКСМБ. Пад кіраўніцтвам ячэйкі КП(б)Б наладжваецца ўсё жыцьцё комуны. Пад кіраўніцтвам ячэйкі КП(б)Б комуна перабудоўвае жыцьцё акаляючага насельніцтва.

## Паасобныя галіны гаспадаркі.

Гаспадарка комуны складаецца з наступных галін: 1) паляводзтва, 2) садоўніцтва, 3) жывёлаводзтва, 4) прамысловасьць, 5) гародніцтва, 6) пчалярства і 7 пабочныя промыслы.

Даходнасьць кожнай галіны гаспадаркі відаць з наступнай табліцы за 1930 г. *)

| Назва галін гаспадаркі | Даходнасьць у рублёх |
|---|---|
| Паляводзтва . . . . . . . . | 12248 руб. |
| Садоўніцтва . . . . . . . . | 3880 „ |
| Жывёлаводзтва . . . . . . | 3561 „ |
| Прамысловасьць . . . . . . | 930 „ |
| Гародніцтва. . . . . . . . | 558 „ |
| Пчалярства . . . . . . . . | 375 „ |
| Пабочныя промыслы . . . . . | 290 „ |
| Усяго разам . . . . | 21832 руб. |

## Паляводзтва.

У сучасны момант, пакуль што, паляводзтва займае першае месца сярод другіх галін гаспадаркі. Плошча пад рознымі культурамі ў мінулыя гады была наступнай:

| Назва культур / Гады | Жыта | Авёс | Бульба | Грэчка | Ячмень | Лён і каноплі | Іншыя | Усяго разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1928 год. . . . . . | 3 га | 4 га | 2,5 га | 2 га | 0,5 га | 2 га | 3,5 „ | 17,5 га |
| 1929 „ . . . . . . . | 12 „ | 8 „ | 7 „ | 4 „ | 3 „ | 3 „ | 7,5 „ | 31,5 „ |
| 1930 „ . . . . . . . | 32 „ | 20 „ | 13 „ | 9,5 „ | 5 „ | 3,5 „ | 23 „ | 106 „ |
| 1931 „ . . . . . . . | 40,5 „ | 23 „ | 19 „ | 15 „ | 7 „ | 4 „ | 27,5 „ | 137 „ |

Як бачым процант зернавых культур зьяўляецца пераважным. Але ў будучыя гады ён павінен будзе ўступіць месца кармовым культурам, паколькі гаспадарка прымае жывёлагадоўчы ўхіл. Плошча пад кармовымі культурамі недастатковая. Так у 1928 годзе канюшыны было 1,5 га, у 1929 г. 2 га, у 1930 г. 4 га, кармовых буракоў 1,5 га, у 1931 г. канюшыны 7 га і карм. буракоў 2 га. Кармовыя культуры—гэта—адно з балючых месц у гаспадарцы комуны. Лік стада дасягнуў значнай велічыні—патрабуецца вялікая колькасьць кармоў і іх не хапае з 32 га сенажаці. У гэтай галіне становішча гаспадаркі патрабуе поўнага, рашучага і найхутчэйшага пераломү.

*) З тае прычыны, што да 1930 г. рахункаводзтва ў комуне не вялося, дакладных даных аб даходнасьці кожнай галіны гаспадаркі за пярэднія гады даць нельга.

У сучасны момант усе культуры ў комуне зьведзены да лепшага гатунку: жыта—пэткус, аўсу два сарты—гігант і пабеда, ячмень—двохрадны, лён—даўгунец і г. д. Больш прыбытковымі культурамі ў комуне зьяўляюцца: бульба, кармовыя культуры, авёс і лён.

Збываюцца зернавыя продукты наступным чынам. 40 проц.—у спажывецкую коопэрацыю, 34 проц. абменьваецца з колгасамі і 26 проц. спажываюцца ў самай гаспадарцы. Прычым абменьваецца галоўным чынам жыта і збываецца праз спажывецкую коопэрацыю галоўным чынам жыта і авёс.

Тэхнічныя культуры ў вялікім загоне. У гэтым напрамку патрэбна зьвярнуць асаблівую ўвагу на мэханізацыю апрацоўкі тэхнічных культур. Патрэбна, каб комуна разам з другімі колгасамі набыла апрацоўчыя машыны для тэх. культур і больш пашырыла плошчу засеву пад тэхнічныя культуры.

## Жывёлаводзтва.

*Коні.* Цягавую сілу ў комуне складаюць пакуль што выключна коні. Цягавай сілы ў комуне даволі, коні скарыстоўваюцца здавальняюча. Комунай ужо даны задатак на трактар і хутка ён будзе атрыманы.

Парода коняй за выключэньнем жарабца „ардэн" простая, але коні даволі добрыя і адборныя. Коняй выгадаваных комунай няма, усе яны або куплены, або прыведзены ўступіўшымі ў комуну членамі. Пастаяннага разьмеркаваньня працы паміж коньмі няма. Кормяцца коні да гэтага часу яшчэ не па норме і гэта шкодзіць і коням і комуне. Галоўнымі кармамі для коняй зьяўляецца сена і канюшына; авёс даецца ў той час, калі коні маюць нагрузку па працы. Даглядаюцца коні такім чынам: а 6 гадзіне раніцы пояцца (з крыніцы), а 7 гадзіне даецца сена, а калі перад працай дык і авёс, а 12 гадзіне таксама—сена; а 5-6 вечара пояцца і даецца сена на ноч (па 5-6 кг). Улетку коні жывуць ад пашы і толькі днём, у час абедзенага перапынку даецца авёс. Пояцца два разы ў дзень.

Да гэтага часу кармушак для коняй няма; сена даецца ў драбінах, а авёс у скрынях і цэбрах. Стайня да гэтага часу была кепская, у часе дажджу на коняй цякла вада, пад нагамі было мокра. Цяпер комуна абарудавала новую стайню на 30 коняй, робяцца кармушкі, так што догляд за коньмі будзе значна палепшаны.

Павялічэньне коняй ішло наступным чынам:

| Пароды коняй / Гады | 1928 | 1929 | 1930 | 1931 |
|---|---|---|---|---|
| Рабочых коняй | 3 | 7 | 22 | 26 |
| Жарабят | — | 1 | 3 | 3 |
| Усіх разам | 3 | 8 | 25 | 28 |

*Рагатая жывёла*. Павялічэньне рагатай жывёлы ішло такім чынам:

| Пароды цялят \ Гады | 1928 | 1929 | 1930 | 1931 |
|---|---|---|---|---|
| Цялята да 1 году . . . . . | — | 2 | 17 | 18 |
| „ „ 2 „ . . . . . . | — | 1 | 3 | 13 |
| „ „ 3 „ . . . . . | 1 | 2 | 4 | 9 |
| Кароў. . . . . . . . | 6 | 19 | 54 | 62 |
| Быкоў вытворцаў . . . . . | — | 1 | 2 | 2 |
| Усяго разам . . | 7 | 25 | 80 | 104 |

Павялічэньне ішло за лік купленых, прыведзеных уступаючымі ў комуну, выгадаваных і часткай перададзеных дзяржавай ад былой Бажынскай арцелі.

Пераважная большасьць кароў мясцовай мяшанай пароды, але па якасьці даволі добрыя. Самыя горшыя каровы з стада бракуюцца вэтэрынарам і здаюцца на загатоўчыя пункты. Такім чынам, засталося толькі добраякаснае стада, якое з кожным годам папаўняецца яшчэ лепшымі маладымі, выгадаванымі комунай, каровамі.

Удой кароў у 1930 г. быў вельмі малы, гэта тлумачыцца тым, што ў 1930 г. адбылося дужа вялікае павялічэньне стада, а паша засталася тая-ж самая, падкормкі не давалася. У 1931 г. удой кароў павялічыўся ў параўнаньні з 1930 г. на 20 проц. У далейшым павялічэньне павінна адбыцца яшчэ большае.

З усёй малочнай продукцыі да 60 проц. збываецца праз коопэрацыю, а астатняя частка спажываецца ў самой комуне. Комуна мае сэпаратар.

У справе палепшаньня рагатай жывёлы заслугоўваюць увагі мерапрыемствы: 1) вырашэньне кармавой проблемы і 2) лепшы догляд за жывёлай. Ужо ў гэтым напрамку шмат чаго зроблена. Так, напрыклад, пабудаваны хлеў на 20 кароў, пабудаваны цялятнік, вылучаны свой жывёлавод і г. д., але ўсё-ж наперадзе яшчэ больш працы ў гэтай справе. У комуне яшчэ няма ніводнай кармушкі. Няма нават цэбраў, каб даваць усім каровам паранку. Па пляну комуны ўсё гэта будзе зроблена да 1932 году.

*Сьвіньні*. Сьвінаводчая справа стаіць даволі добра. З усяго жывёлаводзтва сьвінаводзтва стаіць на першым месцы. Усяго сьвіней цяпер 44, акрамя малых парасят. Маецца 24 сьвіна-маткі. Рост сьвіного стада адбываўся такім чынам:

| Падзел \ Гады | 1928 | 1929 | 1930 | 1931 |
|---|---|---|---|---|
| Старых сьвіней . . . . . | 3 | 3 | 12 | 31 |
| Падсьвінкаў . . . . . | 2 | 3 | 14 | 11 |
| Кныроў вытворцаў . . . . | — | 1 | 2 | 2 |
| Усяго разам . . | 5 | 7 | 28 | 44 |

Парода сьвіней, галоўным чынам, ёркшырская. Кормяцца сьвіньні добра і таму яны буйныя і сытыя. Зімой кормяцца сьвіньні, галоўным чынам, бульбай—летам бульбай і зелянінай з мукой.

Кепскавата толькі, што няма добрага сьвінарніка. Хоць зараз сьвіньні знаходзяцца і ў лепшым памяшканьні як раней, але ўсё-ж наглядаецца вялікая цесната і антысанітарыя. У хуткім часе будзе пабудаваны сьвінарнік тады, бязумоўна, справа значна палепшыцца.

*Авечкі.* Авечкі заведзены ў комуне толькі ў 1930 г. Зараз старых авец 27 шт. і маладых 38. Авечкі мясцовай пароды. Знаходзяцца авечкі ў Асмолаўскай гаспадарцы. Там для іх найбольш спрыяльныя ўмовы. Аб экономічных выгадах ад аўцаводзтва пакуль яшчэ гаварыць ня прыходзіцца.

## Садоўніцтва.

У комуне маюцца тры сады з агульнай плошчай у 12 га. Комуне яны дасталіся дужа запушчанымі і разбуранымі. У часе рэволюцыі яны былі бязьлітасна пашкоджаны, а значная частка была выкапана сялянамі. Ад агарожы не засталося нават і слупоў. Абрэзка і пабелка рабілася даўно. Гэтае становішча прывяло да таго, што ў 1928 г. сад Гарадзешчынскай гаспадаркі плошчаю ў 7 га даў усяго 400 руб. прыбытку.

Комунары з першага дня заснаваньня комуны зьвярнулі на сад належную ўвагу. У першы-ж год яны ўзяліся за абрэзку, падчыстку і спрыскваньне. Калі ў 1928 годзе сад даў прыбытку 400 рублёў, дык у 1929 г. ён даў 2.800 рублёў, а ў 1930 г. 3.880 рублёў.

Акрамя таго, што робіцца дагляд старых дрэў саду, у значнай колькасьці зроблена пасадка новых дрэў. Пасадка рабілася да гэтага часу на месцы страчаных дрэў. Высаджана да гэтага часу больш 300 маладых садовых дрэў.

Садовіну комуна збывае, галоўным чынам, праз коопэрацыю. Раней у нязначнай частцы комунары вывозілі яблыкі на вольны рынак, зараз-жа здаюць выключна коопэрацыі.

## Гародніцтва.

Комуна організавалася як садова-гародная гаспадарка. Гародніцтвам меркавалася заняць усё поле, але далейшы ход такі напрамак зьмяніў. У першы год пад гародам плошча зямлі была нязначная, у наступныя-ж гады пачалося павялічэньне.

Усё-ж такі гародніцтва засталося як падсобная галіна гаспадаркі. Плошча пад гародам застаецца амаль адною і тою-ж ва ўсе гады.

Галоўнай гароднай культурай зьяўляецца капуста. Большая частка яе ідзе на збыт праз коопэрацыю, а астатняя ўжываецца самой комунай. Другой даволі важнай гароднай культурай зьяўляюцца агуркі. Агуркі кожны год даюць гаспадарцы значны прыбытак, але прадаваліся, галоўным чынам, прыватным асобам, бо коопэрацыя гэтым не займалася. З другіх гародных культур маюць гаспадарчае значэньне памідоры, тыква і г. д., якія ідуць, галоўным чынам, для патрэб гаспадаркі.

## Пчалярства.

Пчолы заведзены ў пачатку 1930 году. Зараз налічваецца 27 сем'яў. Усе ў рамачных вульлях. Дасталіся пчолы комуне ў дужа разбураным становішчы; 7 сямей былі аграблены кулакамі. Але дзякуючы сваечасова прынятым мерам ужо ў першы год пчолы далі прыбытку 475 рублёў. Зараз пчолы ў комуне ў стадыі шпаркага разьвіцьця. Комуна мае сваіх 2-х пчаляроў. Пчалярскімі прыладамі комуна таксама больш-менш забясьпечана.

Умовы для пчалярства ў комуне даволі спрыяючыя. Комунай падсяюцца для пчол меданосныя травы, што таксама паляпшае справу і стан пчалярства.

## Прамысловасьць.

У комуне маецца вадзяны млын. Ён перададзены комуне ў 1930 г. Млын стары і працуе слаба. Так што прыбытак ад яго зусім нязначны, за 10 месяцаў 1930 г. ён даў прыбытку ўсяго 930 руб. Мельнікаў сваіх комуна ня мае і карыстаецца наёмнымі.

Млын перамолвае зярно выключна акаляючага насельніцтва і сваёй гаспадаркі. Млын мае заўсёды поўную нагрузку, за зярном ніколі астаноўкі ня бывае. У гэтым-жа млыне маецца крупэрня і вальцы, але крупэрня за недахопам вады працуе выключна для патрэб самой комуны, а вальцы разбураны былым уласьнікам млыну нэпманам Сасонкіным.

Адлегласьць ад шляхоў зносін і прамысловых цэнтраў штурхае комуну на разьвіцьцё сваёй перапрацоўчай прамысловасьці. Комуна проектуе пабудову крухмальнага заводу, бо глеба комуны даволі спрыяючая для разьвядзеньня бульбы. Плошча засеву бульбы з кожным годам узрастае, збываць бульбу няма шляхоў, таму неабходна на месцы перапрацаваць яе ў крухмал, а адкіды скарыстаць для жывёлагадоўлі. Ёсьць добрая глеба для пабудовы прадпрыемства, для перапрацоўкі продуктаў жывёлагадоўлі. Дзякуючы значнай плошчы сенажацяў, што спрые разьвіцьцю жывёлы, комуна таксама проектуе пабудаваць малочны завод, для абслугоўваньня як сваёй гаспадаркі, так і акаляючага раёну.

## Новае жыцьцё—новыя людзі.

Комуна—новае жыцьцё. Гэта новае жыцьцё стварылася ў выніку дыктатуры пролетарыяту, пад кіраўніцтвам КП(б)Б. Зараз гэта новае жыцьцё стварае новых людзей, тых людзей якія закончаць пабудову соцыялізму.

Комуна з гонарам можа назваць гэтых людзей—герояў соцыялістычнай працы, барацьбітоў за новае жыцьцё, якіх яна стварыла ў процэсе сваіх пабед і героічнай працы. Вось яны—героі працы, няўтомныя ваякі соцыялістычнага поля комуны і ўсяго СССР. Дзед Каркапіца Раман, якому ўжо 7 дзесяткаў год. Усю сваю маладасьць і здароўе ён паклаў у гэтым маёнтку на свайго крывапійцу пана Рагоўскага. Ня гледзячы на сваю сівізну ён працуе на ўсялякай працы: з тапаром, з лапатай, ля малацілкі і ўсюды ён кіраўнік і організатар; усюды ён кіруе і ўсе яго слухаюць. Усе комунары ня раз гаварылі, што дзеда Рамана трэба аслабаніць ад працы, на што, каб ён працаваў маючы скора 70 год. Але дзед Раман да гэтага ня прыслухоўваецца; ён знаходзіць сабе месца ў сваім новым жыцьці,

як будаўнік, як змагар за гэта новае жыцьцё. Ён ніколі не чакае сабе нарада на працу, ён заўсёды знаходзіць яе сам: ён ведае, дзе як стаіць карова, сьвіньня, дзе патрэбна што зрабіць, пабудаваць і г. д. Ён гаспадар, ён будаўнік новага жыцьця, ён—новы чалавек. Ён весь час апошні неадменны член савету комуны.

Другі герой працы—Фама Мотуз—няпісьменны батрак. Ён загадчык Асмолаўскай гаспадаркі. Ваколічнае насельніцтва гледзячы на яго гаворыць:—Гэты Фама дык як вол, мусіць і адпачынку ён ніколі ня ведае.

Уся Асмолаўская гаспадарка, знаходзячаяся пад яго кіраўніцтвам, у поўным парадку. Усе яго думкі, праца і жыцьцё ўвязаліся з гаспадаркай комуны.

Адданыя таксама справе комуны—Махнач Марыя (больш 60 г.), Стрыгельскі Алесь (больш 60 год), Колесень Марфа і многія іншыя, якія органічна ўрасьлі ў жыцьцё комуны і няўтомна працуюць на яе карысьць.

Але прабраліся былі ў комуну і такія людзі, якія ёй толькі шкодзілі. З такімі комуна ўжо расправілася. Прадстаўніком такіх можна ўзяць Драгуна Янку. Бацька яго меў серадняцкую гаспадарку і яго прагнаў з дому, як гультая і хулігана. Драгун Я., праслужыўшы гады са 3, уступіў у саюз і ў комуну быў прыняты, як батрак. З першага дня прабываньня ў комуне ён паказаў сябе рвачом, прагульшчыкам, хуліганам і лодырам. Комуна выключыла Драгуна ўмоўна, даўшы яму 6-ці месячны тэрмін выпраўленьня сваіх памылак, але прайшло і 6 месяцаў, а Драгун як быў рвачом і лодырам, так і застаўся ім. Вясной 1931 г. ён быў зусім выключаны з комуны. Зараз у комуне няма месца гультаём і лодырам. Усе комунары дружна, як адзін працуюць на карысьць комуны.

Галоўным сродкам выхаваньня новага чалавека зьяўляецца колектыўная праца, колектыўнае змаганьне за соцыялізм, пры належна організаванай працы па прынцыпу зьдзельшчыны. Комунары навучаліся працаваць па-комуністычнаму і праца для большасьці іх зьяўляецца прадметам „гонару, славы і геройства". Лепшыя працаўнікі атрымоўваюць прэміі, што яшчэ больш спрыяе працы комуны. Ударніцтва і соцспаборніцтва ахапілі ў працы амаль усіх комунараў.

Зьнічшаюцца ў комуне і сямейныя непаладкі, залежнасьць. Бацькі і дзеці аднолькава зьяўляюцца членамі організаванай грамады. Зусім малыя дзеці знаходзяцца ў ясьлях, большыя—на пляцоўцы, яшчэ большыя наведваюць школу, і прывучаюцца да тэй ці іншай працы па сілах дзяцей. Комуна даглядае старых, вызначае ім добрыя ўмовы існаваньня.

---

Мікалай Войтка.

# Колгас Чырвоны сьцяг Смалявіцкага раёну.

У Смалявіцкім раёне цяпер роўна 100 колгасаў. Людзі кінулі старынку і пайшлі колектывам будаваць новае соцыялістычнае жыцьцё.

Недалёка ад дарогі ля самай Смольніцы відаць, што некалькі рабочых будуюць сьвінарнік. У цішыні падвячорку рэзка чуваць пагалоскі ад удараў тапароў на пабудове. Налева вялікі сад і кусок сіняй канюшыны, наліўным яблычкам пахне сад. Там цэнтар колгасу. Адзін ганак старшынёўскай хаты вядзе ў пахучы сад. Хата нізкая і нудная, падрубы ўехалі ў зямлю. Яшчэ ніжэйшай здаецца хата, калі ўвойдзеш у яе сярэдзіну. Абстаноўка паказвае, што тут жыве дзелавы чалавек. Стол завалены паперамі, партыйнымі друкаванымі органамі: „Ленінскай вучобай“, бюлетэнямі „Правды“, адчотамі Сталіна, Оржанікідзе, Молотава на XVI партыйным зьезьдзе і другімі палітычнымі брошурамі. Чалавек, што жыве ў гэтай хаце, займаецца самаадукацыяй.

Старшыня колгасу Антон Юшкевіч—малады мужчына, партыец. Ён організатар колгасу „Чырвоны Сьцяг“. Сам былы бядняк з вёскі Верхмен, потым актыўны сельскі работнік, а год назад хатнік у вёсцы Юрава.

У сакавіку месяцы 1930 г. райком партыі паслаў тав. Юшкевіча дапамагчы Забалоцкай партячэйцы організаваць у Смольніцы колгас. З гэтага часу ён у гэтай нізкай і нуднай хаце, што стаіць у пахучым садзе.

## Сілай колектыва.

У тысяча дзевяцьсот трыццатым годзе ў Смольніцкім сельскім вучастку ў красавіку організаваны колгас Чырвоны Сьцяг. Першымі, хто ўвайшоў у колгас і пачаў актыўна працаваць, былі батракі, якіх эксплёатавалі мясцовыя кулакі.

Потым у колгас увайшлі чатыры бядняцкіх гаспадаркі, летам 1931 г. ў колгас улілося 23 серадняцкіх гаспадаркі. Зараз колгасьнікі карыстаюцца 450 га пахатнай зямлі. Жывы і мёртвы інвэнтар колгасу наступны: 38 рабочых коняй, 6 маладняку, 33 дойных каровы, 21—маладняку, 2 быкі, 100 штук сьвіней; 1 касілка, 1 грабілка, 5 жняярак, 18 малатарань-чыгунак, 33 плугі, 2 сеялкі, палольнікі, 6 барон „Зіг-Заг“. З вясны 1930 году ў колгасе ўведзены васьміпольны севазварот. За першы год свайго жыцьця Чырвоны Сьцяг меў вялікія дадатныя вынікі. Валавы прыбытак колгасу за год працы вызначаўся лічбай у 36 тыс. руб., які быў разьмеркаваны наступным чынам: на пагашэньне крэдытаў пайшло 1.500 руб., у непадзельны фонд 5.000 руб

(непадзельны фонод колгасу вызначаўся лічбай 48 тыс. рублёў), у культурны фонд—300 рублёў, у батрацкі фонд—1.600 рублёў, для непрацаздольных—800 руб., у фонд за абагуленую маемасьць—1.100 руб., у прэміяльны фонд—730 руб. Чысты прыбытак раўняўся 19 тыс. рублям. Гэтая колькасьць была падзелена сярод колгасьнікаў згодна выпрацаваных працадзён. Разрады аплаты працадзён былі высокія. Калі ў некаторых колгасах раёну на першы разрад (аплата працоўная першага разраду) прыпадала ўсяго толькі 75—80 кап., дык у колгасе Чырвоны Сьцяг аплата працадзён па разрадах была наступная:

I разрад—1 р. 08 кап., II разрад—1 р. 30 кап., III разрад—1 р. 84 кап., IV разрад—2 р. 28 кап., V разрад—2 р. 75 кап.

Напрамак колгасу сьвінаводчы.

Гэтай вясной колгас распачаў пабудову сьвінарніка на 67 матак, на што адпушчана 1.500 руб. Сьвінарнік будуюць самі колгасьнікі, без наёмнай працоўнай сілы.

Сярэдні дняўны ўдой малака ад кароў раўняецца 70 літрам. Каб павысіць ураджайнасьць зернавых культур, клубняплодаў ужываецца штучнае ўгнаеньне. Гэтай вясною на колгаснае поле рассыпана 30 цэнтнераў фасфарытнай мукі, 10 цэнт. тамашлаку, 40 цэнт. супэрфасфату.

За 1930 год Чырвоны Сьцяг здаў дзяржаве загатоўкамі: 3.800 пудоў жыта, 4.000 пудоў бульбы, заплаціў 107 руб. падатку і 700 рублёў страхоўкі.

## „Мы працуем па-ўдарнаму“.

Так заяўляюць колгасьнікі з Чырвонага Сьцягу. У час уборачнай кампаніі 30 году частка колгасьнікаў, у большасьці комсамольцы, ужывалі ў працы соцспаборніцтва, ударніцтва. Тады яшчэ на агульным сходзе пастанаўлялі, што на працягу 26 дзён ня будуць карыстацца выходнымі днямі, а будуць іх скарыстоўваць для працы на колгасных палёх. У веснавую пасяўную кампанію 1931 г., калі Чырвоны Сьцяг перайшоў на зьдзельшчыну, ударніцтва яшчэ шырэй разгарнулася. Былі выпрацаваны нормы выпрацоўкі, напр., ворыва аднալямешным плугам—0,5 га; ворыва 2-лямешным плугам—0,7 га; касіць—0,25 га; плотнікам пакласьці 4 вянкі—гэта адзін працадзень. Усе працаздольныя колгасьнікі організаваны ў паасобныя працоўныя брыгады. Кожнай брыгадзе на кожную пяцідзёнку даецца праўленьнем заданьне. Адзін раз у пяцідзёнку выкананьне данага заданьня правяраецца. Да кожнай брыгады прымацаваны адпаведна яе працы жывы і мёртвы інвэнтар. Адказнасьць за працу брыгады, за выкананьне данага заданьня, за дысцыпліну ў час працы, за інвэнтар ускладаецца на брыгадзіра—таму ў Чырвоным Сьцягу не наглядаецца абязьлічкі.

Можна сабе ўявіць працоўны энтузыязм колгасьнікаў, калі ў час пасяўной кампаніі 1931 году агульны сход ухваліў, што на працягу 36 дзён не карыстаць выходных і аддаць іх для працы ў колгасе, каб у тэрмін выканаць плян сяўбы. Была заключана соцумова з колгасам „Ленінскі Шлях“ (в. Масьцішча Забалоцкага с/с) на тэрмін сяўба-ўборка 1931 г. была зроблена праверка выкананьня пунктаў умовы. Выявілася, што Чырвоны Сьцяг выканаў умову, Ленінскі Шлях адстаў. Некаторыя колгасьнікі перавыконвалі нормы выпрацоўкі на працадзень, а выпрацоўвалі значна больш і замест вызначаных сходам 36 дней, выпрацавалі 42 дні бяз выходных. За акуратнасьць, за сыстэматычны выхад на працу, за перавыкананьне норм

выпрацовак праўленьне з фонду прэмій адпусьціла 300 рублёў, якія былі разьмеркаваны сярод лепшых ударнікаў.

Вось ударнікі Чырвонага Сьцягу: Сымон Пуль, быўшы батрак, Стяпан Кулінковіч—быўшы бядняк; Баляслаў Заянчкоўскі; Пелагея Кулецкая; Ганна Пуль; Валерыя Мацкевіч; Марыя Альшэўская; Шулькевіч.

Ударнікі сярод колгасьнікаў карыстаюцца вялікай пашанай.

Папар колгасу падымалі два трактары Смалявіцкай МТС. Яны падняли 32 га папару.

## „Пражытачны мінімум".

Харчовае забесьпячэньне ў колгасе пастаўлена добра. У харчох нястачы няма. Колгасьнік, што акуратна наведвае працу, ня робіць прагулаў па няўважлівых прычынах, атрымоўвае авансам у рахунак заробку 16 кілё мукі жытняй, кілё сала на месяц, два літры малака ўдзень, крупы, пшанічнай мукі. Агароднінай (гуркамі, буракамі, капустай) колгасьнікі таксама забясьпечаны.

Гаспадаркі, што нядаўна ўвайшлі ў колгас і яшчэ маюць свой хлеб, мукі не атрымоўваюць, таксама колгасьнікі, што маюць сваё сала—не атрымоўваюць яго з колгасу.

Непрацаздольныя колгасьнікі атрымоўваюць у рахунак сям'і, у якой маецца непрацаздольны, амаль такую норму, як і працаздольны. Дзеці атрымоўваюць 8 кілё жытняй мукі ў месяц, 1 літар малака ў дзень.

Вопратка, што вызначаецца коопэрацыяй, выкупліваецца праўленьнем оптам, а потым камісія разьмяркоўвае сярод колгасьнікаў. У першую чаргу атрымоўваюць колгасьнікі-ўдарнікі, адчуваючыя неабходнасьць у вопратцы.

## Культурна-асьветная праца.

Пры колгасе маецца партыйная ячэйка (сельсавецкая), у якой 14 чалавек членаў і кандыдатаў КП(б)Б і комсамольская з 12 членаў. Культмасавая праца ў колгасе пастаўлена здавальняюча. Калі год назад 75 проц. колгасьнікаў былі няпісьменныя, дык цяпер большасьць ужо пісьменныя. З грамадзкіх масавых організацый пры колгасе працуе ячэйка МОПР'у, дзе аб'яднана 40 чалавек, ячэйка асоавіяхэму, дзе 40 чалавек, ячэйка „Бязбожнік" з 28 чал., жанчын-дэлегатак у колгасе 16 чал.

Калі навакольнае насельніцтва, што яшчэ жыве аднаасобна, апутана рэлігійным дурманом, суявер'ямі, забабонамі, дык колгасьнікі--бязбожнікі.

Колгасьнік Іван Татарэвіч, што мае 65 год ад роду, у рэлігійныя сьвяты—у вялікдзень, сёмуху і інш.—першы выходзіць на працу і заклікае за сабою іншых. Зьнікае старое, варожае пролетарыяту, нараджаецца новае, колектыўнае, пролетарскае, бязбожнае.

Клясавая сьвядомасьць колгасьнікаў выявілася ў тым, што яны аднагалосна падпісаліся на пазыку „пяцігодка ў чатыры гады" ў суме 990 рублёў і на пазыку „3-га рашаючага году пяцігодкі"—у суме 1.385 рублёў.

## На сходзе аднаасобнікаў.

Чырвоны куток—нізкая хата з маленькімі вакенцамі—асьветлены лямпай. На сьценах малюнкі з грамадзянскай вайны, портрэты правадыроў. Мяккія крэслы з патрапанай, але аксамітнай абіўкай. На сьцяне рупар гучнагаварыцеля.

Ужо прышлі сяляне з в. Вадапою і Смольніцы. Галоўным пытаньнем сходу—рэалізацыя пазыкі „3-га рашаючага“ і контрактацыя малака.

Гаворыць тав. Юшкевіч. Не пасьпеў ён закончыць думкі аб значэньні контрактацыі малака і дапамозе гэтым мерапрыемствам рабочым цэнтрам, як Лютаровіч, які лічыўся бедняком, стаў пярэчыць контрактацыі. Трэба было шмат часу ўбіць, каб пераканаць аднаасобнікаў у неабходнасьці контрактацыі малака. Выступалі колгасьнікі і аднаасобнікі. Сход даў катэгорычны адпор вылазцы Лютаровіча і вызначаную сельсаветам на гэты вучастак контрольную лічбу малака прыняў, выбраў камісію для разьмеркаваньня гэтай лічбы на кожную гаспадарку.

Сяляне падпісаліся на пазыку „3-ці рашаючы год пяцігодкі“ з разьлікам па 25 рублёў на кожную гаспадарку, некаторыя падпісаліся і на большую суму.

Позна ноччу разыходзіўся сход. З-за лесу ішоў сваеасаблівы ранішні шум, дуў халаднаваты вецярок. Далёка за лесам пракрычэла лясная птушка. Колгасьнікі ішлі спаць у пуню ў пахучы мурог.

---

М. Дабратворскі.

# Барацьба за ўраджай і краязнаўцы.

Пролетарыят Савецкага Саюзу пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі вядзе ўпартую барацьбу за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, за поўную пабудову соцыялізму. У сельскай гаспадарцы аднэй з асноўных задач кожнага колгасьніка і рабочага саўгасу зьяўляецца барацьба за ўраджай. Гэтая барацьба выяўляецца ня толькі ва ўнядрэньні тэхнікі ў сельскую гаспадарку для лепшай апрацоўкі глебы, дагляду і зьбіраньня ўраджаю, але і ў барацьбе з шкоднікамі, якія значна зьніжаюць ураджай.

Страты, якія прыносяць шкоднікі, надзвычайна вялікія. Проф. Лебедзеў падлічыў прыблізна іх, прычым ён браў не які-небудзь асобны год надзвычайнага разьвіцьця шкоднікаў, а сярэдні — і ня гледзячы на гэта лічбы надзвычайна вялікія. Па яго вылічэньнях страты дасягаюць наступнай велічыні:

| | | |
|---|---|---|
| Паляводзтва . . . . . . . . | 900.000.000 | руб. |
| Садоўніцтва і вінаградарства . . | 40.000.000 | „ |
| Гародніцтва . . . . . . . . | 40.000.000 | „ |
| Жывёлагадоўля . . . . . . . | 150.000.000 | „ |
| Лесагадоўля . . . . . . . . | 300.000.000 | „ |
| Насельнасьць [1]) . . . . . . . | 1.000.000.000 | „ |

Такім чынам, толькі ад адных шасьціножак наш Саюз губляе штогод каля двух з паловай мільярдаў рублёў. Калі-ж узяць гады масавага разьвіцьця шкодных шасьціножак, то гэта лічба значна павялічыцца. Так саранчовыя ў 1923 годзе прынесьлі страт на 40-50 мільёнаў, у 1924 годзе на 18 міл. руб:, гэсэнская муха ў 1923 толькі ў У.С.С.Р. прынесла страт на 120 міл. руб.; толькі ад гэсэнскай і швэцкай мушкі ў гэты год на Украіне загінула 150 міл. пуд. збожжа ці 27 проц. агульнага гадавога ўраджаю. Толькі ў адной Б.С.С.Р, у 1922 г. загінула ад начніка-гамы ільну і некаторых гародных расьлін 10 тысяч дзесяцін.

Ня мала сродкаў траціцца і на самую барацьбу з шкоднікамі, так згодна пастановы Саюзнага Наркамзему ў 1931 годзе барацьба з шкоднікамі павінна быць праведзена на плошчы ня менш 15 міліёнаў гектараў, у тым ліку толькі па адным саранчовым на плошчы ня менш 1 міл. 375 тыс. гект., з шкоднікамі бавоўны, цукровых буракоў і інш. тэхнічных культур — на плошчы ня менш 900 тыс. га; па сусліках на плошчы 12 міл. га.

---

[1]) Многія шасьціножкі шкодзяць непасрэдна чалавеку шляхам распаўсюджаньня розных хвароб (малярыя, тыфус, дызэнтэрыя і інш.).

Часта страты дасягаюць вялікіх памераў, таму што шкоднік ня бывае своечасова ўгледжаны, і весткі аб шкодніку паступаюць тады, калі з імі ўжо позна змагацца — шкоднік усё зьнішчыў і знаходзіцца ў такой стадыі свайго разьвіцьця, калі з ім цяжка змагацца. Таму асноўнай задачай краязнаўчых арганізацый зьяўляецца выявіць шкодніка ў самым пачатку яго дзейнасьці, вызначыць яго, паведаміць адпаведныя ўстановы і пасьля атрыманьня адпаведных паказаньняў (калі на месцы няма адпаведных інструкцый) правесьці з ім барацьбу [1]).

Розныя шкоднікі патрабуюць ня толькі розных спосабаў барацьбы, але гэта барацьба павінна праводзіцца ў некаторы пэўны час; бывае, што прапусьціш некалькі дзён і змагацца з шкоднікам нерэнтабельна — сродкаў затраціш шмат, а вынікаў мала. Вось чаму надзвычайна важна ўстанавіць назву шкодніка, бо знайшоўшы яго ў справачніках можна даведацца там ня толькі чым, але і калі лепш яго зьнішчаць.

Зразумела, што мала ведаць адну назву, трэба таксама вывучыць і біолёгію шкодніка. Часта бывае так, што таго шкодніка, які зьявіўся ў вялікай колькасьці, у наступны год чакаецца ў яшчэ большым ліку.

Часта каляндарныя пляны барацьбы, дзякуючы мэтэоролёгічным умовам, прыходзіцца зьмяняць на месцы, кіруючыся назіраньнямі над разьвіцьцём шкодніка, бо каляндарны плян дае толькі агульную ўстаноўку і паказвае калі ў сярэднім можна чакаць таго ці іншага шкодніка.

Першым этапам вывучэньня шкоднікаў трэба лічыць высьвятленьне відавога складу іх, кожнай данай мясцовасьці. Да сучаснага моманту гэта вялізарная праца яшчэ далёка ад свайго канца. Сетка назіральных пунктаў А.Б.Ш. (Акцыянэрнага Таварыства па барацьбе з шкоднікамі) ня можа ахапіць усёй Б.С.С.Р., недастаткова, таксама, і існуючая корэспондэнцкая сетка.

У гэтым кароткім артыкуле я спынюся на галоўных шкодніках поля, саду, гароду, жывёл і чалавека, і прытым, пераважна, на шасьціножках. У пералічэньні шкоднікаў я спыняюся толькі на тых момантах, якія патрабуюць выяўленьня іх, бо больш падрабязна немагчыма гэтага зрабіць у часопісным артыкуле.

Фэнолёгічныя назіраньні над шкоднікамі зьяўляюцца надзвычайна важнымі. Вышэй ужо сказана аб тым, што для пасьпяховай барацьбы з шкоднікамі трэба ведаць ня толькі назву яго, але таксама і стадыю яго разьвіцьця, якую лягчэй зьнішчыць.

Ужо адзначаючы толькі моманты масавага зьяўленьня вусеняў, ці дарослага шкодніка альбо адкладку ім яечак мы робім такія нагляданьні, якія потым можна выкарыстаць для практычных мэт, але, зразумела, краязнаўчыя арганізацыі павінны старацца наладзіць сталыя, сыстэматычныя фэнонагляданьні над галоўнымі шкоднікамі сельскай гаспадаркі.

Гэтыя нагляданьні можна весьці ў трох напрамках — вывучаць 1) біофэнолёгію індывіду, г. значыць разьвіцьця асобнага экзэмпляру, якога-небудзь шкодніка, адзначаючы дакладна ўмовы яго жыцьця (тэмпэратуру і інш.); 2) біофэнолёгію сям'і — усяго патомства адной самкі.

---

[1]) Весткі аб зьяўленьні шкоднікаў, а таксама і саміх шкоднікаў трэба накіроўваць у Менск, службе Вучоту А.Б.Ш., а таксама ў бліжэйшы Р.І.П. (Раённы Істрабіцельны Пункт) ці М.І.С. (Машынная Істрабіцельная Станцыя).

Для гэтага неабходна ўзяць для назіраньняў усю кладку яечак, падлічыўшы іх, і кожны дзень адзначаць усе зьмены і паступовы ход разьвіцьця лічынак, бо разьвіцьцё патомства адной самкі ідзе далёка няроўнамерна; 3) біофэнолёгію віду — г. зн. у прыродзе назіраць за разьвіцьцём не паасобных шкоднікаў данага віду, а за агульнай яго дынамікай, паколькі магчыма ўлічваючы колькасьць тых ці іншых стадый.

Паралельна з назіраньнямі над шкоднікамі трэба весьці фэнонагляданьні як за тымі расьлінамі, на якіх жывуць шкоднікі, так і над якімі небудзь дзікімі больш звычайнымі, і паспрабаваць увязаць тэрміны зьяўленьня шкодніка з зацьвітаньнем якой-небудзь расьліны, бо на фэнолёгію культурных аднагадовых расьлін значны ўплыў мае тэрмін пасеву.

Зразумела, што аб'ём усёй працы абіраецца выходзячы з налічча сіл кожнага гуртка. Для большай пасьпяховасьці працы можна раіць разьбіць усіх удзельнікаў гуртка на брыгады, даручыўшы ім пэўны аддзел назіраньняў, напр., на галінах гаспадаркі—шкоднікаў: 1) палявых, 2) гародных, 3) садовых, 4) чалавека і хатняй жывелы; у сваю чаргу кожную з гэтых чатырох асноўных брыгад можна падзяліць на дзьве: адна вывучае фаўністычны склад, а другая фэнолёгію. Зразумела, што праца ўсіх гэтых брыгад павінна быць увязана і ўзгоднена паміж сабой, каб мэтодыка і вынікі працы адной брыгады былі вядомы ўсім іншым.

Паміж брыгадамі трэба організаваць соцспаборніцтва як на колькасьць працы, так і на глыбіню прапрацоўкі пытаньняў.

Шкоднікі выяўляюцца па тых пашкоджаньнях сельска-гаспадарчых расьлін, якія яны ўтвараюць. Часта, шкоднік знаходзіцца каля месца пашкоджаньня і тады выявіць яго зусім ня цяжка, так напрыклад, вусені бяляна-капусьніка пакрываюць у вялікай колькасьці, качан капусты, які яны зьнішчаюць. Іншая справа, калі шкоднік бывае вельмі дробны і вядзе патаемнае жыцьцё. Часам мы бачым пасярэдзіне добрага, зялёнага збожжа „плешыны" альбо ўсё поле пажоўкла і мае выгляд, нібы расьліны пабіты марозам ці засухай, ці, урэшце, калі жыта пасьпявае, многія асобныя сьцяблы яго зламваюцца недалёка ад кораня, нібы падрэзаныя ножнямі, а шкоднікаў ня відаць. У такіх выпадках прыходзіцца вышукваць прычыну пагібелі расьлін—рабіць аналіз. Для гэтага бяруцца пашкоджаныя расьліны і ўважліва разьдзіраюцца і расшчыпваюцца на часткі, каб знайсьці дробных шкоднікаў, якія часта жывуць унутры сьцябла. Бывае, што ня гледзячы на самыя ўважлівыя пошукі, шкоднік не знаходзіцца ўнутры расьліны, а потым аказваецца, што шкоднік, які пашкодзіў расьліну, жыве не на самай расьліне, а ў глебе. Для выяўленьня такіх шкоднікаў прыходзіцца рабіць раскопкі — на плошчы 1 кв. мэтра вымаецца зямля на глыбіню 30 см і ўважліва праглядаецца на паперцы ці кавалку фанеры, усе знойдзеныя шасьціножкі, іх чарва і вусені выбіраюцца і захоўваюцца ў сьпірце ці на ваце.

Калі шкодзіць не дарослая форма, а вусень ці чарва, тады карысна сабраць і захаваць ня толькі вусеняў, але і выгадаваць з іх матылёў (што зрабіць зможа кожны), бо дробных вусеняў цяжка бывае вызначыць, а па дарослай форме лягчэй. Калі знаходзяць кукалкі то з іх, таксама, трэба выводзіць дарослыя формы.

Далей пяройдзем да апісаньня спэцыяльнай мэтодыкі выяўленьня і зьбіраньня шкоднікаў, а адносна больш важных пакажу на прыметы, па якіх іх можна будзе адшукаць, а часам і пазнаць.

## Паляводзтва.

Адным з асноўных мэтодаў зьбіраньня фаўны шкоднікаў паляводзтва трэба лічыць „кашэньне“. Сачок для гэтай мэты трымаюць за канец палкі пад некаторым вуглом да сьцяблоў расьлін і хуткімі ўзмахамі праводзяць па расьлінах. Усе шасьціножкі, якія бываюць на гэтых расьлінах зьбіваюцца і трапляюць у сачок, адкуль потым выбіраюцца ў марылку ці сьпірт.

Мэтай фаўністычных збораў павінна быць ня толькі высьвятленьне якаснага, але і колькаснага складу шкоднікаў, таму пры іх зьбіраньні неабходна карыстацца пэўнымі правіламі, каб магчыма было меркаваць аб адноснай колькасьці таго ці іншага шкодніка, а значыць і аб яго экономічным значэньні. Таму для кашэньняў выбіраюць тыповыя пасевы для данай мясцовасьці. Самае кашэньне павінна ўтварыцца пры найлепшых мэтэоролёгічных умовах; зусім зразумела, што ў халодную, ці вельмі ветраную пагоду зборы будуць далёка няпоўныя і нятыповыя; таксама нельга касіць непасрэдна пасьля дажджу ці ў самую сьпякоту. Найлепшым часам для кашэньня трэба лічыць час паміж 16 і 18 гадзінамі, касіць трэба ідучы па дыяганалі і ўнутранай мяжы поля, бо на краю можа пападацца шмат выпадковых шасьціножак. Кожнае „кашэньне“ складаецца з 50 узмахаў сачка, прычым кожны ўзмах павінен захваціць вугал у $90^0$. Памер самаго сачка павінен быць стандартным: дыямэтар — 30 см, а ручка 1 мэтар даўжынёй.

Пасьля зробленых 50 узмахаў увесь збор цалкам высыпаецца ў марылку, а пасьля замарваньня раскладаецца на вату, а мяккія экзэмпляры ў $70^\circ$ сьпірт. Прычым ня трэба выкідываць „лішнія“ экзэмпляры „звычайных“ на першы погляд, шасьціножак, альбо вельмі дробных, якія будуць пападацца ў вялікай колькасьці. Збор павінен захоўвацца *цалкам і бяз выбару*. На этыкетцы пішацца падрабязна дзе, калі, пры якіх умовах і кім утвараліся зборы. Аб глебавых раскопках ужо гаварылася вышэй.

*Палявыя мышы.* Выявіць іх няцяжка. Бывае, што ўся глеба на полі пакопана іх ходамі і норамі. Мышы зьбіраюцца ў полі, гумнах і г. д., пры дапамозе розных пастак і капканчыкаў з іх зьнімаецца скурка і разам з чэрапам захоўваецца. Норкі ўчытваюцца (лягчэй гэта зрабіць вясной) на плошчы $^1/_{100}$ га ($100 \times 100$ м). На гэтай плошчы засыпаюцца ўсе норы, а потым праз дзень падлічваюць адчыненыя (жылыя).

*Азімы начнік* (азімы чарвяк). Адзін з галоўнейшых шкоднікаў. Вусені шкодзяць азімым пасевам увосень. Для гэтага шкодніка вельмі важна высьветліць час лёту матылёў, адзначыўшы пачатак яго, пэрыод максымуму і канец лёту. У паўднёвай Беларусі можа быць два пакаленьня азімага начніка. Для вучоту матылёў (з паловы чэрвеня) на палёх ставяцца няглыбокія карытцы (дзеравяныя ці бляшаныя) на падстаўках вышынёй 1-2 мэтры і ў іх наліваецца патака (можна неачышчаную) напалову з вадой, куды дабаўляюць трохі дражжэй, каб выклікаць бушаваньне патакі. На бушуючую патаку прылятаюць матылі, якія ў ёй і топяцца. Кожны дзень раніцай па карытцах падлічваецца колькасьць утапіўшыхся матылёў.

Вучот вусеняў утвараецца шляхам раскопак—падлічваецца колькасьць іх на 1 кв. мэтар.

*Начнік-гама* (ільняны чарвяк). Гэтага матыля пазнаць вельмі лёгка—ён мае на пярэдніх шэрых крыльлях знак белага колеру па-

добны да літары „у“. Вусень шкодзіць ільну, гароху, капусьце, бураком і інш.

*Зярнёвы начнік.* Вусені паядаюць калосьсе ня толькі ў полі, але і ў сьвірнах. На дзень вусені хаваюцца ў похвах лісьцяў. Для вучоту шкоды ад вусеняў трэба ўзяць 100 каласоў падрад і падлічыць колькі, з іх пашкоджана.



Мал. 1. Гэсэнская мука і пашкоджаньне ад яе (муха павялічана).

*Швэцкая мушка*—дробненькі шкоднік. У працягу лета бывае 3-4 пакаленьні. Шкодзіць руні яравых і азімых, а таксама зерню ў час наліваньня. Рунь пашкоджваецца ў той час, калі яна знаходзіцца ў стадыі ўтварэньня другога ліста. Чарва пашкоджвае точку роста, так што ўся расьліна не разьвіваецца, а вырасшы другі ліст хутка засыхае (глядзі мал. № 2). Для вучоту ўзяць расьліны па 1 кв. мэтру ў трох мясцох поля і падлічыць колькі пашкоджаных і непашкоджаных расьлін.

*Гэсэнская мушка*—пашкоджвае як усходы азімых і яравых, так і дарослыя расьліны. Пры пашкоджаньні ўсходаў, яны жаўцеюць і гінуць, чарву можна знаходзіць унутры сьцебялёў гэтых загінутых расьлін. Калі-ж пашкоджваюцца расьліны, якія пайшлі ў трубку, то ў тых месцах, дзе ў похвах лісьцяў сядзіць чарва, сьцябло робіцца тонкім і няправільна згібаецца.

Вельмі пашкоджаныя гэсэнкай мушкай палі маюць выгляд, нібы яны патаптаны ці пабіты градам, гэта называецца ў чэрвені і ліпні. Вучот гэтага шкодніка робіцца, як і папярэдняга.

*Зялёнавочка* — таксама невялічкая мушка. Пашкоджвае азімыя і яравыя пасевы. Чарва яе жыве ўнутры сьцебялёў. Вучот утвараецца, як і папярэдніх мушак.

*Хлебны пільнік.* — Чарва жыве ўнутры сьцебялёў, лялькуецца ў саломіне каля самага кораню, падгрызаючы яе кругавым жалабком, ад чаго сьцябло ломіцца ад ветру. Падлічыць колькі сьцяблоў зрэзана на 1 кв. мэтры.

*Драцянікі* (чарва жукоў-кавалікаў) жывуць у глебе, для выяўленьня і вучоту іх робяць раскопкі, як паказана вышэй.



Мал. 2. Швэцкая муха і пашкоджаньне ад яе (муха павялічана)

*Лугавы матыль*—паядае ўсе расьліны апроч злакаў. Бывае два пакаленьня, лёт матылёў першага ў маі ці чэрвені, а другога ў сярэдзіне лета.

*Палявы смоўж*—паядае ня толькі палявыя расьліны, але і гародныя. У полі шкодзіць руні. Для вучоту падлічваецца, колькі паедзеных і непаедзеных расьлін на 1 кв. мэтры.

### Гародніцтва.

*Капусная траўніца*, Пры зьяўленьні ў вялікай колькасьці значна пашкоджвае капусту. Падлічыць колькі з 100 расьлін пашкоджана і адзначыць ступень пашкоджаньня.

*Гародныя скочкі*—пашкоджваюць капусную расаду, усходы рэпы, бручкі. Адзначыць у якой ступені паедзены лісьця.

*Капусная даўганожка*. Чарва гэтага вялікага даўганогага камара жыве ў зямлі, яна зямлістага колеру з адросткамі на заднім канцы цела. Для вучоту іх трэба падлічыць колькі чарвы даўгоножкі пад загінуўшымі расьлінамі.



Мал. 3.—Зялёнавочка і пашкоджаньне ад яе (муха павялічана).

*Капусная муха*. Шкодзіць чарва, якая жыве ў зямлі і паядае карэньні ці ўточваецца ў сьцябло. Чарва дробная белая. Падлічыць, які процант расьлін загінуў ад гэтай мухі.

*Бялян капусны*—агульнавядомы шкоднік. Падлічыць колькі вусеняў прыходзіцца на адзін качан.

*Начнік кыпусны*. Вусені спачатку паядаюць лісьця, а потым уточваюцца ў качан. Маладыя жывуць адчынена на ніжняй паверхні ліста, а трохі падросшы на дзень хаваюцца, кормяцца толькі ноччу. Вучот робіцца, як і папярэдняга.

*Рапсавы пільнік*. Ілжэвусень яго паядае лісьця турнэпсу, рэпы, бручкі, буракоў, пакідаючы, часта, толькі адны жылкі.

*Мядзьведзік звычайны*—жыве ў зямлі і корміцца карэньнямі розных расьлін.

Апроч пералічаных шасьціножак гародныя расьліны пашкоджваюць такія шкоднікі, аб якіх гаварылася вышэй ў аддзеле паляводзтва: лугавы матыль, азімы начнік, начнік-гама, драцянікі, палявы смоўж.

### Садоўніцтва.

Добрым мэтодам зьбіраньня садовых шкоднікаў, асабліва розных слонікаў, зьяўляецца страхваньне з дрэў, яно робіцца такім спосабам: пад дрэвам расьсьцілаецца, якая-небудзь вялікая посьцілка і дрэва ўстрахваецца моцна некалькі разоў, ці па ствалу і галінам рэзка ўда-

раюць дзеравяным малатком абгорнутым у трапкі ці рагожы (каб не псаваць кары). Страхваньне лепш рабіць раніцай, калі жукі маларухомы.

*Зімовая пядзеніца і абдзірала.* Вусені пашкоджваюць ня толькі почкі але і лісьця. Матылі-самкі ня маюць крыльляў, іх лёгка зьбіраць увосені пад клеявымі паясамі.

*Златагузка.* Вусені паядаюць почкі і лісьця. Маладыя вусені зімуюць у гнёздах, зробленых з павуціны і сухіх лісьцяў на дрэвах. Яечкі пакрыты залаціста-жоўтым лямцам.

*Бялян жываплотнік.* Шкодзіць, як і папярэдні. Маладыя вусені, таксама, зімуюць у гнёздах, але яны маюць трохі другі выгляд: асобныя сухія лісьця па 2—4 зьвязаны павуцінай і вісяць на галінках. Падлічыць колькасьць гнёзд на дрэвах.

*Няпарная папрадуха.* Вусені паядаюць лісьця. Яечкі пакрыты жаўтавата-шэрым лямцам і часьцей адкладаюцца ўнізу на ствале.

*Яблыневая моль.* Вусені жывуць у гнёздах з белай шаўкавістай павуціны, якой апутваюць галіны, якія аб'ядаюць. У гэтай-жа павуціне яны і лялькуюцца.

*Яблыневы пладажор.* Вусені пашкоджваюць плады, выядаюць семя (чарвівыя плады) і выклікаюць падаліцу. Падлічыць колькі з 100 пладоў пашкоджана.

*Яблыневы пільнік.* Таксама, як і папярэдні шкоднік пашкоджвае плады; адрозьніваецца ад яго тым, што чарваточына ня сухая, а мокрая і сьмярдзючая. Вучот робіцца, як і пладажора. Апроч таго, падлічыць колькі з 100 пашкоджаных пладоў папсавана пладажорам, а колькі пільнікам.

*Яблыневая лістаскочка* — падобна да траўніц, але можа скакаць. Сустракаюцца на маладых галінках, каля почак, па кветках, завязях, якія яны смокчуць.

*Яблыневая траўніца*—высмоктвае сок з лісьцяў, ад чаго апошнія скручваюцца. Жыве коленіямі.

*Яблыневы кветкажор.* Жук пашкоджвае почкі. Чарва выядае пыльнікі і завязь у бутонах, ад чаго апошнія бурэюць і не расьцьвітаюць. Падлічыць колькі на 100 бутонаў прыходзіцца пашкоджаных.

*Аграставая пядзеніца* — шкодзіць аграсу, парэчкам. Вусені паядаюць лісьця.

*Аграставы пільнік* — шкодзіць аграсу і парэчкам. Ілжэвусені пільніка паядаюць лісьця, пакідаючы толькі жылкі.

*Малінны жук* — паядае кветкі, чарва яго спачатку есьць, таксама, кветкі, а потым ягады (чарвівыя ягады).

Вучот ліставых шкоднікаў (дзякуючы таму, што яны няроўнамерна разьмеркаваны на дрэве) дакладна правесьці даволі складана, таму дастаткова будзе адзначыць іх колькасьць на вока: 1) сустракаюцца адзінкамі, 2) у прыметнай колькасьці—калі шкоднікаў даволі многа, але пашкоджаньне дрэў ня кідаецца ў вочы, 3) шкодніка вельмі многа—калі шкоду адразу відаць — расьліна мае прыгнечаны выгляд.

## Паразыты хатняй жывёлы і чалавека.

*Сьляпні*—зьяўляюцца галоўнейшымі шкоднікамі хатняй жывелы, укусы іх вельмі балючы. Пры зьяўленьні іх у вялікай колькасьці яны аказваюць уплыў ня толькі на зьніжэньне ўдою ў кароў (да 10 проц.), а і адбіваюцца на якасьці малака. Чарва сьляпнёў жыве ў мокрай зямлі каля рэчак, луж і г. д.

*Авадні*—паразытуюць на конях, каровах. Іх часта зьмешваюць з сьляпнямі, ад каторых яны лёгка адрозьніваюцца недаразьвітымі

ратавымі часткамі, а таму ніколі ня кусаюцца, як папярэднія. *Рускі авадзень* — паразытуе, галоўным чынам, у насавой полясьці коняй (часам у воку чалавека).

*Падскураны авадзень*—сустракаецца, галоўным чынам, на рагатай жывёле (часам у чалавека). Чарва іх жыве спачатку пад скурай, потым прабураўліваецца праз унутраныя органы, і ўрэшце па злучальнай тканцы прабіраецца да хрыбта, дзе пад скурай жыве некаторы час, утвараючы бугры і жалвакі, на якіх робіць дзірку для дыханьня. Гэты авадзень ня толькі абясьсільвае жывёлу, але і псуе скуру, робячы яе дзіравай.

*Вялікі страўнікавы авадзень*—галоўнейшы паразыт каня. Авадзень гэты адкладае яйцы, прыклейваючы іх да валасоў ног, плячэй, жывата і наогул там, дзе конь можа дастаць іх ротам. Калі конь ліжа гэтыя месцы, то чарва пападае на язык, а адтуль у страўнік, дзе і жыве, убуравіўшыся ў сьценкі яго.

*Вольфартава муха* — адкладае сваю чарву (жывараджвшчая) ня толькі на жывёл, але і чалавека. Чарва жыве ў ранах, ці сама нават іх выклікае, гэтыя раны не зажываюць і гнаяцца. У чалавека часам бываюць у вушах, носе, вачох, лобнай полясьці і на дзёснах.

*Камары*. Апроч звычайных камароў асаблівае значэньне мае *малярыйны камар*. Адрозьніць як яго, так і чарву ад звычайнага камара лёгка пры дапамозе малюнка № 4, 5 і табліцы.




Мал. 4.—1) Галава звычайнага камара (самкі), 2) Малярыйнага камара; 3) Стан, які прымае камар у час пакою, а—звычайнага, б—малярыйнага.




Мал. 5.—Чарва камара каля паверхні вады, а—звычайнага, б—малярыйнага.

| | Шчупікі ніжніх сківіц | Палажэньне камара, які сядзіць | Яйцы | Чарва | Кукалкі |
|---|---|---|---|---|---|
| Звычайны камар | Карацей хабатка | Пэраўца паралельна роўніцы апоры, ці канец яго прыгнуты да яе | Адкладаюцца на ваду пластком, склеены разам | Галава вялікая, накіравана ўніз, трубка для дыханьня доўгая | Слаба сагнутая; рашкі для дыханьня даволі тонкія даўгія |
| Мялярыйны камар | Даўгія, прыблізна, роўны хабатку | Чэраўцы паднята пад вуглом ці амаль верцікальна да роўніцы апоры, а галава накіравана да яе | Адкладаюцца, дробнымі групамі | Галава маленькая; чарва ляжыць гарызантальна пад паверхняй вады, трубка для дыханьня вельмі кароткая | Вельмі сагнутая; рожкі для дыханьня кароткія, сільна пашыраюцца да канца |

Дарослых камароў трэба зьбіраць ня толькі ў лесе, полі і г. д., а таксама ў розных пабудовах—дамох, хлявох, прыбіральнях і інш., аглядаючы розныя цёмныя куткі. Зьбіраць іх трэба ў асобную марылку, бо яны лёгка псуюцца іншымі, больш буйнымі, шасьціножкамі. Важна сабраць камароў і непасрэдна на жывёлах і чалавеку; такіх камароў кладуць асобна і адзначаюць, на кім яны сабраны.

Неабходна сабраць камароў і зімой у месцах іх зімовак (скляпы, сутарэньні, стайні і г. д.).

Чарва камароў жыве ў вадзе і ня толькі ў натуральных вадаёмах, але і ў такіх як дзежкі з вадой, дуплы, студні і інш. Чарву вылаўліваюць сачком і захоўваюць у 70° сьпірце ці формаліне (1 : 20).

Каб у далейшым магчыма было павесьці барацьбу з камарамі (а асабліва з малярыйным), неабходна абсьледваць усе ваколічныя вадаёмы і ўзяць з іх спробы чарвы камароў, ад кожнага ў асобную баначку, на этыкецы абавязкова трэба напісаць характар вадаёму (лужа, канава на балоце, яма, бераг рэчкі зараслы чаротам і г. д.), і пажадана расьліннасьць. Збор дарослых камароў і чарвы трэба рабіць пэрыодычна, бо яны жывуць пэўны абмежаваны час, розны для розных відаў. Асабліва трэба адзначыць вадаёмы, дзе знойдзена чарва малярыйнага камара і запісаць, у якой колькасьці яна там знаходзіцца (адзінкамі, у прыметнай колькасьці, вельмі многа).

Апроч гэтых паразытаў з шасьціножак агульнавядомымі зьяўляюцца: хатняя муха, васеньняя жыгалка, блохі, вошы, клапы, тараканы і інш.

*Кляшчы.* Кляшчоў ёсьць некалькі відаў—*часотачны зудзень* жыве ў скуры, ад расчосваньня яе ўтвараюцца струпы.

*Звычайны клешч*—упіваецца ў жывёл і чалавека. Зьбіраюць кляшчоў у сьпірт ці формалін, трэба адзначыць, з якой жывёлы сабраны.

---

**Сьпіс літаратуры для больш падрабязнага азнаямленьня з шкоднікамі.**

1) Богданов-Катьков, Н.—Краткий учебник энтомологии. 1931, Ц. (в перепл.) 3 р. 40 к. Разьлічан на сярэднюю школу.

2) Определитель насекомых под ред. И. Н. Филипьева. 1928, Ц. в пер. 13 р. Добры азначнік, па ім можна азначаць ня толькі найбольш звычайных дарослых шасьціножак, але і чарву некаторых.

3) Якобсон, Г.—Определитель жуков. 1927, Ц. 6 р.

4) Штакельберг, А.—Нашы мухі. 1926, Ц. 1 р. 20 к.

5) Уваров, Б. — Саранчевые Европейской части СССР и Западной Сибири. 1925. Ц. 1 р. 50 к.

6) Пантелеев, А.—Справочник по борьбе с вредителями и болезнями зерновых культур в крупном с. х. 1929. Ц. 2 р.

7) Щербиновский, Н. — Главнейшие вредители сельского хозяйства и меры борьбы с ними. Ц. 75 к.

8) Богданов-Катьков, Н. — Энтомологические экскурсии на огороды. 1926. Ц. 3 р.

9) Троицкий, Н. — Вредные насекомые в плодовых і ягодных садах. 1926. Ц. 1 руб.

10) Павловский, Е. — Насекомые и заразные болезни. Ц. 1 р. 75 к.

11) Якобсон, Г. — Собирание и хранение насекомых и составление из них коллекций. 1921. Ц. 45 к.

12) Фядзюшын, А. — Кароткая інструкцыя да зьбіраньня і аховы зоолёгічных колекцый. 1925. Ц. 25 к.

---

А. Сяргееў.

# Полімасьцiя[1]) і шматмалочнасьць у буйнай рагатай жывёлы.

Пад полімасьціяй, звычайна, разумеюць тое зьявішча, калі на вымені ў каровы, апрача звычайных 4-х саскоў, знаходзіць сябе месца пяты, шосты, а часам і большая колькасьць дадатковых саскоў.

Ужо даўно існуе народная прыкмета, па якой гэтыя полімасныя жывёлы разам з гэтым зьяўляюцца і жывёламі больш продукцыйнымі. Полімасьція зьвязвалася з шматмалочнасьцю.

У сучаснай зоотэхнікі, як быццам, няма пакуль што яскравага погляду на сувязь палімасьціі з малочнай продукцыйнасьцю. Профэсар П. І. Куляшоў у сваёй кніжцы „Выбор лошадей, скота, овец и свиней по экстерьеру“ кажа: „значэньне дадатковых саскоў застаецца пакуль што нявысьветленым, але назіраньні кажуць хутчэй за тое, што дадатковыя саскі больш бываюць у культурных малочных кароў“.

Павярхоўна закранае гэта пытаньне проф. М. І. Прыдарогін („Оценка с.-х. животных по наружному осмотру“)—„у кожнай палове (вымені—А. С.) маецца два рэдка тры саскі; першыя два маюць вывадныя каналы; трэці служыць звычайна адзнакай моцна разьвітага вымені, хоць звычайна і ня мае вываднога канала малочных залоз“.

У другой сваёй працы („Крупный рогатый скот“) ён указвае на тое, што за межамі, на бацькаўшчыне Альдэнбурскай жывёлы полімасьція лічыцца адзнакай шматмалочнасьці і на яе зьвяртаюць увагу нават пры запісах у племянныя кнігі, экспэртызах, на выстаўках і г. д. Аб гэтым кажуць і Гансэн (Lehrbuch der Randerzucht) і Крэнахар (Allgemeine Tierzucht).

На другім пункце гледжаньня стаяць: Л. Адамец (L. Adametz) і проф. Е. Ф. Ліскун. Першы піша: „Наяўнасьць 5-га і нават 6-га больш-менш разьвітага саска, якая разглядалася ў мінулы час, як добрая адзнака малочнасьці (пры гэтым думалі аб наяўнасьці наогул моцна разьвітай нахільнасьці да разьвіцьця залознай тканкі вымені), напэўна ня мае гэтага, раней ёй прыпісваемага, сэнсу. Вельмі праўдападобна, што мы ў даным выпадку маем проста справу з полімасьціяй, якая ў якасьці конвергэнтна мутацыённай адзнакі сустракаецца даволі часта і ў чалавека. У сучасны момант полімасьція звычайна біолёгамі разглядаецца ў якасьці сапраўднай дэгенэрацыйнай адзнакі, насіцель якой, апрача ўсяго іншага, быццам уладае павышанай успрымальнасьцю да сухоткі“.

---

[1]) Полімасьція—шматсасковасьць (больш чым 4) у кароў.

І ўрэшце яшчэ адна думка. „Дадатковыя саскі і малочная люстарка зусім няпрыгодны для вызначэньня вышыні малочнай продукцыі“ (Е. Ф. Ліскун—„Экстерьер с.-х. животных“).

Вось у асноўным тыя думкі, якія пануюць наконт полімасьціі сярод аўторытэтных зоотэхнікаў. Погляды, як відаць самыя рознастайныя. Але к гэтаму яшчэ трэба дадаць тое, што ніводны з гэтых зоотэхнікаў не дае сталых падстаў, на якіх ён грунтуе свой погляд, Усюды даюцца меркаваньні дапушчальнага тэорэтычнага характару. Ніхто не дае нават самага павярховага аналізу высоўваемых іх палажэньняў, якое грунтавалася-б на фактах, лічбах і г. д.

І ледзь толькі О. А. Іванова ў працы „О наследовании многососковости у крупного рогатого скота“ („Журнал экспериментальной биологии“ за 1926 год. т. II, вып. IV) дае па гэтаму пытаньню падрабязнае тлумачэньне. На вывадах гэтага аўтара мы застановімся некалькі больш.

Распрацоўваючы матар'ялы экспэдыцыі 1929 году па вывучэньню буйнай рагатай жывёлы БССР мы адначасова з шэрагам іншых пытаньняў прапрацавалі і над пытаньнем аб суадносінах паміж полімасьціяй і малочнай продукцыйнасьцю ў буйнай рагатай жывёлы БССР.

З гэтай мэтай намі прапрацованы матар'ял у адносінах да 6.686 кароў. Экспэдыцыяй было закранута тры былых акругі: Полацкая, Магілеўская і Мазырская.

Пры прапрацоўцы тэмы мы паставілі сабе мэтай адказаць на запытаньні:

1. Наколькі пашырана полімасьція сярод буйнай рагатай жывёлы БССР.

2. Корэляцыя [1]) паміж полімасьціяй і шматмалочнасьцю—вылічыць коэфіцыент корэляцыі для буйнай рагатай жывёлы БССР.

3. Даць гэтай корэляцыі нейкі колькасны выраз у выглядзе падвышэньня сярэдняга ўдою ў полімасных кароў.

4. Высьветліць ці спадчынна полімасьція ў буйнай рагатай жывёлы БССР ці не.

Мэтод біомэтрыкі [2]), скарыстаны намі пры прапрацопкі маючагася ў нас матар'ялу, дазволіў нам на грунце гэтых матар'ялаў зрабіць шэраг вывадаў.

Каб адказы былі больш яскравымі і не зацямняліся-б уплывам на малочнасьць жывёлы пароды і жывой вагі, мы ўсіх жывотных разьбілі як па пародах, так і па жывой вазе.

Аб пашырэньні полімасьціі сярод кароў БССР кажа таблічка № 1.

Таблічка № 1.

| Парода і жывая вага | Усяго кароў | | | Тое самае ў % | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | з 4 саскамі | з 5 саскамі | з 6 саскамі | з 4 саскамі | з 5 саскамі | з 6 саскамі |
| а) Мясцовая парода | | | | | | |
| Вага да 270 кілё . . . . . . | 1750 | 106 | 73 | 90,9 | 5,4 | 3,7 |
| ад 270 да 320 кіл. . . . . . | 2001 | 124 | 88 | 90,5 | 5,6 | 3,9 |
| „ 320 „ 370 „ . . . . . | 858 | 54 | 35 | 90,7 | 5,6 | 3,7 |
| больш 370 кіл. . . . . . . | 194 | 34 | 11 | 81,2 | 14,2 | 4,6 |
| Усяго . . . | 4803 | 318 | 207 | 90,1 | 6,0 | 3,9 |

[1]) Корэляцыя—суадносіны паміж адзнакамі, прадметамі і г. д.
[2]) Біомэтрыка—тэрмін уведзены Гальтонам—статыстычны мэтод у біолёгіі.

Таблічка № 1 (працяг).

| Парода і жывая вага | Усяго кароў з 4 саскамі | з 6 саскамі | з 5 саскамі | Тое самае ў % з 4 саскамі | з 5 саскамі | з 6 саскамі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| б) м. швіцы . . . . . . | 487 | 49 | 50 | 83,1 | 8,4 | 3,5 |
| в) м. сімэнталь . . . . . | 216 | 37 | 16 | 80,3 | 13,8 | 5,9 |
| г) м. галанскія . . . . . | 84 | 13 | 5 | 83,4 | 12,7 | 4,9 |
| д) м. каланісцка-белагаловыя . | 176 | 29 | 14 | 80,3 | 13,2 | 6,5 |
| е) украінскія . . . . . | 20 | 2 | 2 | 83,4 | 8,3 | 8,3 |
| ж) м. ангельскія . . . . | 122 | 6 | 6 | 91,0 | 4,5 | 4,5 |

З таблічкі відаць, што проц. полімастных жывёл даволі значны— для мясцовай жывёлы ў сярэднім каля 10 проц. і для мэтысных жывёл 15—20 проц. Гэта таблічка гаворыць за тое, што ў больш культурнай жывёлы (а сюды мажліва аднесьці і мясцовую жывёлу з вялікай жывой вагой) маецца большы процант полімасных жывёл. Характэрна, што С. А. Іва нова ў сваёй кнізе „Генетика крупного рогатого скота" знаходзіць, што найбольшы процант полімасных кароў сустракаецца ў сімэнтальскай пародзе. Аб тым-жа самым кажа і наша таблічка.

Наколькі мае ўплыў інтэнсыўнасьць малочнай жывёлагадоўлі на пашырэньне полімасьціі відаць з таблічкі № 2, якая паказвае проц. полімастных кароў па былых акругах. Трэба пры гэтым успомніць што Полаччына лічыцца ў нас акругай больш інтэнсыўнай жывёлагадоўлі, а Мазыршчына самай адсталай (з некаторым нават мясным ухілам), Магілеўшчына займае сярэдняе паміж імі месца.

Табліца № 2 якраз і адбівае гэтыя суадносіны.

Таблічка № 2.

| Назва акругі | Усяго кароў з 4 саскамі | з 5 саскамі | з 6 і больш саскамі | Тое самае ў % з 4 саскамі | з 5 саскамі | з 6 і больш саскамі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Полацкая акруга . . . | 841 | 73 | 50 | 87,2 | 7,6 | 5,2 |
| Магілеўская акруга . . | 2185 | 165 | 113 | 88,9 | 6,6 | 4,5 |
| Мазырская акруга . . | 1777 | 80 | 44 | 93,5 | 4,2 | 2,3 |
| Па 3-м акругам. | 4803 | 318 | 207 | 90,1 | 6,0 | 3,9 |

Лічбы цалкам падмацоўваюць высунутае проф. П. І. Куляшовым палажэньне наконт таго, што „Дадатковыя саскі больш бываюць у культурных малочных кароў".

Каб ня быць галаслоўным пры сьцьвярджэньні, што вышэйпамянёныя акругі па ступені інтэнсыўнасьці малочнай гаспадаркі разьмяшчаюцца, менавіта так, як мы казалі, мы даем па гэтых акругах

такія паказчыкі інтэнсыўнасьці малочнай жывёлагадоўлі, як сярэдні ўдой за лактацыю і сярэднюю жывую вагу.

Таблічка № 3.

| Назва акругі | Сярэдні ўдой за лактацыю | Сярэдняя жывая вага |
|---|---|---|
| Полацкая акруга . . . . . | 1241 га | 320 га |
| Магілеўская акруга . . . . | 1209 „ | 300 „ |
| Мазырская акруга . . . . | 876,9 к. | 290 к. |

Адначасова трэба адзначыць, што корэляцыя можа быць як станоўчай (з узростам аднэй адзнакі расьце і другая), гэтак і адмоўнай (з узростам аднэй адзнакі зьмяншаецца другая).

Як відаць з усяго сказанага корэляцыя, паміж полімасьціяй і шматмалочнасьцю ёсьць як у мясцовых кароў, гэтак і ў мэтысных. Нейкае выключэньне прадстаўляюць толькі мэтысы каланісцка-белагаловай пароды, у якіх корэляцыі не назіраецца. У чым тут справа ня ведаем.

Корэляцыя яскрава відаць з наступнага конкрэтнага матар'яльнага выразу. Калі падлічыць сярэдні ўдой па групах 4-сасковых і шматсасковых жывёл і параўнаць паміж сабой гэтыя ўдоі, то атрымліваецца наступны малюнак.

Таблічка № 4.

| Групы жывёл | Сярэдні максымальны сутачны ўдой | | | Павялічэньне ў процантах |
|---|---|---|---|---|
| | у 4-саск. | у шматсаск. | Розьніца | |
| Мясцовая жывёла б. Полацкай акругі . | 6,0 | 6,54 | 0,54 | 9,1 |
| „ „ „ Магілеўск. „ . | 5,6 | 6,4 | 0,8 | 14,6 |
| „ „ „ Мазырск. „ . | 3,9 | 4,6 | 0,7 | 17,9 |
| м. швіцы . . . . . . . . . . | 8,6 | 10,8 | 2,2 | 26,0 |
| м. сімэнталы . . . . . . . . | 9,2 | 11,9 | 2,7 | 29,3 |
| м. агнельцы . . . . . . . . . | 9,6 | 10,6 | 1,0 | 10,4 |

Табліца кажа за тое, што павялічэньне ўдойлівасьці ў шматсасковых кароў у сярэднім хістаецца ад 9,1 проц. да 29 проц. Павялічэньне настолькі значнае, што яно, бязумоўна, ужо мае гаспадарчае значэньне. А раз гэта так, то і трэба лічыцца з гэтым фактам. Цікава, што гэтыя нашы лічбы супадаюць з вывадамі С. А. Івановай („О наследовании многососковости у крупного рогатого скота“), якая таксама прапрацавала гэта пытаньне на конкрэтным масавым матар'яле. Па даных С. А. Івановай полімасьція ў сярэднім павялічвае ўдой на 15,8 проц.). (Матар'ялы Анікаўскай генэтычнай дасьледчай станцыі і катэдры расплоду і генэтыкі Маскоўскага Зоотэхнічнага Інстытуту).

Застановімся ўрэшце і яшчэ на адным і апошнім пытаньні. Нажаль сваіх вывадаў мы тут даць ня зможам і таму прымушаны

будзем зьвярнуцца зноў да С. А. Івановай. Апошняя ў сваёй працы даводзіць, што полімасьцiя зьявішча спадчыннае і выклікаецца асабістым генам (ген gule), які знаходзіцца ў аўтозоме[1]). Ген полімасьціі адначасова зьяўляецца і генам малочнасьці, чаму і назіраецца корэляцыя паміж гэтымі дзьвюма адзнакамі, гэта значыць паміж шматсасковасьцю і шматмалочнасьцю (ген сыгналізатар).

Падкрэсьліваючы ўсё вышэйсказанае, мы павінны адзначыць:

1. Процант полімасных кароў сярод буйнай рагатай жывёлы БССР даволі значны.

2. Паміж шматсасковасьцю і шматмалочнасьцю ў жывёл БССР назіраецца даволі яскравая корэляцыя.

3. Полімасьція ёсьць спадчыннае зьявішча.

Вывад адгэтуль—шматсасковасьць ёсьць адна з адзнак малочнасьці, з якой магчыма і трэба лічыцца. Зразумела, з таго, што тая ці іншая жывёла полімасна, яшчэ ня значыць, што яна абавязкова будзе і шматмалочнай, але-ж шансаў у яе на больш значную малочную продукцыю будзе значна больш, чым у жывёлы з 4-ма саскамі.

Для наладжваньня масавых досьледаў па гэтаму пытаньню ў БССР аказалі-б агромную паслугу краязнаўцы. Выявіць колькасьць сустракаючыхся полімасных відаў кароў у колгасах, саўгасах і ў аднаасобнікаў, устанавіць сталы нагляд-досьлед за малочнасьцю такіх відаў кароў у параўнаньні з звычайнымі 4-сасковымі відамі—задача краязнаўцаў і краязнаўчых ячэек на мясцох. Усе гэтыя даныя праз Райбюро і часопіс „Сав. Кр." павінны быць даны, як матар'ял, адпаведным навукова-дасьледчым установам для іх навуковага падагульненьня і распрацоўкі.

---

[1]) Аўтозома—хромозола, ня зьвязаная з полам.

С. Н. Малінін.

# Палепшыць арганізацыю працы на гандлёвым пункце.

*(Нагрузка і проблема падзелу працы на гандлёвым пункце).*

Вялізарныя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва, быстрыя тэмпы індустрыялізацыі краіны і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі высоўваюць перад спажывецкай коопэрацыяй рад буйнейшых новых задач. Гэтыя новыя задачы рэконструкцыйнага пэрыоду патрабуюць карэннай перабудовы ўсёй работы спажывецкай коопэрацыі, новых мэтодаў, формы і тэмпаў работы.

Рашэньні XVI парт-зьезду і сьнежаньскага аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) аб забесьпячэньні і рабоце спажыўкоопэрацыі, нарэшце, апошняя адозва ЦК, СНК і Цэнтрасаюзу ад 12 мая г. г. — выразна паказваюць конкрэтныя шляхі гэтай перабудовы на падставе: шчыльнейшай увязкі справы забесьпячэньня з выкананьнем вытворчых плянаў, першачарговага і пераважнага забесьпячэньня ўдарнікаў, больш гібкага манэўраваньня таварнымі масамі і концэнтрацыі іх на важнейшых участках соцыялістычнага будаўніцтва. Гэтыя рашэньні паказваюць на неабходнасьць далейшага няўхільнага ўмацаваньня строгага клясавага прынцыпу забесьпячэньня, далейшага палепшаньня і яшчэ большага пашырэньня работы зачыненых рабочых коопэратываў, рашучага павышэньня якасьці абслугоўваньня рабочага і колгаснага спажыўца і ўзмацненьня рабочага контролю над коопэрацыяй. Магутным вагаром паляпшэньня работы спажыўкоопэрацыі павінны зьявіцца: пераход на гаспадарчы разрахунак, барацьба за дасягненьне максымальнай хуткасьці тавараабароту і поўнай ліквідацыі затаварваньня, лепшая арганізацыя і тэхніка справы разьмеркаваньня, спэцыялізацыя гандлёвай сеткі, стварэньне ўмоў матар'яльнай зацікаўленасьці работнікаў коопэрацыі ў павышэньні вытворчасьці працы і якасьці працы.

У сувязі з вырашэньнем пастаўленых буйнейшых задач палепшаньня работы спажыўкоопэрацыі асабліва востра паўстае неабходнасьці рашучага ўзмацненьня тэмпаў рацыяналізацыі, сыстэматычнага ўкараненьня ў практыцы коопэрацыйных гандлёвых прадпрыемстваў і гандлёвых пунктаў усіх ужо вядомых і апраўдаўшых сябе мерапрыемстваў у галіне арганізацыі і тэхнікі гандлёвае справы і акрамя таго, сапраўды шырока пастаўленай дасьледчай работы па знаходжаньню, распрацоўцы і дасьледчай праверцы новых мэтодаў, новых шляхоў рацыяналізацыі.

Ня гледзячы на рад дасягненьняў у справе рацыянальнай арганізацыі і тэхнікі работы коопэрацыйных арганізацый і гандлёвых пунктаў, дзякуючы работам Сэктару Рацыяналізацыі Цэнтрасаюзу, „Оргстроя" (гандлёвая брыгада), а таксама і раду нізавых коопэра-

цыйных організацый, усё-такі фронт рацыяналізацыі, асабліва ў галіне дробнага гандлю зьяўляецца яшчэ надзвычайна слабым, незадавальняючым тым задачам, якія перад ім стаяць.

Ня спыняючыся на шматлікіх і агульна-вядомых прыкладах гэтага адставаньня, пяройдзем да аднаго з самых забытых вучасткаў гэтага фронту — задачы рацыянальнай організацыі працы прадаўца, якая мае сваёй мэтай павысіць вытворчасьць працы работніка прылаўку, а, значыцца, павялічыць прапускную здольнасьць гандлёвых пунктаў, палепшыць якасьць абслугоўваньня спажыўца за кошт паскоранага водпуску тавараў, ліквідацыі чаргі і г. д., што, разам узятае, вядзе да патаненьня гандлёвага апарату, а таксама і да аздараўленьня працы саміх прадаўцоў. Няўвага да гэтага пытаньня асабліва практычна шкодна таму, што ва ўмовах пакуль яшчэ надзвычайна нізкай тэхнічнай базы нашага гандлю і амаль поўнай адсутнасьці мэханізацыі процэсаў на дробных гандлёвых пунктах, узьняцьце вытворчасьці працы прадаўца за кошт больш поўнага скарыстаньня рабочага часу і рацыянальнай організацыі яго працы, зьяўляецца адным з найбольш істотных і рашаючых пытаньняў узьняцьця абслугоўваньня спажыўцоў на новую вышыню.

Пры праверцы выявілася, што ня гледзячы на крыкі работнікаў спажыўкоопэрацыі аб надзвычайнай перагрузцы прадаўцоў, нагрузка іх фактычна — зусім недастатковая.

Паводле матар'ялаў абсьледваньня нагрузкі прадаўцоў Менскага ЦРК[1]), шчыльнасьць рабочага дня прадаўца гастраномічнага адзяленьня 15-ае крамы ў 1929 г. складала ўсяго 64,16 проц. рабочага часу ў сярэднім (35,84 проц.—прастоі, у мясным адзяленьні 104-й крамы ў тым самым годзе сярэдняя нагрузка прадаўца раўнялася 62,18 проц. (прастоі — 37,87).

У 1930 г. (увесну) у 6-ай краме МЦРК па гастраномічнаму аддзяленьню нагрузка прадаўца складала ў сярэднім усяго 54,7 проц. рабочага часу (прастоі 45,3 проц.), па мясному аддзяленьню 66,9 проц., у бакалейным аддзяленьні прадаўцы былі нагружаны на 74.7 проц. рабочага часу.

Табл. 1

| Год вывучэньня | Аддзяленьне і магазын | У сэкундах | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Праца | | Прастоі | | Сяр. працяжн. раб. дня. | |
| | | Сэк. | У %% да раб. дня | Сэк. | У %% да раб. дня | Сэк. | У %% да раб. дня |
| 1929 | Гастраномічная адз. Маг. № 15 | 16812 | 64,16 | 9390 | 35,84 | 26202 | 100 |
| | Мясн. аддз. Магаз. № 104. | 17382 | 62,18 | 10572 | 37,82 | 27954 | 100 |
| 1930 г. Магазын № 6 | Бакалейн. аддз. | 21524 | 74,7 | 7276 | 25,3 | 28800 | 100 |
| | Гастраноміч. аддз. | 15745 | 54,7 | 13055 | 45,3 | 28800 | 100 |
| | Мясн. аддз. | 18998 | 66,0 | 9802 | 34,0 | 28800 | 100 |
| | Галантар. аддз. | 26169 | 90,9 | 2631 | 9,1 | 28800 | 100 |

Увага: Па магазынам 15 і 104 некаторыя фотографіі зроблены ў перадвыходныя дні дзякуючы чаму агульная сяр. працяжн. раб. дня менш 8 гадзін.

[1]) Вывучэньне нагрузкі і зьместу рабочага дня работнікаў прылаўку МЦРК вытваралася Аддзелам Організацыі Працы Інстытуту Аздараўленьня і Організацыі Працы па дагаворанасьці з БКС і ЦП Саюзу Савгандальслужачых, з удзелам Менскай Канторы

Такім чынам і ва ўмовах Беларусі (Менск) нагрузка работніка прылаўку дробных продуктовых крам у 1929 і 1930 годзе была зусім недастатковай.

Зварачаючыся да аналізу прычын прастояў, мы можам гаварыць пра магчымасьць іх зьнішчэньня і конкрэтныя мерапрыемствы, неабходныя для гэтага (гл. т. 2).

Табл. 2

| Прычыны прастояў \ Аддзяленьні | У %% ад агульнай колькасьці прастояў. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Гастр. аддз. маг. 15 | Мясн. аддз. маг. 104 | Бакал. аддз. маг. 6 | Гастран. аддз. маг. 6 | Мясн. аддз. маг. 6 | Галянтар. аддз. маг. 6 |
| Адсутнасьць пакупнікоў | 92.0 | 34.6 | 77.0 | 91.7 | 7.8 | 27.5 |
| „ патрэбных тавараў | 0.2 | 64.5 | 1.2 | — | 56.5 | 2.0 |
| Адсутнасьць рабочых струмантаў | — | — | 0.2 | — | 0.2 | — |
| Па віне прадаўца | 0.6 | 0.5 | 1.8 | 0.3 | 5.1 | 21.0 |
| Адпачынак для прыняцьця ежы | 7.2 | 0.4 | 19.2 | 7.6 | 24.9 | 49.5 |
| Інш. дробн. прастоі | — | — | — | 0.4 | 5.5 | — |
| Разам | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |

У бакалейным і гастраномічным аддзяленьнях пераважная маса прастояў работнікаў прылаўку выклікаецца адсутнасьцю ў пэўныя гадзіны работы крам пакупнікоў. Гэта група прастояў у бакалейным аддзяленьні 6-ае крамы складае 77 проц. ад усёй колькасьці прастояў, у гастраномічным аддзяленьні магаз. № 15 — 92 проц., па 6-му магаз. 91,7 проц. Гэтыя прастоі ўзьнікаюць у выніку няроўнамернага наплыву пакупнікоў у розныя гадзіны дня і іх можна ўнікнуць раставіўшы шмат прадаўцоў такім чынам, каб у гадзіны павялічэньня наплыву ў прылаўку работала адпаведна большая колькасьць прадаўцоў, і, наадварот, у гідзіны падзеньня крывой наплыву пакупнікоў і лік прадаўцоў, работаючых у прылаўка, адпаведна памяншаўся.

Апошняга можна дасягнуць увядзеньнем так званай „лентачнай сыстэмы“ выхада на работу штату. Сутнасьць гэтага мерапрыемства, якое лёгка дапасаваць у дзьвюх і паўтаразьменных крамах, нават пры невялікім штаце, — заключаецца ў тым, што прадаўцы выходзяць на работу не адначасова — па зьменах, а ў розныя гадзіны, чым і дасягаецца концэнтрацыя найбольшае колькасьці прадаўцоў у прылаўка ў гадзіны максымальнага наплыву пакупнікоў. Гэта сыстэма робіць нагрузку прадаўца роўнамернай у розныя гадзіны дня, а гэта, натуральна, ушчыльняе яго рабочы дзень, зьнішчаючы прастоі з-за адсутнасьці пакупнікоў. Акрамя таго, лентачная сыстэма аблягчае работу работнікаў прылаўку, вызваляючы яго ад асаблівага напружаньня ў гадзіны максымальнага наплыву, а таксама нясе з сабою вялізарныя перавагі з пункту гледжаньня абслугоўваньня спажыўцоў.

---

„Оргстроя“, у пэрыод правядзеньня работы па вывучэньню эфэктыўнасьці рацыяналізацыі гандлёвых пунктаў мэтодамі Оргстроя. Па незалежачых ад Інстытуту ўмовах работа была скончана. Фотографіі рабочага дня работнікаў прылаўку ахапілі тры продуктовых дробных крам: 15-ю — цэнтральную, 6-ю — буйную раённую і 104-ю. Усяго было складзена 41 фотографія рабочага дня. (25 толькі па магаз. — № 6).

Тая невялікая колькасьць прастояў з-за адсутнасьці пакупнікоў, якая можа застацца ў прадаўца і пасьля ўвядзеньня лентачнай сыстэмы, павінна быць поўнасьцю зьнішчана выкананьнем работнікам прылаўку ў пэрыоды адсутнасьці пакупнікоў некаторых дапаможных работ гандлёвага пункту, як, напрыклад: пабудова выставак і вітрын, прывядзеньне ў парадак тавараў на рабочым месцы і г. д.

Прастоі па віне прадаўца (якія дасягаюць 1,8 проц. у бакалейным аддзяленьні 6-ае крамы, у гастраномічных аддзяленьнях 0,3—0,6 проц. агульнага ліку прастояў) і з-за адсутнасьці струманту могуць быць зусім зьнішчаны. Неабходныя пэрыоды для адпачынку павінны быць уведзены ў норму і падпарадкаваны рацыянальнаму рэжыму.

Усё сказанае можна паўтарыць і ў адносінах галянтарэйнага аддзяленьня.

У вывучаемы пэрыод прастоі прадаўцоў мясного аддзяленьня насілі своеасаблівы характар, на 64,5 проц. па 104-й краме і на 56,8 проц. па мясному аддзяленьню 6-ае крамы. Яны выклікаліся адсутнасьцю патрэбнага пакупніку тавару. Але нават і гэтыя прастоі можна значна зьменшыць, уводзячы строгую плянавасьць у работу забясьпечваючых баз у сэнсе цьвёрдай рэглямантацыі часу прывозкі і колькасьці дастаўляемага ў пэўны дзень мяса, на падставе чаго заўсёды можна разьлічыць патрэбны штат і гадзіны, калі ён патрэбен у краме, астатні-ж час прадаўцоў мяса скарыстаць на іншых работах гандлёвага пункту, у іншых аддзяленьнях. Яшчэ найбольш грунтоўным мерапрыемствам да зьнішчэньня паказаных перапынкаў у працы і прастояў прадаўцоў — зьяўляецца ў сучасных умовах неабходнасьць увядзеньня ў падобных гандлёвых пунктах дастатковай колькасьці дадатковых, недыфіцытных тавараў, як напрыклад: гароднiна, фрукты і інш.

Акрамя „лентачнай сыстэмы“, мерапрыемствам, якое ставіць пытаньне аб поўным скарыстаньні рабочага часу часткі дапаможных работнікаў гандлёвых пунктаў, вызваляючы іх ад залежнасьці ад няроўнамернага наплыву пакупнікоў, — зьяўляецца падзел працы ў краме.

Але проблема ўкараненьня дыфэрэнцыяванае працы у работу гандлёвых пунктаў, акрамя паказанага ўжо становучага боку, нясе з сабою яшчэ цэлы рад і больш буйных організацыйна-экономічных выгод.

Калі вялізарная экономічная і організацыйная эфэктыўнасьць падзелу працы ў прамысловасьці, сэзонных галінах вытворчасьці і сельскай гаспадарцы зьяўляецца агульнапрызнанай і даведзенай самой практыкай вытворчай работы (бесьперапынны паток у прамысловасьці, функцыянальна-комплектны мэтод работы, які з вялізарным посьпехам выспрабаван ЦІП'ам у мэталяапрацоўчай, тэкстыльнай прамысловасьці і будаўнічай справе; брыгады на лесазагатоўках, у саўгасах, колгасах, пабудаваныя на аснове падзелу працы і г. д.), то ў галіне організацыі працы ў дробных гандлёвых пунктах ідэя падзелу працы яшчэ не знайшла свайго шырокага практычнага дапасаваньня, але нават і ў сэнсе пастаноўкі адпаведных навукова-дасьледчых работ фактычна амаль зусім не разгорнута.

Праўда мы маем паасобныя паказаньні аб пасьпяховых спробах правядзеньня ў некаторых рацыяналізаваных гандлёвых пунктах падзелу працы, на што, напрыклад, паказвае в. Убэрбільлер у кнізе „Выдвиженец в магазине и распределителе“ (выд. 1931 г.) і прыво-

дзіць прыклад падзелу працы на опэрацыі паміж брыгадай фасоўшчыкаў з 2-3 чалавек, пры якой першы рабочы падрыхтоўвае пакет (разгортвае яго і загінае куты), другі напаўняе пакет таварам і ўзважвае яго, трэці заварачвае пакет і кладзе ў скрынку. Пры гэтым імітуецца работа мэтодам бесьперапыннага патоку ў прамысловасьці; аналёгічныя паказаньні сустракаюцца і ў бюлетэнях акцыйнага таварыств „Оргстрой" (за люты 1930 г. № 1).

Але гэтых паасобных паказаньняў і досьледаў, зразумела, мала, зараз павінна быць пастаўлена і вырашана практычна задача сапраўды шырокага ўкараненьня падзелу працы ў практыку дробных продуктовых гандлёвых пунктаў і па прынцыпу выкананьня рознымі рабочымі розных опэрацый і шляхам спэцыяльнага выдзяленьня і перадачы дапаможных работ некваліфікаваным рабочым.

Перад тым як спыніцца на выніках нашых нагляданьняў у гэтай галіне, дэталёва ахарактарызуем самыя работы, выконваемыя прадаўцом у гандлёвым пункце і працаёмкасьць гэтых работ.

Шматлікія і match разнастайныя работы выконваемыя прадаўцом распадаюцца на пэўныя групы, на работы, якія патрабуюць ад выканаўцы пэўнай, часта большай кваліфікацыі і работы, якія могуць выконвацца зусім некваліфікаваным работнікам. Частка работ можа выконвацца толькі ў прысутнасьці пакупніка (непасрэдны водпуск тавару), у той час як другая частка работ з бясспрэчна большым посьпехам у адсутнасьці яго (папярэдняе выважваньне, прыноска тавараў з дапаможнага памяшканьня на рабочае месца і шмат іншых); такім чынам, выходзячы з паказаных адзнак, прадстаўляецца магчымым усе работы прадаўца разьбіць на дзьве асноўныя групы: групу асноўных—„вядучых" работ, якія могуць быць выкананы толькі, калі пакупнік знаходзіцца ў гандлёвым пункце, і якія патрабуюць ад выканаўцы кваліфікацыі (веданьне тавараў і іх асаблівасьцяй, цэн, уменьне хуткага падліку ў розуме, уменьне даць пакупніку патрэбную даведку, растлумачэньне і г. д.), патрабуюць таксама пры сваім выкананьні ад прадаўца адносна большага нэрвова-мазгавога напружаньня; і другую групу — дапаможных работ, якая не патрабуе для выкананьня кваліфікацыі і якія могуць у пераважнай колькасьці выпадкаў выконвацца ў адсутнасьці спажыўца.

Да першай групы намі аднесены процэсы непасрэднага водпуску тавара спажыўцу, які складаецца з наступных асноўных элемэнтаў: прыём заказу (пытаньне пакупніка ці кароткая гутарка з прадаўцом, выпіска ордэру, прагляд і адзнака картачкі), выкананьне заказу (адшукваньне і прыноска на пярэдні прылавак патрабуемага тавару, паказ тавару пакупніку, тлумачэньні ў момант агляду і выбару тавару пакупнікам і г. д.), водпуск тавару (аддзяленьне і ўзважваньне тавару, упакоўка, прыём ордэра, выдача тавара пакупніку); дзелавая гутарка з пакупнікам і дача даведак па пытаньнях, зьвязаных з водпускам тавараў, падлік, каштоўнасьці купляемых тавараў дзеля запісу сумы ў чэк, узважваньне начыньня, калі гэта неабходна для водпуску, дадатковая ўпакоўка разам некалькіх купленых адразу тавараў, зваротная адноска на задні прылавак паказанага пакупніку, але ня купленага ім тавару, таксама аднесены да першай групы работ.

У тым выпадку, калі ў вывучаемым аддзяленьні ёсьць ручная каса, намі, як асноўная работа, улічвалася таксама: атрыманьне грошай (заключны рабочы прыём водпску), падлік выручкі ў канцы

зьмены і перадача яе загадчыку крамай ці касіру. Да асноўнай работы павінны быць аднесены і опэрацыі праверкі і адзнакі ў кніжцы, картачцы і г. д.

Дапаможнымі работамі ў гандлёвым пункце мы лічылі: фасоўку, хаджэньне на склад і прыноску тавараў на рабочае месца, прыёмку тавараў прывезеных у краму і выдачу тары для адвозкі яе з гандлёвага пункту, разборку і раскладку тавараў па паліцах і прылаўках, падрыхтоўку паковачнай тары, падрыхтоўку струмантаў (точка нажэй і г. д.) і неабходнага для работы абсталяваньня, службовыя гутаркі, прыбіраньне памяшканьня. Да гэтай самай групы намі былі аднесены і паасобныя меўшыя месца выпадковыя і пабочныя работы, як, напрыклад, падборка чэкаў, прымацаваньне пайнікаў да гандлёвага пункту, выдача абонэмэнтаў.

У выніку апрацоўкі даных фотографій рабочага дня прадаўцоў 6-ае крамы[1]), паводле прыведзенай клясыфікацыі высьветлілася наяўнасьць вельмі вялікай колькасьці дапаможных работ. У работнікаў прылаўку розных аддзяленьняў дапаможныя работы аднімаюць ад 11,3 проц. да 31,4 проц. рабочага часу (гл. табл. 4).

Табліца 4.

| Назва аддзяленьняў | У сэкундах | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Асноўная работа | | Дапаможная работа | | Прастоі | | Усяго | |
| | Абсол. | Проц. | Абсол. | Проц. | Абсол. | Проц. | Абсол. | Проц. |
| Бакалейнае . . . . . | 12847 | 44,6 | 8677 | 30,1 | 7276 | 25,3 | 28800 | 100 |
| Гастраномічнае . . . . | 6718 | 23,3 | 9027 | 31,4 | 13055 | 45,3 | 28800 | 100 |
| Мясное . . . . . . . | 11978 | 41,6 | 7020 | 24,4 | 9802 | 34,0 | 28800 | 100 |
| Галянтарэйнае . . . . | 22920 | 79,6 | 3249 | 11,3 | 2631 | 9,1 | 28800 | 100 |

Процатныя суадносіны асноўных работ да дапаможных паказваюць, што ў адносінах да мяснога аддзяленьня 6-га магазыну, якое мае 5 рабочых, мы павінны 3 паставіць на „водпуск", астатніх на дапаможную работу. У бакалейным аддзяленьні з 4-х маючыхся рабочых 3-х мэтазгодна паставіць на „водпуску", аднаго выдзеліць на дапаможную работу, даўшы яму ў дапамогу 1 рабочага, які працуе ў магазыне ў падсобным памяшканьні і г. д.

Спынімся некалькі больш падрабязна на характарыстыцы асаблівасьцяй і ўдзельнай вагі паасобных асноўных і дапаможных работ прадаўца.

У табліцы 5 прадстаўлены ўсе віды і ўдзельная вага асноўных работ.

[1]) У пэрыод правядзеньня дасьледваньняў (1930 год) крама МЦРК № 6 зьяўлялася буйной раённай крамай (знаходзілася ў рабочым раёне) з аддзяленьнямі: бакалейным, гастраномічным, пасудна-гаспадарчым, мясным і галянтарэйным.
Крама працавала 2 зьмены (толькі мясное аддзяленьне $1^1/_2$ зьмены). Лік прадаўцоў, уключаючы загадчыка крамай, вучняў і дапаможнага рабочага, быў 20 асоб.

Табліца 5

| НАЗВА АДДЗЯЛЕНЬНЯ | | Непасрэдны водпуск пакупнікоў | Гутаркі з пакупнікамі па справе дачы давед ак у сувязі з водпускам тавару і г. д. | Падлік | Дадатковая ўпакоўка некалькіх купленых тавараў разам | Узважваньне пасуды | Зваротная пераноска тавараў на задні прылавак | Атрыманьне грошай (пры наяўнасьці ручной касы) | Усяго асноўнай работы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Бакалейнае | Сэк. | 8636 | 1767 | 474 | 26 | 36 | 55 | 1853 | 12847 |
| | Проц. | 67,2 | 13,8 | 3,7 | 0,2 | 0,3 | 0,4 | 14,4 | 100 |
| Гастраномічнае | Сэк. | 6054 | 102 | — | 14 | 3 | — | 545 | 6718 |
| | Проц. | 90,1 | 1,5 | — | 0,2 | 0,1 | — | 8,1 | 100 |
| Мясное | Сэк. | 9123 | 385 | 75 | — | — | — | 2395 | 11978 |
| | Проц. | 76,2 | 3,2 | 0,6 | — | — | — | 20,0 | 100 |
| Галянтарэйнае | Сэк. | 18352 | 2753 | 43 | 553 | — | — | 1219 | 22920 |
| | Проц. | 80,1 | 12,0 | 0,2 | 2,4 | — | — | 5,3 | 100 |

Увага: Даныя пра дапаможныя работы прадстаўлены ў табліцы № 6.

Мы бачым, што па бакалейнаму аддзяленьны найбольш буйнымі групамі дапаможных работ зьяўляюцца: фасоўка (41,7 проц.), хаждэньне ў склад і падноска тавару на рабочае месца (17,6 проц.), прыбіраньне памяшканьня і рабочага месца (12,8 проц.), прычым гэтыя рэботы таксама, як і ўсе астатнія больш дробныя работы, дапаможнага характару: падрыхтоўка ўпаковачнай тары (2,1 проц.), разборка і раскладка тавараў па паліцах (2,7 проц.), прыёмка тавараў (2,0 проц.) і інш.,—бязумоўна, амаль поўнасьцю могуць выконвацца дапаможнымі работнікамі.

Па гастраномічнаму аддзяленьню дапаможнымі работамі, на якія прадаўцы затрачвалі максымум часу, зьяўляліся: фасоўка (84,7 проц.), што тыпова іменна для вывучаемай крамы, дзе, дзякуючы ўзаемадапамозе і колектыўнай рабоце, работнікі гастраномічнага аддзяленьня часта выконвалі гэту падрыхтоўчую работу для бакалейнага аддзяленьня; апошняе абумоўлівалася і адносна невялікай нагрузкай прадаўцоў гастраномічнага аддзяленьня ў вывучаны пэрыод, дзякуючы чаму былі магчымы падобныя комбінацыі.

Прыбіраньне рабочага месца і памяшканьня займае 17,8 проц. ад усяго часу, затрачваемага на дапаможныя работы; потым ідзе прыёмка тавараў (10,8 проц.) і іншыя больш дробныя работы. У адносінах усіх памянёных работ можна паўтарыць тое самае, што ўжо сказана пра бакалейнае аддзяленьне.

Дапаможныя работы прадаўцоў у мясным аддзяленьні характарызуюцца значна большымі затратамі часу на разборку і падрыхтоўку тавару да продажы (31,9 проц.), што выклікалася неабходнасьцю комбінаваць пры выдачы спажыўцом лепшыя і горшыя часткі мяса; потым ідзе папярэдняя падрыхтоўка і разважваньне тавараў да продажы

Табліца 6.

| Назва аддзяленьня | | Фасоўка (папярэдняе ўзважваньне тавараў) | Разборка, раскладка тавараў па паліцах, падрыхтоўка тавараў да продажы. | Падрыхтоўка ўпаковачнай тары | Падрыхтоўка інструмантаў і абсталяваньня | Службовыя гутаркі | Прыёмка тавараў | Хаджэньне ў склад і падноска тавараў | Прыбіраньне памяшканьня і рабочага месца | Работа з чэкамі і г. д. | Адпраўка тары | Выдача абонэмэнтаў (выпадковая работа) | Прымацаваньне да крамы | Іншыя дробныя дапаможныя работы | Усяго дапаможных работ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Бакалейнае | Сэк. | 3619 | 233 | 182 | 37 | 609 | 174 | 1527 | 1106 | 366 | — | — | — | 824 | 8677 |
| | Проц. | 41,7 | 2,7 | 2,1 | 0,4 | 7,0 | 2,0 | 17,6 | 12,8 | 4,2 | — | — | — | 9,5 | 100 |
| Гастраномічнае | Сэк. | 5841 | 4 | 281 | — | 175 | 975 | 116 | 1612 | — | 20 | — | — | — | 9027 |
| | Проц. | 64,7 | 0,1 | 3,1 | — | 2,0 | 10,8 | 1,3 | 17,8 | — | 0,2 | — | — | — | 100 |
| Мясное | Сэк. | 900 | 2237 | — | 46 | 812 | 250 | — | 675 | — | — | — | 2100 | — | 7020 |
| | Проц. | 12,8 | 31,9 | — | 0,7 | 11,5 | 3,6 | — | 9,6 | — | — | — | 29,9 | — | 100 |
| Галянтарэйнае | Сэк | — | 108 | 32 | 20 | 21 | — | 1160 | 1548 | — | — | 360 | — | — | 3249 |
| | Проц. | — | 3,3 | 1,0 | 0,6 | 0,7 | — | 35,7 | 47,6 | — | — | 11,0 | — | — | 100 |

(3,6 проц,); вельмі вялікі час затрачваецца на службовыя гутаркі (11,5 проц.). Надзвычайна многа часу, у пэрыод абсьледваньня крамы, у прадаўцоў мясного аддзяленьня ўходзіла на пабочную, нясталую па свайму характару работу — прымацаваньне пайнікаў да крамы (29,9 проц.).

Абсолютная большасьць дапаможных работ прадаўцоў галянтарэйнага аддзяленьня таксама могуць выконвацца ў адсутнасьці пакупнікоў і дапаможным работнікам.

Такім чынам, пры самым павярховым вывучэньні, робіцца відавочнай магчымасьць выдзяленьня большай часткі дапаможных работ у асобную групу, для выкананьня спэцыяльным дапаможным штатам.

Прыведзеныя лічбы і аналіз характару выконваемых прадаўцамі ў гандлёвым пункце работ, сьцявярджаюць поўную магчымасьць практычнага правядзеньня дыфэрэнцыяцыі працы ў крамах, што павінна даць надзвычайна вялікі экономічны і арганізацыйны эфэкт, бо падзел працы на гандлёвым пункце вядзе да:

1) Павялічэньня вытворчасьці працы работнікаў прылаўку і палепшаньня абслугоўваньня спажыўцоў.

2) Памяншэньня затрат на ўтрыманьне штату гандлёвых пунктаў, бо для выкананьня дапаможных работ ужо ня будуць патрэбны кваліфікаваныя прадаўцы. Іх будуць рабіць менш кваліфікаваныя ніжэй аплачваемыя рабочыя. Магчыма і непасрэднае скарачэньне штату прадаўцоў за кошт агульнага падвышэньня вытворчасьці працы, у сувязі з падзелам працы.

3) Да лепшага скарыстаньня ўшчыльненьня рабочага часу ўсіх дапаможных работнікаў гандлёвага пункту, бо калі яны ня будуць зьвязаны і залежаць ад наплыву пакупнікоў, яны ня будуць мець галоўнай прычыны простояў, — простояў з-за адсутнасьці пакупнікоў.

4) Зьмякчэньня вострага недахопу ў кадрах кваліфікаваных работнікаў прылаўку.

5) Да меншай нэрвовасьці і напружнасьці прадаўца, бо ўжо ня трэба будзе так раскідвацца ў рабоце, раз-по-раз пераходзіць ад аднэй работы да другой.

Трэба асабліва падкрэсьліць, што пастаўленыя намі і далёка яшчэ нявырашаныя практычна пытаньні, вельмі шчыльна зьвязаны з цэлым радам найактуальных задач у галіне рацыяналізацыі працы ў гандлёвым пункце: выпрацоўкай мэтодаў нормаваньня працы прадаўца, распрацоўкай сыстэмы аплаты працы (пераход да зьдзельшчыны і прэміяльна-прогрэсыўных форм аплаты), рацыяналізацыяй абсталяваньня, мэханізацыяй, новымі мэтодамі абслугоўваньня спажыўцоў, як, напрыклад,: папярэднія заказы, дастаўка продуктаў на дом і г. д.

Усе гэтыя пытаньні, правільнае вырашэньне якіх абяцае рашучае палепшаньне работы спажыўкоопэрацыі, зьдзешаўленьне гандлёвага апарату, наданьне яму патрэбнай чоткасьці і гібкасьці ў рабоце, патрабуюць да сябе значна большай увагі, чым тая, што зьвярталася на іх да самага апошняга часу, патрабуюць разгортваньня адпаведнай і сыстэматычнай дасьледчай работы і шырокага абгаварэньня.

Уся рабочая грамадзкасьць павінна забясьпечыць рашучы пералом да новых тэмпаў на гэтым вучастку рацыяналізацыі.

Пастаўленыя пытаньні асабліва пасьпяхова могуць і павінны распрацоўвацца і ўжывацца ў ЗРК—гэтых сапраўдных „цэхах забесьпячэньня“, найбольш забясьпечаных удзелам і ўвагай рабочай грамадзкасьці. ЗРК павінны першымі рашуча перабудоўваць сваю работу і паляпшаць яе якасьць усімі вядомымі ў галіне тэхнікі і організацыі гандлёвае справы мерапрыемствамі.

Вось чаму пытаньне рацыяналізацыі гандлёвай сеткі зьяўляецца пытаньнем, якому краязнаўчыя ячэйкі павінны ўдзяліць максымум увагі. Асабліва актуальна гэтае пытаньне для краязнаўчых ячэек саміх коопэрацыйных організацый гораду і вёскі.

---

С. П. Нікіфаровіч.

# Фэнолёгічны агляд па БССР за 1930 г.

За ўвесь 1930 год ЦБК атрымала з месц 395 фэнолёгічных назіраньняў. У параўнаньні з 1928 годам гэта складае толькі 16 проц.

Зусім нязначная колькасьць паступіўшых матар'ялаў, няроўнамерны ахоп імі ўсёй тэрыторыі БССР (адсутнічаюць весткі з цэнтральнай і паўднёва-ўсходняй часткі) і вельмі неакуратная дасылка назіраньняў у розныя поры году пазбаўляе мажлівасьці даць поўны малюнак ходу фэнолёгічных процэсаў на абшарах Беларусі за 1930 г. Вось чаму фэнолёгічны агляд за гэты год будзе досыць кароткі і далёка няпоўны.

Зіма 1929-30 г. была цёплая і маласьнежная, з прычыны чаго рана пачынаюць выяўляцца адзнакі наступаючага пад'ёму жыцьцёвых зьяў. Так, у канцы студзеня (Барысаў) і пачатку лютага (Касьцюковічы, Горкі) назіральнікі адзначаюць першую поўную песьню сініцы вялікай (Parus major) і шлюбныя гульні крумкачоў (Corvus corax).

5 сакавіка ў паўднёва-заходняй частцы БССР (Мілашэвічы, Мазыршчына) зьявіліся першыя шпакі (Sturnus vulgaris), прасоўваньне якіх на поўнач закончылася к 22 сакавіка. Адначасова з прылётамі шпакоў засьпявала жаўранка звычайная (Alaudra arvensis).

У апошняй дэкадзе сакавіка зьявіліся белая пліска (Motacilla alba), бусел (Cyconia alba) і засьпяваў зяблік (Fringilla coelebs).

Паміж 11 (Мілашэвічы) і 29 красавіка (Езярышчы, Віц.) закукавала зязюля (Cuculus canorus). У другой декадзе красавіка зьявілася ластаўка звычайная (Hirundo rustica) і ў апошняй дэкадзе—засьпяваў салавей.

Калі прыняць працяжнасьць пэрыодаў орнітолёгічных зьяў 1928 г. (Н. К. № 12, 1929 г.) блізкімі да сярэдніх, то можна бачыць, што аналёгічныя зьявы 1930 г. прайшлі на 6—8 дзён раней.

У расьлінным сьвеце ход веснавых зьяў працякаў у наступным парадку. 5 сокавіка пачаўся рух соку ў бярозы на поўдні (Мілашэвічы) і 1 красавіка на поўначы (Езярышчы, Віцеб.). Зеляненьне бярозы і чарэмхі адзначана па ўсёй тэрыторыі Беларусі ў апошняй дэкадзе красавіка, а зацьвітаньне чарэмхі ў першай дэкадзе мая. Самае ранняе (30-IV) цьвіценьне яе адзначана па Мазыршчыне і самае позьняе (12-V) у Віцебшчыне. Такім чынам, сярэдняя сутачная хуткасьць прасоўваньня гэтай зьявы з поўдня на поўнач вызначаецца ў 43 клм.

З веснавых с.-гаспад. зьяў наглядаліся наступныя. Ворка пад ярыну пачалася на поўдні (Мазыршчына) 21 сакавіка, у цэнтральнай Беларусі 10—15 красавіка і на поўначы (Віцеб.) 28 красавіка. Сяўба

аўсу і бульбы пачалася ў большасьці раёнаў у другой дэкадзе красавіка. У першай дэкадзе мая зацьвілі вішня, ігруша і ў другой—яблыня.

Першая навальніца па ўсёй БССР адзначана паміж 17 і 20 красавіка, а на Мазыршчыне нават 13 красавіка.

Мэтэоролёгічныя ўмовы для разьвіцьця жывой прыроды з пачатку вясны былі спрыяючыя. Красавік месяц быў досыць цёплы з дастатковай колькасьцю атмосфэрных ападкаў. Спачатку мая, па вестках некаторых назіральнікаў, устанавілася сухмень, якая працягвалася амаль да апошняй дэкады чэрвеня і кепска адбілася на агульным стане яравых і азімых хлябоў. У канцы мая адзначана пахаладаньне. Ноччу з 3 на 4 і з 5 па 6-ае чэрвеня былі замаразкі, якія папсавалі крыху маладыя ўсходы бульбы, гуркоў, фасолі, памідор.

Лета характарызуецца найбольш відавочна, пры дапамозе параўнаньня ходу пасьпяваньня розных пладоў.

Па прыкладу мінулых гадоў прывядзем даныя аб пасьпяваньні жыта і некаторых лесавых ягад, як напр., суніц (Fragaria vesca). Трэба адзначыць, што колькасьць назіральнікаў аб пасьпяваньні пладоў, і наогул летніх фэнозьяў абмяжоўваецца адзінкамі, а таму і немагчыма дакладна вызначыць ход летніх фэнолёгічных працэсаў.

Назіраньні аб працяжнасьці пасьпяваньня жыта маюцца з 4 фэнопунктаў, прычым адсутнічаюць весткі з паўднёвай і паўночнай часткі БССР. На падставе гэтых матар'ялаў відаць, што зацьвітаньне жыта назіралася паміж 1 (Чырвоная Слабада) і 12 чэрвеня (Горкі), а першае жніво паміж 16 і 24 ліпня. Такім чынам, у сярэднім пэрыод пасьпяваняя жыта ў гэтым годзе вызначаецца ў 42 дні (табл. 2).

Пэрыод пасьпяваньня суніц замыкаецца ў межах ад 23 дзён да 37 дзён, а ў сярэднім ён дае лічбу ў—32 дні. (табл. 3).

Для характарыстыкі восені магчыма скарыстаць толькі некаторыя фэнозьявы. Так зацьвітаньне верасу (Caluna vulgaris) назіралася паміж 27 ліпня (Барысаў, Горкі) і 12 жніўня (Чырвоная Слабада).

Пачатак афарбоўкі лісьцяў у клёна ў Чырвонай Слабадзе адзначаны 9 жніўня, а поўнае агаленьне яго ад лісьцяў—14 кастрычніка. У Касьцюковічах гэтыя зьявы адзначаны 24 верасьня і 10 кастрычніка.

Адлёт у вырай ластавак назіраўся ў Езярышчах 11 верасьня, у Чырвонай Слабадзе 21 верасьня. Першыя адлётныя стаі жораваў заўважаны ў Барысаве 4 верасьня, у Езярышчах 11 верасьня і ў Чырвонай Слабадзе 26 верасьня.

Першы васеньні замаразак, які пабіў гуркі, бульбоўнік, адзначаны 20 верасьня (Барысаў, Езярышчы) і 3 кастрычніка (Чырвоная Слабада) і выпад першага сьнегу—1-3 кастрычніка (Горкі, Барысаў, Чырвоная Слабада).

У заключэньні неабходна застанавіцца на агульным стане фэнолёгічнай працы ў БССР. Аб важнасьці і значэньні фэнолёгіі ў справе вывучэньня біоклімату пісалася ўжо шмат. Прыпыняцца на гэтым ня будзем.

На жаль, прыходзіцца констатаваць, што гэты від краязнаўчай працы ў 1930 г. зусім заняпаў. Калі ў 1928 г. фэнолёгічная сетка па ўсёй Беларусі складалася з 53 фэнопунктаў і матар'ялы сыстэматычна дасылаліся ў ЦБК, то ў 1930 г. такіх пунктаў налічвалася ўсяго каля 10, і весткі ў абмежаванай колькасьці паступалі вельмі неакуратна

Магчыма, што некаторыя фэнопункты, праводзячы назіраньні ў сябе, не дасылалі іх у ЦБК.

У нас ёсьць пункты, якія працуюць з 1924 г. (ня кажучы ўжо аб назіраньнях Главацкай, якая вядзе іх з 1895 г.). ЦБК неабходна ўзяць іх на вучот і прыняць адпаведныя меры, каб праца вялася без перапынку і надалей. У свой час на старонках часоп. „Савецкая Краіна“ (б. „Наш Край“) многа пісалася аб фэнолёгічнай працы, але конкрэтнага ў справе організацыйна-мэтодычнага наладжваньня яе зроблена зусім мала. У выніку—работа спынілася.

Трэба наладжваць гэту работу і пакончыць з кустаршчынай і самацёкам, якія да гэтага часу назіраліся. Фэноцэнтар павінен ведаць, хто пэрсанальна адказвае за пастаноўку работы на тым ці іншым пункце. У нас часта бывае так, што ў якім-небудзь месцы работа добра вядзецца падрад некалькі гадоў. Потым назіральнік ад'яжджае і не застаецца ніякіх сьлядоў папярэдняй работы. Гэтага не павінна быць. Копіі назіраньняў абавязкова павінны захоўвацца пры раённым т-ве.

Далей трэба прызнацца, што якасьць нашых фэнолёгічных назіраньняў пакуль што досыць нізкая. Некаторыя назіральнікі, дзякуючы непадрыхтаванасьці, слаба разьбіраюцца ў тых об'ектах і зьявах, якія даюцца ў мінімальных програмах па фэнолёгіі. Напрыклад, назіральнік запісвае: „зацьвіла алешына“ (Езярышчы, Мілашэвічы), „зацьвіла смародзіна“ (Мілашэвічы), але ня ўказвае, якая алешына—чорная ці шэрая, якая смародзіна—чорная ці чырвоная. Ёсьць такія недакладнасьці. Назіральнік (Тураў) за 1929 г. адзначае: 25 красавіка—„прыляцелі зязюля і ластаўка“. 27 красавіка—„прыляцелі салавей і жаўранка“.

Зразумела, што адначасовага прылёту салаўя і жаўранкі сапраўды ня бывае. Салавей, прылятае значна пазьней, чымся жаўранка, а апошняя раней, чымся зязюля і ластаўка. Па-другое, пад тэрмінам „прыляцелі“ што трэба разумець? Ці сапраўды толькі прылёт (што ня так лёгка і заўважыць, як напр., прылёт салаўя ці зязюлі) ці першую іх песьню. Урэшце, ёсьць і такія запісы: 22 сакавіка—„перад маім вакном да скварэшні прыляцеў шпак“. 19 мая—„крычыць івалга“, 20 мая—„крычыць кукушка“, 24 мая „пыліць сасна“, 12 чэрвеня „цьвіце жыта“ (Горкі).

Бязумоўна, што такая рэгістрацыя зьяў ня зусім дакладная і не адпавядае запатрабаваньням інструкцыі аб вядзеньні фэнолёгічных назіраньняў. Як разумець: „крычыць кукушка“? Першы гэта яе крык ці яна ўжо і раней крычала. „Цьвіце жыта“, таксама ня відаць, што гэта пачатак зьявы. Пры апрацоўцы фэноматар'ялаў важна ведаць ці пачатак ці канец зьявы, а яшчэ ляпей, калі даецца і пачатак і канец.

Задача фэнокамісіі выправіць усе гэтыя недахопы. Неабходна дабівацца адзінства ў мэтодах назіраньня; дакладна, ясна і чотка весьці запісы; падвысіць кваліфікацыю слаба падрыхтаваных назіральнікаў, прапусьціўшы іх праз кароткатэрміновыя курсы; лепш наладзіць організацыйна-мэтодычнае кіраўніцтва; часьцей скарыстоўваць жывы інструктаж; выдаць масавую агульна-даступную літаратуру па фэнолёгіі; на старонках часоп. „Савецкая Краіна“ часьцей друкаваць фэнолёгічны бюлетэнь.

---

Табліца 1.

**Бяроза і Чарэмха.**

| № | Месца нагляданьня | Бяроза (Betula verrucosa) | | | Чарэмха (Prunus Padus) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Пачатак руху соку | Зеляненьне | Лік дзён | Зеляненьне | Зацьвітаньне | Лік дзён |
| 1 | Мілашэвічы . . . | 5-III | — | — | 19-IV | 30-IV | 11 |
| 2 | Тураў. . . . | 13-III | 22-IV | 40 | — | 29-IV | — |
| 3 | Чырвоная Слабада . . | 23-III | 22-IV | 30 | 22-IV | 4-V | 12 |
| 4 | Булгары. . . . | 15-III | 20-IV | 35 | 20-IV | 30-IV | 10 |
| 5 | Менск. . . . | — | 24-IV | — | 24-IV | 9-V | 15 |
| 6 | Барысаў. . . . | 26-III | 26-IV | 31 | 21-IV | 5-V | 14 |
| 7 | Белы . . . . | 4-IV | 24-IV | 20 | 22-IV | 10-V | 18 |
| | У сярэднім . . | — | — | 31 | — | — | 13 |

Табліца 2.

**Працяжнасьць пасьпяваньня азімага жыта**

| № | Месца нагляданьня | Зацьвітаньне | Першае жніво | Працяжнасьць пасьпяваньня |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Чырвоная Слабада . . . . | 1-VI | 16-VII | 44 |
| 2 | Менск. . . . . . | 6-VI | 17-VII | 40 |
| 3 | Барысаў . . . . . | 5-VI | 17-VII | 41 |
| 4 | Горкі. . . . . . | 12-VI | 24-VII | 41 |
| | У сярэднім. . . | — | — | 42 |

Табліца 3.

**Працяжнасьць пасьпяваньня Суніц „Fragaria vesca“.**

| № | Месца нагляданьня | Зацьвітаньне | Першыя ягады | Працяжнасьць пасьпяваньня |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Чырвоная Слабада . . . . | 9-V | 31-V | 23 |
| 2 | Касьцюковічы . . . . . | 12-V | 14-VI | 33 |
| 3 | Барысаў . . . . . | 8-V | 12-VI | 34 |
| 4 | Горкі. . . . . . | 20-V | 21-VI | 32 |
| 5 | Белы . . . . . . | 9-V | 15-VI | 37 |
| | У сярэднім . . | — | — | 32 |

Табл. 4.

## Орніто-фэнолёгічныя нагляданьні за 1930 г.

| № | Месца нагляданьня | | φ | λ ад Грынвіча | Зьяўленьне шпакоў Sturnus vulgaris | Першая песьня жаўранкі Alauda arvensis | Першая песьня зябліка Fringilla coelebs | Заяўленьне белай плиські Motacilla alba | Першыя стаі: Гусей Anser | Першыя стаі: Жораваў Grus Grus | Прылёт белага бусла Cyconia alba | Зьяўленьне ластаўкі-касаткі Hirundo rustica | Першая песьня салаўя Luscinia | Першая кукаваньне зязюлі Cuculus canorus | Першы крык Драча Crex crex |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Мілашэвічы . . | Мазыр. | 51°48′ | 27°53′ | 5-III | 20-III | — | 25-III | 21-III | — | 26-III | — | — | 11-IV | 5-V |
| 2 | Тураў . . . . | „ | 52°04′ | 27°44′ | 20-III | 18-III | — | — | 9-III | 12-III | 25-III | 18-IV | — | — | — |
| 3 | Чырвоная Слабада | Бабр. | 52°45′ | 27°10′ | 11-III | 16-III | 22-III | 25-III | 9-III | 14-III | 26-III | 18-IV | 21-IV | 20-IV | 2-V |
| 4 | Булгары . . . | „ | | | — | 5-III(?) | — | — | 15-III | 15-III | 20-III | — | 20-IV | 15-IV | 7-V |
| 5 | Касьцюковічы . | Магіл. | 53°22′ | 32°03′ | 22-III | 12-III | 25-III | 4-IV | 13-IV | — | 5-IV | 17-IV | 25-IV | 20-IV | 13-V |
| 6 | Менск . . . . | Мен. | 53°54′ | 27°33′ | 24-III | 10-III | 24-III | 5-IV | — | — | 8-IV | 7-V | — | — | — |
| 7 | Барысаў . . . | „ | 54°15′ | 28°30′ | 10-III | 10-III | 22-III | 20-III | — | — | 24-III | 18-IV | 24-IV | 19-IV | 7-V |
| 8 | Горкі . . . . | Арш. | 54°17′ | 30°59′ | 22-III | 21-III | 29-III | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 9 | Полацак . . . | Пол. | 55°29′ | 28°48′ | 8-III | 8-III | — | — | — | — | — | — | — | — | 11-V |
| 10 | Езярышча . . | Віц. | 55°50′ | 30°03′ | 21-III | 11-III | — | 7-IV | — | — | 9-IV | — | 13-IV | 29-IV | — |
| 11 | Белы . . . . | Смал. | 55°50′ | 32°57′ | 9-III | 14-III | 7-IV | 6-IV | 10-III | 24-III | — | — | 23-IV | 24-IV | 14-V |

## Вясковыя фіто-фэнолёгіч

| № | Месца наглядданьня | | φ | λ ад Грынвіча | Пачатак руху соку ў Бярозы Betula verrucosa | Зацьвітаньне | | | | | | Зеляненьне | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Падбел Tussilago Farfara | Пралеска блакітная Anemone Hepatica | Пралеска белая Anemone nemorosa | Шэрая алешына Alnus incana Wilb | Ляшчына Corylus Avellana | Лотаць Caltha palustris | Чарэмха Prunus Padus | Бяроза |
| 1 | Мілашевічы . | Мазырш. | 51°48′ | 27°53′ | 5-III | — | — | — | — | — | — | 19-IV | — |
| 2 | Тураў . . . | " | 52°04′ | 27°44′ | 13-III | — | — | — | — | — | 10-IV | — | 22-IV |
| 3 | Чырвон. Слабада . . | Бабр. | 52°45′ | 27°10′ | 23-III | — | 12-IV | 19-IV | 28-III | 21-III | 17-IV | 22-IV | 22-IV |
| 4 | Булгары . . | " | — | — | 15-III | 10-III | 10-III | — | — | 15-III | — | 20-IV | 20-IV |
| 5 | Касьцюковічы | Магіл. | 53°22′ | 32°03′ | 25-III | 11-IV | 10-IV | — | 4-IV | — | 26-IV | — | — |
| 6 | Менск . . | Мен. | 53°51′ | 27°33′ | — | — | — | — | 8-IV | — | 26-IV | 24-IV | 29-IV |
| 7 | Барысаў . . | " | 54°15′ | 28°30′ | 26-III | 5-IV | 4-IV | 12-IV | — | 6-IV | 16-IV | 21-IV | 26-IV |
| 8 | Горкі . . . | Арш. | 54°17′ | 30°59′ | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 9 | Полацак . . | Пол. | 55°29′ | 28°48′ | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 10 | Езярышча . | Віц. | 55°50′ | 30°03′ | 1-IV | — | 10-IV | — | — | — | 21-IV | — | — |
| 11 | Белы . . . | Смал. | 55°50′ | 32°57′ | 4-IV | 13-IV | 7-IV | 17-IV | 7-IV | 8-IV | 20-IV | 22-IV | 24-IV |

Табліца 5.

**ныя нагляданьні за 1930 г.**

| ЗАЦЬВІТАНЬНЕ | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Чарэмха Prunus Padus | Клён Acer platanoides | Вішня садовая Prunus cerasus | Ігруша садовая Pirus communis | Яблыня садовая Pirus Malus | Лантуш Convallaria majalis | Жоўтая акацыя Caragana arboresceng | Парэчка Ribes rubrum | Бэз лілёвы Syringa vulgaris | Сасна Pinus silvestris | Ліпа Tilia cordata | Верас Calluna vulgaris |
| 30-IV | 22-IV | 26-IV | 30-IV | 7-V | — | — | — | 13-V | — | — | — |
| 29-IV | — | 29-IV | 4-V | 8-V | 19-V | — | — | 9-V | — | — | — |
| 4-V | 24-IV | 5-V | 4-V | 14-V | 25-V | 10-V | 21-V | 16-V | 27-V | 5-VII | 12-VII |
| 30-IV | — | 10-V | 27-IV | 15-V | — | — | — | 17-V | 23-V | — | — |
| 10-V | — | 8-V | 8-V | 15-V | 26-V | — | — | 20-V | 19-V | — | — |
| 9-V | 24-IV | 8-V | 9-V | 11-V | — | 19-V | 20-V | — | 22-V | 3-VII | — |
| 5-V | 26-IV | 8-V | 9-V | 12-V | 24-V | 16-V | 2-V | 19-V | 22-V | 2-VII | 27-VII |
| — | — | — | — | 20-V | 23-V | 20-V | — | 22-V | 24-V | 8-VII | 27-VII |
| 8-V | — | 6-V | 5-V | 12-V | 13-V | 18-V | — | 19-V | — | — | — |
| 12-V | 6-V | 12-V | — | 18-V | — | — | — | — | 27-V | — | — |
| 10-V | 25-IV | 18-V | — | — | 18-V | 21-V | 6-V | 21-V | 23-V | 6-VII | — |

Матвяёнак.

# Програма краязнаўчае працы па гісторыі рэволюцыйнага руху на Беларусі.

## Паясьняльная запіска.

„Гісторыя ўсяго папярэдняга грамадзтва ёсьць гісторыя барацьбы клясаў“. (Маркс, Ком. Маніфэст). Гэтае палажэньне Маркса абсолютна ігноравалася старым нацыянал-опортуністычным кіраўніцтвам краязнаўчага руху ў БССР. Па гісторыі раілася краязнаўцам вывучаць усё, што толькі маглі выдумаць нацыяналістычна настроеныя кіраўнікі і мэтодысты,—толькі ня гісторыю клясавай барацьбы. Вялізарная ўвага зварачалася на вывучэньне „сівой мінуўшчыны“—археолёгіі, палеонтолёгіі, гістарычнай этнографіі; старанна вышуквалася „ў глыбі вякоў“ усё, што падкрэсьлівала нацыянал-дэмократычную „тэорыю самабытнасьці“ беларускага народу: старыя, даўно аджыўшыя звычаі і забабоны, самыя дзікія і брыдкія праявы так званай „інтэлектуальнай культуры беларуса“, як напр., усе віды і выразы лаянак, сродкі „народнай мэдыцыны“, як ужываньня ў якасьці зельля людзкога і жывёльнага навозу і г. д. У цэнтры ўсіх гістарычных досьледаў стаялі рэлігійныя помнікі—царкоўныя рэчы, рэлігійныя абрады і г. д. Над гэтымі пытаньнямі працавалі краязнаўчыя організацыі БССР ў сваёй большасьці ў працягу шэрагу гадоў. Наадварот, ніякіх указаньняў па дасьледваньню клясавай барацьбы, рэвруху на Беларусі ня было.

Зараз становішча краязнаўчай працы,—яе мэтодолёгія, об'екты вывучэньня, тэматыка, мэтавыя ўстаноўкі і інш.,—павінна быць карэнным чынам зьменена. Вывучэньне гісторыі рэволюцыйнага руху павінна зрабіцца асноўнай галіной краязнаўчае працы кожнага краязнаўчага аб'яднаньня—гуртка, раённага таварыства, гістарычнай сэкцыі і інш.

Усюды, дзе толькі ёсьць краязнаўчыя аб'яднаньні—у школе, на заводзе, у колгасе і г. д. абавязкова павінна быць вылучана група сяброў для вывучэньня рэвруху на данай тэрыторыі, хоць-бы самая невялічкая, у залежнасьці ад колькасьці сяброў усяе організацыі і ад колькасьці ўзятых організацыяй тэм для вывучэньня. Але трэба памятаць кіраўніцтву кожнай організацыі, што прынцып дабраахвотнасьці ўдзелу сяброў у організацыі не азначае таго, што кожны краязнаўца абірае сабе любую тэму для досьледу, ня лічачыся з агульным плянам працы організацыі. Каб не аднаўляць прынцыпаў працы старога краязнаўчага кіраўніцтва, калі кожны краязнаўца абіраў сабе

тэму па свайму выбару і ў выніку або нічога не рабіў, або працаваў над тэмамі нікому непатрэбнымі або шкоднымі (напр., у Магілеве 2 краязнаўцы вывучалі тэмы: „Геральдыка дваран Магілеўшчыны“, „Відныя людзі з Магілеўшчыны“, прычым апошнім зьбіраліся біографіі былых царскіх чыноўнікаў), а плян працы Таварыства ў выніку ня выконваўся ні на 1 проц.,—трэба выходзіць у індывідуальных заданьнях асобным краязнаўцам з агульнага пляну і толькі звыш пляну сябры. організацыі могуць распрацоўваць і інш. тэмы па свайму жаданьню A ў пляне гістарычнай працы краязнаўчай організацыі цэнтральнае месца павінна займаць вывучэньне гісторыі рэволюцыйнага руху. Няма чаго даводзіць, што тое краязнаўчае аб‘яднаньне прынясе карысьць пазнаньню нашага краю, якое будзе працаваць па пляну, пад адзіным кіраўніцтвам ЦБК, над тэмамі, якія патрабуе распрацаваць сучасны пэрыод соцыялістычнага будаўніцтва.

Вывучэньне гісторыі рэволюцыйнага руху патрабуе максымальна магчымай точнасьці і закончанасьці досьледу. Так, напрыклад, калі гуртку вядома, што ў данай вёсцы ў Кастрычніку 1917 года пэўная група сялян была асабліва актыўнай у барацьбе з панамі, трэба закончыць свае досьледы, даведаўшыся, хто яны такія па свайму соцыяльнаму становішчу, па партыйнасьці, узросту, полу і г. д.

Калі Вы ведаеце, што вёска N горача адгукнулася ў 1918 г. на заклік сав. ўлады і комуністычнай партыі ўступаць у Чырвоную гвардыю, або ў Чырвоную армію, і абсолютная большасьць вясковай моладзі пайшла дабраахвотна ў армію, абавязкова дасьледуйце, якая частка моладзі і чаму—не пайшла; калі не пайшла вядомая частка бядняцкай моладзі, вытлумачыць, які на яе зрабіла ўплыў кулацтва данай вёскі. Калі Вы ўзналі, што ў 1905 (або якім іншым годзе) у вёсцы выступаў з анты-монархічнай пропагандай мясцовы селянін, укажыце ізноў-ткі, хто ён па свайму соцыяльнаму становішчу, ці зьяўляўся сябром партыі і якой менавіта, ці карыстаўся аўторытэтам сярод сялянства і насколькі, сярод якіх колаў сялянства быў найбольш аўторытэтны і г. д. Наогул трэба не абмяжоўвацца толькі зьбіраньнем адных голых фактаў, а даваць ім адпаведную клясавую характарыстыку. Абавязкова патрэбна заўсёды ўзнаваць соцыяльна-клясавае становішча асоб, дзейнасьць якіх дасьледчык апісвае. Калі дасьледчык-краязнаўца ўзнае аб фактах паводзінаў беднаты, якія сьведчаць аб кулацкім уплыве на іх, трэба выявіць, наколькі гэта будзе магчыма, формы і шляхі гэтага ўплыву. Таксама-ж і наадварот, патрэбна выкрыць мотывы кулака, калі ён што-колечы рабіў нібыта ў інтарэсах беднаты, паказаць яго сапраўдны твар і высьветліць, да чаго вяла і да чаго давяла яго кулацкая політыка. Без такога высьвятленьня дасьледваных фактаў і самае апісаньне гэтых фактаў, зразумела, губляе сваю каштоўнасьць. Наогул, досьледы па гісторыі рэволюцыйнага руху патрабуюць самага точнага і пільнага клясавага аналізу.

Для сталай, закончанай і сыстэматычнай распрацоўкі па гісторыі рэволюцыйнага руху раіцца толькі адна асноўная тэма: Кастрычніцкая рэволюцыя. У гэтым разрэзе, як падрыхтоўчы этап да яе, трэба разглядаць і ўсе іншыя гісторыка-рэволюцыйныя падзеі ранейшага часу. У якасьці спэцыяльных падтэм да гэтае агульнае тэмы програма раіць распрацоўку пытаньняў гісторыі фабрык і заводаў, гісторыі колгасаў і гісторыі партызанскага руху і грамадзянскай вайны на данай тэрыторыі.

Да тэмы—„Кастрычніцкая рэволюцыя“ адносіцца таксама, з аднаго боку, уся гісторыя грамадзка-політычнага жыцьця ад 1917 г. да сучаснага моманту (грамадзянская вайна, асобныя этапы нэпу, як яны адбіваліся на ўсім процэсе экономічнага і культурна-політычнага жыцьця данае мясцовасьці) і ўвесь падрыхтоўчы пэрыод да Кастрычніка (прыблізна ад 1900 да 1917 г., а ў горадзе яшчэ раней—ад першых рэволюцыйных гурткоў). Гісторыя рэволюцыйнага руху павінна вывучыць таксама і экономічныя падставы рэволюцыйнасьці мясцовага насельніцтва, яго клясавую дыфэрэнцыяцыю, яго маемаснае і прававое становішча, каб высьветліць тыя корані, з якіх вырастала нездавальненьне працоўных мас старым ладам, і адкуль вырастаў рэволюцыйны рух, які падрыхтаваў перамогу рэволюцыі ў Кастрычніку 1917 г. Экономічныя падставы і высьвятленьне клясавага складу насельніцтва і яго дынамікі таксама дадуць магчымасьць уразумець глыбіню клясавай барацьбы паміж асобнымі групамі данага насельніцтва (беднаты з кулакамі ўнутры сялянства да рэволюцыі і г. д.) і параўнаць клясавы склад насельніцтва да рэволюцыі і зараз для высьвятленьня ранейшых і цяперашніх тэндэнцый экономічнага разьвіцьця. Разгляд экономічных падстаў пажадана пачынаць ад 1861 г., калі пачынаецца шпаркае капіталістычнае разьвіцьцё ўсяе краіны, хуткі рост пролетарыяту і пролетарызацыя сялянства пад уплывам прасякненьня капіталізму ў вёску.

З прычыны асаблівае важнасьці і шырыні гэтае тэмы, яе немагчыма вывучыць усю адразу адной асобе, або хоць-бы і цэламу гуртку ды ў кароткі час. Таму програма падзяляе гэтую тэму на шэраг разьдзелаў і пунктаў, якія вывучаюцца краязнаўчай організацыяй паступова, не абавязкова ў хронолёгічным парадку. Пры наліччы самай малейшай магчымасьці краязнаўчае аб‘яднаньне павінна паставіць сваёй мэтай вывучыць усю гэтую тэму ў адзін год. У вывучэньні гэтае тэмы лепш было-б ісьці „ад блізкага к далёкаму“ (програма ў мэтах большай сыстэматызацыі складзена па прынцыпу хронолёгічнай паступовасьці).

## Мэтодычныя заўвагі да програмы.

Па гісторыі рэволюцыйнага руху трэба сабраць і па магчымасьці апрацаваць мясцовымі сіламі наступны матар‘ял: а) фактычныя даныя аб гістарычных падзеях, б) тэорытычны і вытлумачальны матар‘ял аб умовах і падставах даных падзей (статыстычныя веды, офіцыйны матар‘ял таго часу—законы і распараджэньні, публіцыстыка і г. д.). Так, напр., для вывучэньня 1905 году ў данай мясцовасьці трэба сабраць: а) факты аб рэволюц. масавых выступленьнях рабочых данага заводу або сялян данай вёскі ў 1905 г. або адзінак—рабочых і сялян; фотографіі ўдзельнікаў; перапіску таго часу, у якой абмалёўваюцца даныя факты; розныя матар‘яльныя помнікі аб 1905 г. (рэчы, якія ўжываліся выступаўшымі—рэвольвэр, сьцяг, каса, тапор і г. д., або царызмам—нагайка, пуля, якая засела дзе-небудзь пры абстрэле паўстанцаў і інш,), б) статыстычныя даныя аб клясавай дыфэрэнцыяцыі ў данай мясцовасьці ў 1905 г., аб разьмерах землеўладаньня, аб колькасьці перасяленцаў у інш. часткі Расіі і г. д., а таксама законы царскай улады, загады губарнатараў, земскіх начальнікаў, спраўнікаў і інш., якія маюць якое-колечы (непасрэднае ці ўкоснае) дачыненьне да ходу даных рэволюцыйных падзей, в) матар‘ял аб 1905 г. на Беларусі і суседніх з ёю частках Расіі для па-

раўнаньня і вытлумачэньня сутнасьці сваіх падзей. Гэты матар'ял
тым больш патрэбны таму, што бывае, часам, у літаратуры апісаны
такі факт (па докумэнтах Цэнтральнага Архіву СССР), аб якім на
месцы няма ніякіх матар'ялаў і ўспамінаў (напр., пасылка сялянскім
зьездам Магілеўшчыны ў 1905 г. пэтыцыі Пецярбурскаму Савету ра-
бочых дэпутатаў).

Старыя краязнаўчыя програмы абмяжоўваліся паказаньнем на
тое, які матар'ял у сырым выглядзе павінны прадставіць краязнаўчыя
„нізы“ для распрацоўкі навуковым „вярхам“. Мы ў сваіх програмных
меркаваньнях выходзім з таго, што масавыя дасьледчыкі краязнаўцы
могуць (і павінны) ня толькі зьбіраць матар'ялы, а і апрацоўваць іх,
па меры магчымасьці, на месцы, падрыхтаваўшы да друку навуковы
досьлед (монографію) аб якой-колечы падзеі.

Вось з гэтае прычыны програма вызначае задачай краязнаўцаў
зьбіраць ня толькі фактычны матар'ял, а і ўсякі іншы матар'ял, па-
трэбны для поўнага і закончанага высьвятленьня гістарычнага зьявішча
або цэлага пэрыоду. Зразумела, што асобныя краязнаўцы ня здо-
леюць вывучыць якой-небудзь тэмы настолькі поўна і ўсебакова, каб
выдаць па гэтаму пытаньню навуковую монографію; тады яны па-
вінны дасылаць свой матар'ял на распрацоўку ў ЦБК. Калі-ж кра-
язнаўчыя організацыі на мясцох і асобныя краязнаўцы імкнуцца
дасканала вывучыць якую-небудзь гістарычную тэму, дык ЦБК
акажа ім поўную дапамогу ў гэтай працы. Даная програма ў асноў-
ным выходзіць з тае ўстаноўкі, што краязнаўцы будуць ня толькі
зьбіраць гістарычны матар'ял, а і па магчымасьці апрацоўваць яго
на месцы.

Найлепшым спосабам дасьледчай працы над гістарычным матар'-
ялам зьяўляецца колектыўная праца. Было-б пажадана, каб распра-
цоўку тэмы ўзяла на сябе пэўная група чалавек у 5-10. Для непасрэдна
дасьледчае працы тэму трэба падзяліць паміж сябрамі гістарычнай
групы па асобных пунктах і разьдзелах. Кожны ўдзельнік гэтае групы
(брыгады) мае сваё індывідуальнае заданьне, за выкананьне якога
нясе адказнасьць перад усім гуртком. Але апрацоўка фактаў, пра-
верка іх і вытлумачэньне павінна адбывацца колектыўна.

Фактычны матар'ял аб гістарычных падзеях можа быць вусны
і рэчавы. Вусны матар'ял — гэта апавяданьні і ўспаміны ўдзельнікаў,
або пераказы чутага ад удзельнікаў. У зьбіраньні такога матар'ялу
трэба апірацца на паказаньні найбольш соцыяльна-блізкай нам групы
насельніцтва — рабочых, батракоў, колгасьнікаў, беднякоў-адзінаасобні-
каў і г. д. У асобных выпадках, калі па паказаньнях большасьці можа
даць цікавыя ўспаміны аб данай падзеі прадстаўнік варожае нам групы —
кулак, поп, лішэнец і інш., трэба апрасіць і іх. Але апавяданьні і ўспа-
міны аддзельных асоб ня можна прымаць на-веру і абмежавацца імі. Со-
цыяльна-блізкая нам група ўдзельнікаў можа пераблытаць шмат чаго
ў сваіх успамінах дзякуючы таму, што забыліся асобныя дэталі падзеі
за прайшоўшы ад яе час. Соцыяльна-варожая група можа сьвядома
даць няправільныя, непраўдзівыя адказы. Таму кожны расказаны факт
трэба імкнуцца праверыць у гутарках з як-мага большай колькасьцю
іншых соцыяльна-блізкіх асоб, прычым большая праверка патрэбна для
тых фактаў, аб якіх дасьледчыку апавядала соцыяльна-варожая асоба.
Добрым спосабам зьбіраньня і адначасовай колектыўнай праверкі фак-
тычнага матар'ялу па данай падзеі зьяўляецца правядзеньне агульнага
сходу рабочых заводу або сялян данага колгасу ці вёскі. На сходзе
зборшчыкам ставіцца маленькі даклад аб данай падзеі наогул, у якім

закранаецца некалькі момантаў ходу данае падзеі, па магчымасьці найбольш спрэчных. Гэтым даецца прысутным канва для спрэчак, і спрэчкі ў такіх выпадках праходзяць звычайна даволі жыва. Зборшчык коратка фіксуе для сябе іх паказаньні, прычым зварочвае ўвагу на тое — выказваецца непасрэдны ўдзельнік падзеі або са слоў іншых удзельнікаў, і на социяльное становішча выказваючагася ў спрэчках. Калі ход падзеі ў агульных рысах для краязнаўца-зборшчыка вядомы і праверкі патрабуюць толькі асобныя дэталі—можна ў вольны час, калі сабралася дзе-небудзь група старых рабочых ці сялян, завесьці гутарку непасрэдна па гэтых спрэчных момантах. У кожнай асобы, якая дала цікавыя і верагодныя паказаньні, трэба запытваць, хто яшчэ мог-бы што-колечы расказаць аб гэтым факце.

Адначасова з распытваньнямі аб гістарычным факце, трэба ў тых-жа асоб запытваць аб розных рэчах, якія ўжываліся як-небудзь у той час і іх месцазнаходжаньні. Выяўляць матар'яльныя помнікі гістарычнай падзеі трэба выходячы з таго, наколькі даная рэч характэрная для гэтай падзеі і наколькі яна была-б каштоўная для ілюстрацыі яе ў мясцовым музэі. Так, напр., калі ўдзельнік рэволюцыйнай падзеі паказвае дасьледчыку, у якой вопратцы ён быў у той час — гэтую вопратку нельга лічыць ілюстрацыйным помнікам. Калі-ж, напрыклад, гэтая вопратка была прастрэлена, акрываўлена, зразумела, што гэта будзе каштоўны музэйны экспонат. Надзвычайна каштоўным рэчавым матар'ялам трэба лічыць фотографічныя здымкі і перапіску ўдзельнікаў руху паміж сабой і з сваякамі і наогул перапіску аб данай падзеі, хоць-бы і ня ўдзельнічаўшых у ёй.

Тэорытычны і вытлумачальны матар'ял, дзеля параўнаньня здабываецца выключна з літаратурных крыніц. Статыстычныя даведнікі былога земства і інш. установ, загады і распараджэньні мясцовай улады і інш. павінны быць (па магчымасьці) сабраны і скарыстаны для вытлумачэньня сабраных фактаў. Так, напрыклад, калі вядома, што N раён быў на 1-м месцы ў Беларусі па перасяленьню ў Сібір, трэба эконамічнымі лічбамі з статыстычнага даведніка давесьці, якія асаблівасьці (малазямельле, рэзкая социяльная дыфэрэнцыяцыя і інш.) данага раёну выклікалі такі рост перасяленьня. Наогул, статыстычным матар'ялам і офіцыйнымі весткамі старой улады трэба карыстацца вельмі асьцярожна. Статыстыка ў той час была пастаўлена вельмі дрэнна і, напр., падзел сялян на беднякоў, серадпякоў і заможных праводзіўся не па ўсіх адзнаках іх гаспадаркі, а толькі па некаторых (па колькасьці жывёлы, машын і інш.), так што ўражаньне ад буржуазнай статыстыкі застаецца такое, што ў той час беднаты амаль зусім ня было. Офіцыйныя весткі зьяўляюцца добрым вытлумачальным матар'ялам, калі іх не разумець літаральна, а падыходзіць да іх крытычна, з клясавай крытыкай. Так, напр., у 1905 г. земскія начальнікі ў жніўні-верасьні месяцы раздавалі беднаце хлеб. Можна-б было гэтага зрабіць вывад, што яны абаранялі інтарэсы беднаты. Але калі мець на ўвазе, што ў гэтыя месяцы ў беднаты яшчэ ёсьць свой хлеб, а раздача праводзілася таму, што ў гэтыя месяцы выбухнула асабліва хваля сялянскіх бунтоў, ясна будзе політыка земскіх. Клясава падыходзячы, можна добра выкарыстоўваць для вытлумачэньня рэволюц. руху нават зусім рэакцыйны матар'ял, як царкоўныя летапісы (гл. прыклад у № 4 „Сав. Краіна“ за 1931 г. ст. 22), панскія дзеньнікі („Наш Край № 23 за 1926 г. ст. 60) і г. д.

Для канчатковае апрацоўкі гісторыка-рэволюцыйнай тэмы, або асобнага гістарычнага факту, карысна вынікі сваіх досьледаў параў-

наць з аналёчнай літаратурай (марксыцка-вытрыманай) па такому-ж пытаньню. Так, напрыклад, карысна параўнаць прычыны паражэньня рэволюцыі 1905 г. у даным горадзе або вясковай мясцовасьці з тымі прычынамі, якія ўстаноўлены Леніным для ўсяе Расіі. Такое параўнаньне, па-першае, узброіць саміх дасьледчыкаў-краязнаўцаў сьвядомымі адносінамі, разуменьнем таго гістарычнага матар'ялу, які яны дасьледуюць, па-другое, зьверне ўвагу іх на такі бок апісанага імі гістарычнага зьявішча, якое, можа быць, іначай было-б выпушчана з-пад іхняе ўвагі.

Вынікам распрацоўкі ўсяе тэмы, або якой-небудзь асобнай часткі яе павінна быць (дзе і паколькі гэта будзе магчыма мясцовымі сіламі і сродкамі) складаньне монографіі па ёй і апублікаваньне яе ў мясцовай раённай газэце, або ў спэцыяльным краязнаўчым зборніку. Пры немагчымасьці складаньня монографіі трэба перасылаць увесь матар'ял сваіх досьледаў у ЦБК або Гістарычны Інстытут БАН, а на месцы пастарацца па вывучанаму матар'ялу заснаваць хоць-бы самы маленькі музэй рэволюцыйнага руху. (Адносна організацыі мясцовых музэяў ЦБК дасьць належныя тлумачэньні).

Толькі тады, калі перад краязнаўчым аб'яднаньнем стаіць задача закончанага вывучэньня якой-колечы тэмы, г. зн. організацыя ў выніку яе вывучэньня мясцовага краязнаўчага музэю, або складаньне монографіі, і самая праца па вывучэньню яе ідзе звычайна больш шпарка і энэргічна. Таму, нам думаецца, у пляне працы краязнаўчага гуртка, або раённага таварыства абавязкова павінна мець месца прадугледжаньне такіх ці іншых конкрэтных вынікаў вывучэньня матар'ялу мясцовага рэволюцыйнага руху.

## Вывучэньне гісторыі сялянскага руху ў часы прыгону.

У дадатак да програмы трэба даць некалькі заўваг па вывучэньню сялянскага руху ў XVI—XVIII ст. Вывучэньне гэтых момантаў зьвязана з вялікімі цяжкасьцямі для нізавога дасьледчыка, і таму гэты разьдзел програмы для краязнаўчых організацый можна лічыць неабавязковым. На той выпадак калі знойдуцца на месцы адпаведныя матар'ялы для вывучэньня гэтага пэрыоду і жаданьне асобных краязнаўцаў трэба вызначыць некаторыя асаблівасьці вывучэньня рэволюцыйнага руху і гэтага часу.

Асноўным матар'ялам па вывучэньню гэтага пэрыоду зьяўляюцца архіўныя матар'ялы асобных архіваў Беларусі, напр. „Истодико-юридические акты Витебской и Могилевской губ.", „Акты Юго-Западной России" і інш., а таксама кнігі магістратаў асобных гарадоў Беларусі ў XVI—XVIII стаг. і летапісы (як Баркалабаўскі, хроніка Трубніцкага і інш.). Усе гэтыя матар'ялы можна знайсьці толькі ў архівах і навуковых бібліотэках. Частка гэтых матар'ялаў выкарыстоўвалася гісторыкамі Беларусі ў дарэволюцыйны час і нацыянал-дэмократамі-гісторыкамі пасьля кастрычніка. Але, зразумела, ні тыя, ні іншыя нават і ня браліся за вывучэньне цікавейшага матар'ялу са ўсіх гэтых документаў—матар'ялу аб сялянскім рэволюцыйным руху. Так, напр., профэсар, які чытаў у БДУ спэцыяльную дысцыпліну—політычная гісторыя Беларусі XVI—XVIII стаг. у досыць вялікай програме ніводнага слова не гаварыў аб сялянскіх паўстаньнях гэтага часу абмежаваўшыся толькі характарыстыкай каралёў гэтага часу і іх законадаўства. А за гэты час на Беларусі адбылося 7 буйнейшых сялянскіх паўстаньняў і цэлы шэраг дробных, прычым 4 паўстаньні аб-

хоплівалі амаль усю Беларусь. Беларусь мела сваіх сялянскіх рэволюцыйных правадыроў, настолькі вядомых у свой час сялянскім масам, што нават цяпер яшчэ сустракаюцца аб іх сярод сялян успаміны (праўда, даволі легендарныя).

Дакумэнты ў паказаных матар'ялах надрукаваны на старой польскай або старой беларускай мове і таму досыць цяжкія для ўразуменьня без папярэдняй падрыхтоўкі. Але пры некаторых ведах у польскай мове ў іх можна разабрацца. Вывучаючы гэтыя паўстаньні, абавязкова патрэбна высьвятляць іх клясавую сутнасьць—каго грабілі паўстанцы, як адносіліся да духавенства, да польскай улады, да расійскага царызму і г. д. Трэба таксама зьбіраць успаміны аб гэтых паўстаньнях, хоць яны і зьяўляюцца зусім мала верагодным матар'ялам (напр. байкі аб паўстанцы Галавацкім у Журавіцкім раёне).

Сярод сялянства запытаньнямі можна выявіць некаторыя факты рэволюцыйнага сялянскага руху ў 1812 г., калі ў шмат якіх мясцох сяляне грабілі паноў пры дапамозе адступаўшых францускіх салдат, пакінутых афіцэрамі, а таксама шэраг фактаў стыхійных выступленьняў сялян супроць сваіх паноў напярэдадні 1861 г. Зразумела, і тут патрэбны асьцярожныя адносіны да паказаньняў асобных сялян і масавая праверка іх.

Увага: Па кожнаму пункту програмы адказаць,—што было ў гэтых адносінах на даным заводзе (вёсцы) і калі было, — пісаць, як яно адбывалася.

## Програма вывучэньня гісторыі рэволюцыйнага руху.

### I. Эконамічныя падставы рэв. руху.

Сялянская рэформа 1861 г. Велічыня надзелаў і выкупных аплат. Дынаміка сялянскага і панскага землеўладаньня. Ход дыфэрэнцыяцыі сялянства. Проблема „адрэзкаў". Судовыя спрэчкі сялян з панамі з-за „адрэзкаў".

Рост прамысловасьці і рабочае клясы з 1861 да 1914 г.

### II. Напярэдадні 1905 году.

Народніцкія гурткі. Бундаўскія організацыі. Касы ўзаемадапамог пры заводах і майстэрнях. „Іскраўскія" організацыі. Весткі аб забастоўках.

Сялянскія выступленьні супроць паноў і дзяржавы ў 1900—1904 г. Удзел насельніцтва ў расійска-японскай вайне. Адносіны да яе.

### III. 1905 год.

Рэволюцыйныя гурткі, падпольныя партыйныя організацыі. Праца бальшавікоў, меншавікоў, эсэраў і інш. партый. Профсаюзныя організацыі 1905 г. Забастоўкі, мітынгі, дэмонстрацыі ў 1905 г. Спробы ўзброеных спатычак з паліцыяй і войскам.

Сялянскі рух 1905 г., формы яго. Захоп панскай зямлі. Зруйнаваньне маёнткаў. Адмаўленьне ад выплаты падаткаў. Адмаўленьне ад рэкруцкай павіннасьці.

### IV. 1905—1917 гг.

Праявы рэакцыі. Кары ўдзельнікаў рэв. выступленьняў. Праца „чорнай сотні". Пагромы. Зачыненьне парт. і профэсійных організацый. Захаваньне ліквідатарскіх легальных організацый.

Сталыпінская рэформа. Як яна ажыцьцяўлялася ў данай вёсцы.

Ажыўленьне раб. руху з 1912 г. Удзел рабочых у мітынгах і дэмонстрацыях протэсту. Забастоўкі. Якія ўзьніклі легальныя рэволюцыйныя організацыі на заводзе. Бальшавікі і меншавікі і іх уплыў. Пашырэньне бальшавіцкага і меншавіцкага друку.

Лік насельніцтва вёскі, прызванага ў армію. Дэзэртыры і дэзэртырскі рух. Узброеныя спатычкі дэзэртыраў з паліцыяй.

### V. Лютаўская і Кастрычніцкая рэволюцыя.

Першыя весткі аб пераваpоце. Зьмена старой улады. Мітынгі, маніфэстацыі і выступленьні прадстаўнікоў розных партый. Рэв. друк. Склад новай улады.

Зарплата, рабочы дзень, адносіны да фабрыканта на заводзе.

Зямельнае пытаньне. Дзейнасьць зямельнага камітэту. Самавольны захоп панскай зямлі і яго вынікі. Узварот салдат з фроту. Салдаты-бальшавікі і іх пропаганда. Барацьба партый. Водгукі карнілаўшчыны. Выбары ў Земскія Ўправы, у Ўстаноўчы Сойм.

Выбары ў гарадзкі Савет. Рост уплыву бальшавікоў. Падрыхтоўка да Кастрычніка.

Кастрычнікавы пераварот. Організацыя сав. улады і першыя яе мерапрыемствы. Становішча рабочых пасьля перавароту на заводах. Беспрацоўе. Контр-рэволюцыйныя выбухі. Дзеячы і кіраўнікі пролет. перавароту, мясцовы савецкі і несавецкі друк.

Разгром панскіх маёнткаў, яго ход, вынікі, удзельнікі. Вырашэньне зямельнага пытаньня. Першая сав. ўлада ў вёсцы і яе мерапрыемствы.

### VI. Грамадзянская вайна.

Рабочыя атрады Чырвонай гвардыі. Удзельнікі грамадз. вайны. Партызанскія атрады, удзельнікі. Становішча рабочых у часы польска-нямецкай окупацыі і пасьля яе. Зарплата, паёк. Продукцыйнасьць працы.

Партызанскія атрады ў вёсцы. Бальшавіцкія ячэйкі. Спатычкі з окупантамі. Удзельнікі. Кары окупантаў. Удзел насельніцтва ў грам. вайне.

Эконом. малюнак абнішчаньня гораду (вёскі) за гады грамадзянскай вайны. Харчовая разьвёрстка і адносіны сялянства. Скарачэньне пасяўной плошчы.

Становішча мясцовасьці і насельніцтва пры 2-ой польскай окупацыі. Сустрэча чырвоных войск. Дзейнасьць мясцовай бальшавіцкай організацыі.

### VII. Пэрыод НЭП'у.

Жыцьцё парт. організацыі, яе склад. Рост ячэйкі. Склад бюро. Комсамольская організацыя, яе рост. Піонэры. Парт. і грамадзкая праца сярод работніц (сялянак). Дэлегацкія сходы.

Дзейнасьць мясцовага Савету. Удзел мас ў выбарах. Клясавы, лічбовы і інш. склад сяброў. Профсаюзы, іх рост. Мясцовая сетка нар. асьветы. Мясцовы друк.

Аднаўленчы пэрыод НЭП'у. Коопэраваньне насельніцтва. Клясавая барацьба і яе формы.

Рэконструкцыйны пэрыод. Элемэнты індустрыялізацыі на даным заводзе (горадзе, раёне). Новыя формы клясавай барацьбы. Дынаміка соц. дыфэрэнцыяцыі. Ход колектывізацыі.

Пэрыод наступленьня соцыялізму па ўсім фронце. Клясавая барацьба. Рост колектывізацыі. Саўгасы. Уздым сельскай гаспадаркі. Рост культурных устаноў. Сувязь з горадам (шэфства і інш.). Рэлігійнасьць і антырэлігійная пропаганда на заводзе (у горадзе).

## Гісторыя фабрык і заводаў.

Вывучэньне гісторыі фабрык і заводаў зьяўляецца сустаўной часткай вывучэньня гісторыі рэволюцыйнага руху. Але яно мае і сваю асаблівую тэматыку і сваю, уласьцівую яму, мэтодыку. Па-першае вывучаць гісторыю фабрык і заводаў зусім немагчыма без уцягненьня ў гэтую справу шырокіх рабочых мас данага прадпрыемства. Па-другое, гэтае вывучэньне няухільна пойдзе, у большасьці выпадкаў, па лініі вывучэньня і апісаньня асобных малюнкаў ранейшага жыцьця фабрыкі і заводу. Гэта трэба кіраўнікам нізавых краязнаўчых організацый і гістарычных сэкцый пры іх (калі такія організаваны) мець на ўвазе. (Сказанае аб гісторыі фабрык і заводаў адносіцца і да гісторыі колгасаў і саўгасаў).

Мы раім распрацаваць у краязнаўчых гурткох па фабрыках і заводах і раённых таварыствах, у раёнах якіх ёсьць прамысловыя прадпрыемствы, ніжэйпаданую програму. Распрацоўваць можна ня толькі ўсю тэму разам, а і па асобных пытаньнях, ня спыняючыся перад тым, што асабліва поўна, можа быць, і ня ўдасца распрацаваць некаторыя пытаньні. Пачынаць трэба з вывучэньня больш вядомых фактаў і падзей, як, напр., 1905 год на фабрыцы, Кастрычніцкія дні, і г. д. Мобілізуйце ўвагу рабочых заводу да гэтага вывучэньня, зьбярыце ўсе даныя, якія толькі можна, аб вывучаемай зьяве і зараз-жа ў выглядзе монографіі або сырога матар'ялу перасылайце ў ЦБК. А потым, калі рабочыя, асабліва старыя рабочыя гэтага заводу ўжо прыцягнуты да працы, лягчэй будзе наладзіць вывучэньне і далейшых пытаньняў програмы.

Асноўныя моманты гісторыі фабрыкі і заводу, якія мы раім для распрацоўкі, наступныя:

1. *Заснаваньне данага прадпрыемства.* Калі заснавана (год, месяц, дзень). Адкуль і колькі набрана першых рабочых. Іх нацыянальны, узросны і родавы склад. Як праведзена адчыненьне заводу (прысутнасьць поліцэйскага начальства, духавенства, прамовы да рабочых, абяцанкі і пагрозы фабрыканта і г. д.).

2. *Дынаміка складу рабочых ад часу заснаваньня прадпрыемства да Кастрычніка* па ўзросту, роду, нацыянальнасьці. Прынцыпы адбору рабочых з беспрацоўных („чорныя сьпіскі, поліцэйскія даведкі, рэкомэндацыі духавенства і г. д.). Пэрыоды масавага звальненьня рабочых з прадпрыемства (калі, колькі чалавек, за што, характарыстыка звольненых, каго прынялі на месца звольненых). Склад рабочых у часе вайны.

3. *Экономічнае становішча рабочых на прадпрыемстве.* Заработная плата, яе памеры, рост або зьніжэньне, номінальная і рэальная зарплата (наколькі забясьпечвала рабочых). Умовы працы, велічыня працоўнага дня. Формы зарплаты. (Падзённая, зьдзельная, іх пашыранасьць). Удзел рабочых у прыбытках фабрыканта (прэміі, узнагароды, каму, за што і ў якім памеры выдавалася). Аплата майстроў, тэхнікаў і інжынэраў. Пашыранасьць штрафаў.

4. *Экономічная барацьба рабочых.* Стачкі, характар іх, запатрабаваньні рабочых. Ініцыятары і організатары стачак. Формы і мэтода іх правядзеньня. Тэрмін працягу стачак. Вынікі іх. Ператварэньне

тварэньне экономічных стачак у політычныя (падрабязнае апісаньне таго, як гэта праходзіла). Час стачак. Асаблівасьці стачак да 1905 г., у 1905 г., у часы рэакцыі, у часы ўздыму, у часе вайны.

5. *Політычная барацьба*. Удзел рабочых у політычных дэмонстрацыях і стачках. Стачкі солідарнасьці. Мітынгі і маёўкі. Узброеныя спатычкі з поліцыяй. Спробы пабудовы барыкад. Кіраўнікі і ініцыятары. Час і дэталёвае апісаньне падзеі і яе вынікаў па пэрыодах: да 1905 г., 1905 г., 1906-1910; 1911-1914 год.

6. *Экономічныя і культурныя організацыі рабочых*. Профсаюзы, стачачныя касы, касы ўзаемадапамогі, страхавыя касы. Школы для дарослых, клюбы (ці існавалі, як працавалі, хто кіраваў імі).

7. *Праца соцыял-дэмократычных організацый*. Барацьба паміж бальшавікамі, меншавікамі, бундаўцамі і інш. партыямі на даным прадпрыемстве. Адносіны да нацыянальных соцыялістычных партый (Б. С. Грамада, „Белая Русь“, беларускія эсэры і інш.). Уплыў бальшавікоў і меншавікоў на легальныя і паўлегальныя рабочыя організацыі. Афармленьне клясавай сьвядомасьці рабочых пад уплывам бальшавікоў (факты).

8. *Малюнкі героічнага змаганьня рабочых мас*. Падрабязнае апісаньне асобных фактаў стачак, дэмонстрацый, спатычак з поліцыяй, організацыі барацьбы з пагромшчыкамі і г. д. (з паказаньнем прозьвішчаў і адрасоў расказчыкаў гэтых фактаў). Факты сувязі рабочых з сялянамі. Выдатныя ў гісторыі данага прадпрыемства факты з эпохі рэакцыі і ўздыму, часу вайны і з 1917 году.

9. *Рост клясавай сьвядомасьці рабочых*. Адносіны да бальшавікоў, меншавікоў, бундаўцаў і інш. партый. Пашырэньне партыйнага друку і рэволюцыйнай падпольнай літаратуры сярод рабочых. Падпіска на бальшавіцкія выданьні „Зьвязда“ і „Праўда“. Популярнасьць іх у раб. масах. Пашыранасьць меншавіцкага друку і рэагаваньне рабочых на яго. Адносіны рабочых да вайны.

10. *Лютаўская рэволюцыя*. Як адбыўся лютаўскі пераварот. Удзел у ім рабочых. Жыцьцё і барацьба рабочых у часе ад Лютаўскай да Кастрычніцкай рэволюцыі. Бальшавізацыя рабочых, нарастаньне рэволюцыйнасьці мас, удзел рабочых у Саветах рабочых дэпутатаў, разаблачэньне дробна-буржуазных партый. Адносіны да карнілаўшчыны. Барацьба супроць кераншчыны.

11. *Кастрычніцкая рэволюцыя і грамадзянская вайна*. Падрыхтоўка да Кастрычніка, удзел у рэволюцыі. Першыя дні рэволюцыі на заводзе. 1-я польска-нямецкая окупацыя. Рабочы рух, падпольныя рэв. організацыі гэтага часу. Удзел рабочых у грамадзянскай вайне. Становішча прадпрыемства ў часы вайны. 2-я польская окупацыя. Удзел рабочых у будаўніцтве савецкай улады.

12. *Сучасны пэрыод*. Характар прадпрыемства. Тэхнічнае абсталяваньне. Рэконструкцыя і рацыяналізацыя на заводзе. Праца жанчын. Вучні-падросткі. Культурная праца. Санітарныя ўмовы і ахова працы. Нацыянальнае пытаньне на заводзе — адносіны паміж нацыянальнымі рабочымі. Жыльлёвыя ўмовы.

(Па кожнаму пункту пастарацца параўнаць з дарэволюцыйным часам).

## Гісторыя колгасаў.

Трэба пачаць складаньне і гісторыі колгасаў, што саслужыць у будучым вялікую службу. Можна параіць па гэтаму пытаньню наступную невялічкую схэмку:

Калі організаваўся колгас? Ініцыятары і організатары яго. Клясавая барацьба ў вёсцы пры організацыі колгасу (абавязкова на фактах). Дынаміка складу колгасу — уваходы, выхады, паўторныя ўступленьні ў яго. Тэхніка-экономічны рост колгасу. Спэцыялізацыя. Даходнасьць (у параўнаньні з ранейшай даходнасьцю адзінаасобнікаў. Культурна-політычная праца ў колгасе. Клясавая барацьба з колгасам і ўнутры яго зараз. Рэлігійныя і антырэлігійныя настроі.

## Гісторыя партызанскага руху.

Клясавы і нацыянальны склад мясцовых партызанаў. Пачатак белапольскай окупацыі ў данай мясцовасьці. Настрой рабочых і сялянскіх мас. Дзейнасьць окупантаў. Пачатак організацыі партызанскіх атрадаў. Як яны ўтвараліся. Сувязь партызанскіх атрадаў з партыйнымі організацыямі бальшавікоў.

Барацьба партызанскіх атрадаў з окупантамі бела-палякамі і немцамі. Структура партызанскіх атрадаў. Раён іх дзеяньня. Організаванасьць і дысцыпліна ў атрадах. Барацьба з „партызанамі“-бандытамі. Кіраўнікі партызанскіх атрадаў. Адносіны мясцовага насельніцтва да партызанаў.

Кіраўніцтва партызанскім рухам і сувязь з часткамі Чырвонай арміі. Сувязь паміж паасобнымі партызанскімі атрадамі. Харчовае становішча і здаваленьне абмундыраваньнем і зброяй. Бойкі партызан з белымі. Малюнкі асобных боек. Героічныя выпадкі змаганьня з белымі партызанскіх атрадаў і асобных партызан. Формы і віды барацьбы партызан з белапалякамі (стратэгія і тактыка партызанскай барацьбы). За што змагаліся партызаны. Як яны ўяўлялі сабе клясавыя задачы барацьбы з белымі.

Моладзь і партызанскі рух. Удзел жанчын — работніц і сялянак у партызанскім руху. Кулацка-шляхецкі шпіонаж і провокатары ў шэрагах партызан. Выпадкі правалаў партызанскіх атрадаў. Расправа окупантаў з партызанамі і насельніцтвам, якое падтрымлівала іх. Уцягненьне сялянства партызанамі ў актыўную барацьбу з белапалякамі.

Партызанскі рух у часе другой бела-польскай окупацыі (восень 1919 і вясна 1920 гг.). Партызанскія атрады на чырвоных франтох. Дзейнасьць вайсковых разьдзелаў Чырвонай арміі, складзеных з былых партызан. Разлажэньне бела-польскіх войск і ўдзел у гэтым партызан. Партызаны ў пэрыод адступленьня белапалякаў.

Біографіі асобных герояў-партызан. Кары партызан. Партызаны ў турме і на катарзе. Высылка партызан углыб Польшчы.

Партызанскі рух і клясавая барацьба на вёсцы. Барацьба партызан з рэакцыйнымі элемэнтамі і ўнутраной контррэволюцыяй.

Лічбовы склад партызанскіх атрадаў.

---

М.

# Папулярызацыя шкодніцкіх ідэй у плянаваньні.

**Б. Д. Архангельский.** *Укрупненная БССР.* С предисловием председателя госплана БССР т. Карпа. Издание редакционно-издательского отдела Госплана БССР. Минск, 1927 г. ст. 82.

Гэтая праца ўяўляе сабою прыклад таго, як шкоднікі папулярызавалі сярод працоўных мас БССР сваю „плянавую“ дзейнасьць па рэстаўрацыі капіталістычнага ладу.

Тагочасным старшынёю Дзяржпляну т. Карпам кніжка шкодніка Архангельскага горача раіцца, як „першая спроба даць экономічны агляд народнае гаспадаркі БССР пасьля ўзбуйненьня“ (1926 г.). Прадмова т. Карпа зьяўляецца выразным адбіткам опортуністычных адносін да шкодніцкае дзейнасьці аб'яднанага лягеру капіталістычных рэстаўратараў.

Так, у сваёй прадмове т. Карп кажа: „прапануемая кніга ўяўляе вялікі інтарэс для ўсіх, вывучаючых Беларусь і цікавячыхся яе экономікай. На раду з данымі па экономічнай географіі БССР у нарысе вызначаюцца *асноўныя рысы далейшага экономічнага разьвіцьця* нашай маладой рабоча-сялянскай Рэспублікі. Савецкая Беларусь, як частка Саюзу ССР, мае ўсе падставы для соцыялістычнага будаўніцтва (?!). Узмацненьне энэргіі і саюзу рабоча-сялянскіх мас (якіх сялянскіх мас?) і далейшае вывучэньне *дынамікі народнае гаспадаркі дадуць магчымасьць* комуністычнай партыі і савецкаму ўраду *правільна плянаваць і кіраваць экономічным і культурным будаўніцтвам рэспублікі.*“ (ст. 3, курсіў мой—М.).

Мы, пакуль што, зьвяртаем увагу чытачоў толькі на адзін момант з гэтае цытаты, г. зн. на падначальваньне плянававаньня дынаміцы народнае гаспадаркі. Гэты момант зьяўляецца асабліва важным. Вядома, што тэорыя рэволюцыйнае паступовасьці ў разьвіцьці народнае гаспадаркі ляжала ў аснове рэстаўратарскае тэорыі буржуа аб „прогнозе“ ў плянаваньні, аб „рацыяналізатарскім“ прыстасаваньні ўсяе політыкі дзяржавы да эволюцыйнага процэсу. Гэтаю тэорыяй прыстасаваньня да эволюцыйных процэсаў шкоднікі імкнуліся падмяніць плян-дырэктыву, як сьвядомую дзейнасьць пролетарскае дзяржавы па рэволюцыйнай перабудове народнае гаспадаркі. Гэтая тэорыя ляжала ў аснове шкодніцкае дзейнасьці ў плянавых органах аб'яднанага лягеру контррэволюцыянэраў на БССР (у выглядзе беларускіх нацдэмаў, меншавікоў і інш.).

Па колькасьці ахопу розных пытаньняў і характару іх разгляду гэтая кніжка нагадвае сабою эконом.-географічныя выданьні XVIII

сталецьця з іх даведачнымі весткамі аб усіх галінах гаспадаркі дзяржавы. У падачы гэтых вестак, за завесаю траскучае „рэволюцыйнае“ фразэолёгіі (якая, пэўне, была разьлічана на ўсыпленьне опортуністаў), шкоднікам Архангельскім усялякім спосабам зьніжаецца значэньне рабочае клясы ў БССР праз адзначэньне яе нязначнае колькасьці, слабага разьвіцьця прамысловасьці і таго, што гарады на Беларусі „невялікі і слабы“. Усьлед за гэтым высоўваецца на вядучую ступень сельская гаспадарка, мотывуючы гэтую вядучасьць „суадносінамі паміж сельскім і гарадзкім насельніцтвам“ (ст. 24).

Пры даведачным разглядзе сельскае гаспадаркі БССР, Архангельскі опэруе скрозь „сярэднімі“ вялічынямі „на душу“ ды „на двор“. Праўда, адчуваючы, што за такія „вучоныя“ прыёмы яму можа ўляцець, ён агаварваецца і нават прыводзіць дзьве табліцы (ст. ст. 31, 38), у якіх групуеца сялянства па засеву і жывёле, але соцыяльна-экономічны „аналіз“ прывядзеньнем гэтых табліц (таксама, як відаць, паданых ім для адводу вачэй) абмяжоўваецца.

Дарэволюцыйныя ўмовы жыцьця беларускага сялянства, з яго капіталістычнай дыфэрэнцыяцыяй і нацыянальным уціскам, шкоднік Архангельскі разглядае, як разбурэньне сялянства наогул пад уплывам малых надзелаў, нізкай ураджайнасьці і г. д. (ст. 25), змазваючы гэтымі „тэхнічнымі“ разважаньнямі соцыяльную сутнасьць адбываўшыхся процэсаў у дарэволюцыйнай беларускай вёсцы.

Пры разглядзе дарэволюцыйных форм землекарыстаньня на БССР, Архангельскі зазначае аб характары разьвіцьця і сутнасьці хутарской і адрубной форм землекарыстаньня толькі тое, што яны „паступова накапляліся“ (ст. 28). У выніку якой палітыкі „накаплялася“ гэтая форма землекарыстаньня і як адбівалася яе „накапленьне“ на асноўных масах сялянства — шкоднік ня кажа ні слова. Перайшоўшы-ж да разгляду пасьлярэволюцыйных форм землекарыстаньня, ён дае рэзка адмоўную характарыстыку падворнай праспалосіцы, выстаўляе барацьбу з гэтаю формаю землекарыстаньня, як адну з „галаўнейшых задач земляўпарадкаваньня“ (ст. 29). Адначасова Архангельскі націскае на тое, што „накапленьне“ хутароў, адрубоў і пасёлкаў ідзе даволі хутка, адзначаючы „накапленьне“ гэтых форм як прогрэсыўнае зьявішча. Адносна існаваньня колгасаў Архангельскі знаходзіць неабходным зазначыць скрозь зубы і толькі тое, што гэтая форма землекарыстаньня „не атрымала яшчэ вялікага распаўсюджаньня“ (ст. 29).

Разглядваючы шляхі зносін, а таксама паасобныя галіны сельскае гаспадаркі, Архангельскі бачыць магчымасьць і пэрспэктыву іх разьвіцьця „па меры ўмацаваньня і пашырэньня гандлёвых сувязяй з замежжамі“ (ст. ст. 24, 41). Другіх шляхоў для шкодніка ня існуе; ён не зацікаўлены популярызацыяй соцыялістычных шляхоў разьвіцьця народнае гаспадаркі, гэта не ўваходзіць у яго рэстаўратарскую програму.

Задачы, якія ўскладае Архангельскі на саўгасы, вельмі нязначныя. Так, ён кажа: „на саўгасы ўскладаецца рад мерапрыемстваў па падняцьцю культуры сельскае гаспадаркі, як: забесьпячэньне насельніцтва палепшаным насеньнем, утрыманьне заводзкае жывёлы і заводзкіх рассаднікаў для палепшаньня сялянскае жывёлы і г. д.“ (ст. 42) і ўсё. Аб сутнасьці саўгасаў, як пасьлядоўна соцыялістычных гаспадарак, аб іх вядучай ролі ў соцыялістычнай рэконструкцыі гаспадаркі—ні слова.

У апісаньні прамысловасьці па відах Архангельскі, па-першае, ставіць яе ў падначаленае становішча да сельскае гаспадаркі і нават формальна разглядае, як адну з апошніх галін народнае гаспадаркі,

а, па-другое, гаворыць аб прамысловасьці „наогул“ і ніводнага слова адносна характару яе складу, адносна суадносін вырабу сродкаў вытворчасьці і прадметаў спажываньня.

Не застанаўліваючыся на ўсіх момантах шкодніцкае ідэолёгічнае асновы Архангельскага ў падачы ім даведачных вестак аб БССР, пераходзім да яго вызначэньня „асноўных рыс далейшага экономічнага разьвіцьця“.

Перш за ўсё Архангельскі зазначае, што „пэрспэктывы разьвіцьця сельскае гаспадаркі ў першую чаргу прыкавалі да сябе ўвагу плянавае работы“ (ст. 76). Пры вызначэньні-ж пэрспэктыў для сельскае гаспадаркі ён органічна ўвязвае іх з дарэволюцыйным „прогрэсам“, зумысьля зводзячы апошні да тэхнічнага зьместу. Так, адзначыўшы, што дарэволюцыйнае „сялянства (зноў-ткі сялянства наогул) задыхалася ў ціскох малазямельля... прадзедаўскіх спосабаў земляробства... заблытанасьці (?!) землекарыстаньня і адсутнасьці агрыкультурнай дапамогі“ (!), Архангельскі кажа: „Але і пры такіх умовах у земляробстве адчуваўся прогрэс: зярнёвыя культуры ўступалі сваё месца тэхнічным, пачало разьвівацца травасеяньне, *землекарыстаньне пачало спрашчацца і ўдакладняцца* (г. зн. пачалі разьвівацца хутары і адрубы—М.). На раду з земляробствам, на першы плян у сельскай гаспадарцы высунулася жывёлагадоўля і, асабліва, такія яе формы, як сьвінагадоўля“ (ст. 75) іншае ў гэтым родзе.

Падводзячы-ж вынікі разгляду пасьлярэволюцыйнага стану ў сельскай гаспадарцы, Архангельскі дае яму наступную характарыстыку: „Як відаць з усяго нарысу, сельская гаспадарка Беларусі зьмяшчае ў сабе вялікую колькасьць момантаў, не задавальняючых прад‘яўленых да яе запатрабаваньняў (кім прад‘яўляемых і якіх запатрабаваньняў?—М.). *Малазямельле* выклікае неабходнасьць усімі сіламі імкнуцца да павялічэньня плошчы, выкарыстоўваемай пад сельскую гаспадарку; *заблытанасьць і нязручнасьць* (?!) землекарыстаньня прад‘яўляюць вялікі попыт на землеўпарадкаваньне; нізкі ровень паасобных галін прымушае думаць аб інтэнсыфікацыі ўсяе гаспадаркі“ (ст. 42, падкр. мною—М.).

Як бачым, абедзьве гэтыя цытаты зусім падобныя адна да другой; характарыстыкі запатрабаваньняў з боку сельскае гаспадаркі як у дарэволюцыйныя, так і ў пасьлярэволюцыйныя часы фактычна не адрозьніваюцца,—эволюцыйная паступовасьць у вызначэньні пэрспэктыў забясьпечана цалкам. І ў інтарэсах „паступовага зжываньня ўсіх паказаных недахопаў“, Архангельскі пачынае выкладаньне пэрспэктыў разьвіцьця сельскае гаспадаркі па нацдэмаўскай аграрнай програме—пэрспэктыўнаму пляну Прышчэпава, запазычваючы характарыстыку гэтага пляну ў свайго пабраціма па шкодніцкай дзейнасьці ў плянавых органах—Бонч-Асмалоўскага (ст. 78). Згодна гэтае характарыстыкі, у аснову пэрспэктыў разьвіцьця сельскае гаспадаркі пакладзены наступныя прынцыпы: „1. найвялікае разьвіцьцё вытворчасьці сельскае гаспадаркі; 2. пашырэньне сувязі паміж сельскаю гаспадаркаю і прамысловасьцю і 3. павялічэньне таварнасьці яе“ (с.-г-кі. М., ст. 76). Разьвіцьцё таварнасьці сельскае гаспадаркі ставіцца ў залежнасьць ад разьвіцьця рынічных адносін—як унутраных, так і ўнешніх. „Сувязь з прамысловасьцю“ расцэньваецца таксама як складаньне рынку для сельскае гаспадаркі ў форме разьвіцьця сельска-гаспадарчае індустрыі. Разьвіцьцё-ж „вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы“, згодна „пэрспэктыў“ Архангельскага, „апрача недастатковай організаванасьці рынку

(арганізаванасьць разумееецца шкоднікам, як шырокае разьвязваньне рыначных сувязяй—М.), упіраецца ў наступныя проблемы: 1. аграрная перанаселенасьць БССР; 2. нерацыянальная організацыя зямельнае плошчы і яе забалочанасьць; 3. адсутнасьць капіталаў у сялянства; 4. агрономічная адсталасьць сялянства“ (ст. ст. 76-77).

Пад прыкрыцьцём разважаньняў наогул аб сялянстве, наогул аб інтарэсах сельскае гаспадаркі і г. д., Архангельскі працягвае, як бачым, нацдэмаўскую праграму капіталістычнага разьвіцьця ў сельскай гаспадарцы,—праграму, у якой усе проблемы зумысьля „тэхніцызаваны“ і якую не адмовіцца напісаць на сваім сьцягу ні адзін буржуа ў любой капіталістычнай дзяржаве. Пры гэтым Архангельскі зазначае, што „барацьба з аграрным перанасяленьнем зьяўляецца цэнтральным месцам усяго пляну“ (ст. 77) яго і Ко капіталістычна-рэстаўратарскіх пэрспэктыў у разьвіцьці сельскае гаспадаркі. Так званая „аграрная перанаселенасьць“ зьяўлялася сапраўды цэнтральным пунктам усіх разважаньняў контррэволюцыйнае своры нацыянал-дэмократызму з іх хаўрусьнікамі на шляху рэстаўрацыі капіталізму. На гэтую „проблему“ нанізваліся ўсе астатнія іх разважаньні, з ёю было „зьвязана ўсё астатняе“ (ст. 77).

Ідэолёгі капіталістычных элемэнтаў не жадалі і слухаць таго, што так званая іх „аграрная перанаселенасьць“ зьяўляецца іманэнтнай законамернасьцю капіталістычнага разьвіцьця ў сельскай гаспадарцы з затрыманьнем дакапіталістычных перажыткаў у вёсцы, што „аграрная перанаселенасьць“, як спадчына ад гэтага разьвіцьця, зьнішчаецца разам з перамогаю соцыялістычнага будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы, для якога ніякай проблемы „аграрнае перанаселенасьці“ ня існуе, што даведзена яшчэ Марксам ды Ленінам і практычна сьцьверджана пераможным соцыялістычным будаўніцтвам. Ідэолёгі капіталізму не жадалі гэтага бачыць і слухаць. Яны зумысьля рабілі з так званае проблемы „аграрнага перанасяленьня“ фокусны момант у сваіх „абстракцыях“ ад умоў конкрэтнае соцыяльна-эканомічнае формацыі з уласьцівымі ёй супярэчнасьцямі і клясавай барацьбой; падмянялі клясавую барацьбу на барацьбу з „аграрнай перанаселенасьцю“, а сродкі гэтае барацьбы вызначалі, орыентуючыся на капіталістычныя ўмовы разьвіцьця. Адсюль у іх сельская гаспадарка, як вядучая галіна, адсюль пэрспэктывы яе разьвіцьця ў разгортваньні рыначных сувязяй з падкопам пад монополію замежнага гандлю, адсюль разгаворы аб інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі „наогул“, адсюль пропаганда пасялковых, адрубных і хутарскіх форм землекарыстаньня, адсюль і той зашчытны „тэхніцызм“, які надаецца гэтымі шкоднікамі проблеме інтэнсыфікацыі праз разгаворы аб лепшай апрацоўцы зямлі, аб угнаеньні, засеве і г. д.

Закончыўшы свае разважаньні аб „пэрспэктывах“ разьвіцьця сельскае гаспадаркі, шкоднік Архангельскі зазначае, што „калі ў сельскай гаспадарцы агульныя прынцыпы ясны і не спаткаюць супярэчаньня (?!!), то ў галіне прамысловасьці яны выглядаюць ня так выразна“ (ст. 79). Прычыну такой „нявыразнасьці“ ў галіне прамысловасьці Архангельскі бачыць у тым, што тут, па-першае, плян „знаходзіцца яшчэ ў стадыі распрацоўкі“, а, па-другое, „ён больш зьвязаны з агульнымі прынцыпамі разьвіцьця гаспадаркі“ (ст. 79). Гэта ёсьць прызнаньне шкодніка ў меншай пасьпяховасьці свае работы ў прамысловасьці, чым у сельскай гаспадарцы, прызнаньне ў тым, што рабіць падкоп пад пролетарскую крэпасьць больш цяжка і небясьпечна, чым пад тагочасную вёску.

Пасьля такога прызнаньня, Архангельскі дае „пэрспэктывы“ і для прамысловасьці, якія лёгічна выводзяцца ім з цэнтральнае „проблемы“ барацьбы з „аграрнай перанаселенасьцю“. Прамысловасьць разглядаецца як галіна, якая абслугоўвае сельскую гаспадарку. Пры гэтым разгавор ідзе зноў-такі наогул аб прамысловасьці, а пад гэтым разгаворам „наогул“ проектуецца прамысловасьць выключна па вырабу прадметаў спажываньня і ні слова аб вырабе сродкаў вытворчасьці.

Такавы даведкі і пэрспэктывы шкодніка Архангельскага, якія з лёгкай рукі т. Карпа популярызуюцца аж з 1927 году сярод „вывучаючых Беларусь і цікавячыхся яе экономікай“.

## ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ.

### Пастанова Савету Народных Камісараў БССР ад 23 жніўня 1931 году.

**Пра геолёга-разьведачную справу.**

1. Адзначыць, што адсутнасьць адзінага кіраўнічага органу па геолёга-разьведачнай справе выклікае няўвязку работы паміж арганізацыямі, якія праводзяць геолёгічныя, геолёга-разьведачныя і буравыя работы на тэрыторыі БССР і што каштоўныя матар'ялы па геолёгіі і гідролёгіі БССР вельмі мала альбо зусім не скарыстоўваюцца, у зьвязку з тым, што яны раскіданы па розных організацыях.

2. Для ўзмацненьня тэмпаў геолёга-разьведачных работ, правядзеньня іх у адпаведнасьці з шпаркімі тэмпамі разьвіцьця народнай гаспадаркі і соцыялістычнага будаўніцтва, а таксама для зьнішчэньня маючыхся недахопаў у гэтай працы, лічыць неабходным організаваць на падставе пастановы Савету Працы і Абароны Беларускі Геолёга-Разьведачны трэст „Белгеолёгаразьведка“ ў складзе Ўсесаюзнага Геолёга-Разьведачнага аб'яднаньня з перадачаю яму ўсіх геолёга-разьведачных работ, кадраў і абсталяваньня.

Планы работ „Белгеолёгаразьведка“ ўзгадняецца з рэспубліканскімі органамі, у прыватнасьці з НК Земляробства, ВСНГ, Дзяржпляном і выконваюцца па зацьведжаньні Ўсесаюзным Геолёга-разьведачным аб'яднаньнем.

3. Даручыць Дзяржпляну разам з „Белгеолёгаразьведкай“, Беларускай Акадэміяй Навук, Горным Кіраўніцтвам ВСНГ і НК РСІ прапрацаваць і ўзгадніць узаемаадносіны паміж Беларускай Акадэміяй Навук, Белгеолёгаразьведкай і іншымі органамі, якія праводзяць геолёгічную работу.

4. Для падагульненьня вынікаў усёй праведзенай працы за мінулыя гады і своечасовага скарыстаньня вынікаў адпаведнымі організацыямі ў зьвязку са складаньнем 2-й пяцігодкі, абавязаць Геолёгічны Інстытут Беларускай Акадэміі Навук і Горнае Кіраўніцтва ВСНГ ужыць патрэбныя захады да паскарэньня апрацоўкі матар'ялаў, сабраць усе падрыхтаваныя да друку і надрукаваныя ўжо матар'ялы да 1 кастрычніка, а па праведзеных досьледах у бягучым годзе сыстэматызаваць усе матар'ялы не пазьней 1 студзеня 1932 г.

У далейшым вынікі работы за мінулы год павінны друкавацца не пазьней пачатку новых экспэдыцыйных работ.

5. Даручыць Прэзыдыуму ВСНГ і Прэзыдыуму Дзяржпляну паставіць пытаньне перад ВСНГ СССР аб пасылцы ў БССР неабходнае колькасьці спэцыялістаў па геолёгічнай, гідра-геолёгічнай, геохэмічнай і геолёга-разьведачнай справе і выдзяленьні адпаведных матар'яльных і грашовых сродкаў.

6. Улічваючы, што пасьпяховае і своечасовае правядзеньня геолёгічных і геолёга-разьведачных работ у значнай ступені затрымоўваецца з-за адсутнасьці транспортных сродкаў перасоўваньня і абыходзіцца вельмі дорага, паколькі работа праводзіцца на вялікіх абшарах, прапанаваць Дзяржпляну пры разьмеркаваньні транспортных сродкаў забясьпечыць патрэбы геолёга-разьведачных організацый.

7. Паставіць пытаньне перад Праўленьнем Усесаюзнага Аб'яднаньня „Гелёгаразьведка“ аб устанаўленьні сыстэмы снабженьня спэ-

цыяльным абсталяваньнем і інструмэнтарыем геолёга-разьведачных організацый на тэрыторыі БССР.

8. Прапанаваць Народнаму Камісарыяту Снабжэньня забясьпечыць харчаваньнем як рабочых, так і тэхпэрсонал геолёгічных і горна-разьведачных органаў, згодна пастанове НК РСІ СССР, выдзеліць па заяўках геолёгічных і геолёга-разьведачных органаў поўнасьцю адпаведныя фонды па вызначаных нормах і разам з Белкоопсаюзам даць катэгорычнае распараджэньне месцам аб выкананьні гэтых норм.

9. Надаючы вялікае значэньне геолёга-разьведачным работам у сучасны момант, зьвярнуць увагу ўсіх раённых выканаўчых камітэтаў і раённых РСІ на неабходнасьць усебаковага аказаньня дапамогі геолёгічным і геолёга-разьведачным органам на мясцох (прадстаўленьне рабочай сілы, сродкаў пера-соўваньня, памяшканьня і інш.)

## Усім організацыям Т-ва пролетарскага турызму і экскурсій, усім краязнаўчым організацыям

### Аб супольнай працы ТПТЭ і ЦБ Краязнаўства

Пролетарскі турызм і краязнаўчы рух ставяць перад сабой у асноўным адну і тую самую задачу — удзел у соцыялістычным будаўніцтве. Адным з важнейшых элемэнтаў турысцкіх падарожаў і экскурсій ёсьць вывучэньне мясцовых асаблівасьцяй свайго раёну, краю і перад усім — яго вытворчых сіл у інтарэсах соцыялістычнага будаўніцтва, гэта значыць — у пролетарскім турысцкім руху віднае месца займаюць элемэнты краязнаўства.

Краязнаўцы ў мэтах вывучэньня асаблівасьцяй данага краю для патрэб соцыялістычнага будаўніцтва ня могуць абмежавацца стацыянарнай працай і робяць экскурсійную і экспэдыцыйную працу, карыстаючыся, такім чынам мэтодамі ТПТЭ.

Значны лік пунктаў сутыку ў дзейнасьці абедзьвюх організацый няўнікнёна ставіць пытаньне аб іх плянавым супрацоўніцтве. Пытаньне аб узаемаадносінах краязнаўчых і турысцкіх організацый было прадметам асобнага абмеркаваньня на X студзеньскім пленуме ЦБК, прычым па дакладу старшыні Таварыства пролетарскага турызму і экскурсіі т. Крыленкі пленум ухваліў наступную пастанову, якая ў асноўным разьвязвае высунутую разьвіцьцём абедзьвюх організацый задачу:

1. Выходзячы з супольнасьці асноўнай задачы ўцягненьня мас у соцыялістычнае будаўніцтва і блізкасьці паасобных мерапрыемстваў, форм і мэтодаў працы, якія стаяць перад турысцкімі і краязнаўчымі організацыямі, прызнаць неабходным максымальнае контактаваньне працы абедзьвюх організацый як у кіруючых цэнтрах, гэтак і ў нізавых ячэйках.

2. Даручыць прэзыдыуму ЦБК, супольна з саветам ТПТЭ ў найкарацейшы тэрмін усебакова распрацаваць пытаньне аб формах узаемаадносін турысцкіх і краязнаўчых організацый і даць выстарчальныя дырэктывы ў гэтым пытаньні.

3. Прызнаць немэтазгодным організацыю краязнаўчымі ячэйкамі паралельнай працы на фабрычна-заводзкіх прадпрыемствах па лініі экскурсійна-турысцкага руху і прапанаваць нізавым краязнаўчым аб'яднаньням праводзіць гэту працу праз адпаведныя ячэйкі ТПТЭ.

На падставе гэтай рэзолюцыі прэзыдыум ЦБК і Цэнтральны Савет ТПТЭ лічаць неабходным правесьці наступныя конкрэтныя мерапрыемствы, накіраваныя на ўзаемнае супрацоўніцтва краязнаўчых організацый і організацый пролетарскага турызму:

1. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства і Цэнтральны Савет ТПТЭ, а таксама мясцовыя краязнаўчыя і турысцкія організацыі ўзаемна ўзгадняюць пляны свае працы ў частцы, датычнай функцыі другой організацыі.

2. Краязнаўчыя організацыі прымаюць актыўны ўдзел у зборы матар'ялаў, характарызуючых тыя ці іншыя раёны для ўкладаньня маршрутаў турысцкіх падарожаў і экскурсій праз гэтыя раёны. Даюць матар'ялы, характарызуючыя раён у адносінах соцбудаўніцтва, вытворчых сіл, нацыянальна-культурнага будаўніцтва і гістарычна-рэволюцыйных адносінах—мясцовым організацыям ТПТЭ для скарыстаньня імі пры распрацоўцы маршрутаў і дачы турыстам заданьняў па грамадзка - політычнай, дасьледчай працы і г. д.

3. Усе краязнаўчыя організацыі павінны ўзяць актыўны ўдзел у ўсесаюзным дасьледчым паходзе турыстаў па адшуканьню сыравіны для станкоў пяцігодкі.

Краязнаўчыя організацыі праводзяць наступную працу для дапамогі дасьледчаму паходу:

а) распрацоўка заданьняў па досьледу прыродна-вытворчых сіл;

б) удзел у падрыхтоўцы турыстаў да дасьледчай працы (консультацыі, кіраваньне краязнаўчымі гурткамі і сэмінарамі, вучэбныя вылазы за горад, у музэі і г. д.);

в) удзел у працы паасобных брыгад і груп турыстаў, якія накіроўваюцца з дасьледчымі мэтамі ў тыя ці іншыя раёны.

З свайго боку ўсе організацыі ТПТЭ садзейнічаюць краязнаўчым організацыям як у галіне пропаганды краязнаўчай працы і прыцягненьня сваіх членаў і праз ячэйкі ТПТЭ шырокіх мас да краязнаўчай працы, так і непасрэдна робяць дапамогу краязнаўчым організацыям у тых ці іншых відах іх працы.

ЦСавет ТПТЭ і ЦБК падкрэсьліваюць неабходнасьць праводзіць усю працу па прынцыпах узаемнага супрацоўніцтва краязнаўчых організацый і організацый ТПТЭ.

Старшыня ТПТЭ—Крыленка.

Старшыня ЦБК—Канчэеў.

# ХРОНІКА.

## Вынікі правядзеньня „Краязнаўчай пяцідзёнкі“

У мэтах шырокай папулярызацыі задач савецкага краязнаўства, рашучага выкрыцьця і барацьбы з контррэволюцыйным нацыяналдэмократызмам у краязнаўчай працы, па дырэктывах ЦК КП(б)Б па ўсёй БССР з 25 па 30 студзеня г.г. была абвешчана „Краязнаўчая пяцідзёнка“.

„Краязнаўчая пяцідзёнка“ — першая масавая кампанія за савецкае краязнаўства, якая павінна была мобілізаваць шырокія працоўныя масы гораду і вёскі на навуковадасьледчую працу, для хутчэйшага выкананьня і перавыкананьня нашых плянаў ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Падрыхтоўчая праца па правядзеньню „краязнаўчай пяцідзёнкі“ пачалася яшчэ ў сьнежні м-цы 1930 г.

Цэнтральнае бюро краязнаўства склала конкрэтны плян правядзеньня „краязнаучай пяцідзёнкі“, які па ўзгадненьню з адпаведнымі дырэктыўнымі органамі зьмешчаны ў № 1-2 (11-12) часопісу „Савецкая Краіна“ за 1930 год, быў даведзены да мясцовых краязнаўчых, партыйных, савецкіх і профэсыянальных устаноў і організацый.

У тым-жа нумары часопісу зьмешчана адозва Цэнтральнага Бюро Краязнаўства да ўсіх краязнаўчых організацый аб правядзеньні „краязнаўчай пяцідзёнкі“.

У пачатку студзеня ЦБК выдана брошура „За савецкае краязнаўства“, дзе зьмешчаны тэзісы для дакладаў на беларускай і яўрэйскай мовах і іншы інструкцыйны матар'ял па правядзеньню „краязнаўчай пяцідзёнкі“. Таксама былі выданы лёзунгі, і плякаты. Усімі пералічанымі матар'яламі своечасова былі забясьпечаны раёны. У цэнтральным пэрыодычным друку: „Зьвязда“, „Савецкая Беларусь“, „Чырвоная Зьмена“, „Беларускі Піонэр“ і інш. быў зьмешчаны рад артыкулаў і заметак, прысьвечаных пасьпяховаму правядзеньню „краязнаўчай пяцідзёнкі“. Загадчыкам культпропаў РК КП(б)Б, якія згодна дадзенай ім дырэктывы ЦК КП(б)Б, павінны былі стаць непасрэднымі кіраўнікамі ў правядзеньні гэтай працы Ц. Б. Краязнаўства ў пачатку студзеня г/г даслала ўвесь патрэбны матар'ял па організацыі райштабаў для правядзеньня „краязнаўчай пяцідзёнкі.“ Да ўсіх Райвыканкомаў, Гарсаветаў і Райпрофсаветаў Ц. Б. Краязнаўства своечасова зьвярнулася з просьбай прыняць належныя меры да забясьпечаньня правядзеньня „краязнаўчай пяцідзёнкі“. Працаўнікі Ц. Б. Краязнаўства выяжджалі ў Віцебск, Гомель, Магілеў і ў Менску на куставыя нарады саюзу працасьветы, дзе рабілі даклады аб становішчы краязнаўчай працы ў БССР у мінулым і задачах савецкага краязнаўства ў трэцім рашаючым годзе пяцігодкі. Рад аналёгічных дакладаў зроблены сярод рабочых на прадпрыемствах у Менску і сярод студэнцтва. ЦСПСБ у сваёй пастанове ад 30/XII 1930 г. даў конкрэтныя прапановы ўсім профсаюзным організацыям прыняць актыўны ўдзел як у правядзеньні „краязнаўчай пяцідзёнкі“, так і ў разгортваньні і налажваньні краязнаўчай працы наогул. Даны таксама адпаведныя дырэктывы з боку Колгасцэнтру БССР сваім ніжэйстаячым органам.

Усё гэта, здавалася, павінна было даць пэўныя вынікі ў перабудове „краязнаўчай працы ў БССР, уцягнуць у гэтую працу шырокія масы працоўных гораду і вёскі і сапраўды паставіць краязнаўства на службу соцыялістычнаму будаўніцтву. На жаль, падводзячы вынікі правядзеньня „краязнаўчай пяцідзёнкі“, трэба сказаць, што ў пераважнай большасьці раёнаў мясцовыя партыйныя, савецкія, краязнаўчыя, профсаюзныя і іншыя організацыі нават і ня думалі займацца гэтаю справаю. Такое становішча мы маем у такіх буйных раёнах як Віцебскі, Гомельскі, Магілеўскі, Бабруйскі, Аршанскі, Полацкі Мазырскі, Горацкі ды шмат у інш. раёнах. Няма ведама, чым тлумачыцца нежаданьне мясцовых устаноў і організацый выканаць дырэктывы партыйных органаў у напрамку разгортваньня краязнаўчай працы? Можна даць толькі адзін адказ—недаацэнкаю краязнаўства і ня інакш. На неаднаразовыя запытаньні з боку ЦБК аб стане краязнаўчай працы многія раёны зусім не адказваюць, толькі ад Рэчыцкага і Глускага райінспэктароў нарасьветы нядаўна атрыманы паведамленьні: „краязнаўчай організацыі ў нас няма, прымеце захады ды яе організацыі.“

Гэта значыць, што ў гэтых раёнах зусім і ня думалі праводзіць „краязнаўчую пяцідзёнку“.

Зразумела, што не ва ўсіх раёнах такое становішча. Ёсьць цэлы рад раёнаў, дзе мясцовыя ўстановы і організацыі з усёй сур'ёзнасьцю аднесьліся да правядзеньня „краязнаўчай пяцідзёнкі“ і там маюцца пэўныя вынікі і зрухі ў бок ажыўленьня краязнаўчай працы, хоць яшчэ і недастатковымі тэмпамі. З гэтых раёнаў паступаюць допісы ў часопіс „Савецкая Краіна“ ад рабочых і колгаснікаў, паступае цэлы рад запытаньняў па практычнай краязнаўчай працы. Прыведзенае сведчыць аб тым, што шырокія працоўныя масы сапраўды разумеюць сутнасьць і задачы савецкага краязнаўства, жадаюць працаваць у гэтай галіне трэба толькі сталае кіраўніцтва і дапамога з боку аднаведных устаноў і організацый.

Вось прыблізна кароткі агляд вынікаў па правядзеньню „краязнаўчай пяцідзёнкі“. Зразумела, што вынікі надзвычайна нязначныя ў параўньнані з тымі запатрабаваньнямі, якія вызначаны партыйнамі, савецкімі і профсаюзнымі оранамі для краязнаўчых організацый на сучасным этапе разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва.

Адсюль перад усей савецкаю грамадзкасьцю і ў першую чаргу перад раённымі кіруючымі органамі і ўстановамі паўстае неадкладная баявая задача ўзяцца за організацыю краязнаўчай працы на мясцох і выканаць дырэктывы партыі, ураду і профсаюзных органаў па пытаньню разгортваньня і садзейнічаньня краязнаўчай працы. Неабходна ў самы бліжэйшы час у тых раёнах, дзе яшчэ не праведзена „краязнаўчая пяцідзёнка“, організаваць і правесьці яе, шырока мобілізаваўшы грамадзкую думку навакол гэтае кампаніі за савецкае краязнаўства. Трэба палажыць канец недаацэнцы краязнаўства з боку паасобных устаноў і організацый на мясцох і павесьці рашучую барацьбу з думкамі і настроямі, „што чарговыя кампаніі не даюць магчымасьці займацца краязнаўствам.“ Трэба дабіцца таго, каб краязнаўчая праца стала сустаўной часткай усяго нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Т. К.

# За організацыю і разгортваньне працы раённых краязнаўчых музэяў.

Краязнаўчы музэй—адзін з вялізарнейшых фактараў соцыялістычнага будаўніцтва. Опэруючы ў сваёй рабоце нагляднымі фактамі—рэчамі (а ня толькі словамі), музэй можа дасягнуць у справе мобілізацыі шырокіх мас на барацьбу за соцыялізм вялікіх вынікаў, найбольшай эфэктыўнасьці, зразумела, што для дасягненьня гэтых важнейшых мэт належным чынам патрэбна пабудаваць зьмест работы музэяў.

Работа музэю павінна быць пабудавана так, каб яна была дэмонстрацыяй нашых дасягненьняў у справе соцбудаўніцтва і пляну гэтага будаўніцтва на агульным фоне прыродна-экономічных магчымасьцяй. Існуючыя ў нас музэі розных адценьняў (пераважна ў гарадох) зьяўляюцца дасягненьнем меншасьці насельніцтва. Яны далёкі пакуль што ад вясковага жыхара, ад колгасьніка, батрака, бедняка, яны не абслугоўваюць узрослых гаспадарчых і культурных запатрабаваньняў новае колгаснае вёскі, яны ўбаку яшчэ ад барацьбы вёскі за соцыялізм.

Разгортваньне раённых краязнаўчых музэяў і будзе спрыяць яшчэ большай мобілізацыі шырокіх мас рабочых, колгасьнікаў, батракоў, беднаты і лепшага серадняцтва на барацьбу за хутчэйшую пабудову соцыялістычнага грамадзтва.

Нашы школы на пераломе. У справе політэхнізацыі іх раённыя музэі павінны адыгрываць надзвычайную і значную ролю. Зразумела, што гэта накладае на зьмест работы музэю адпаведны абавязак, — ён сам павінен быць у меру магчымасьці політэхнічным і жывым.

Краязнаўчы музэй — няўхільны вынік разгорнутай краязнаўчай работы, а таму разгортваньне савецкага краязнаўства ў вёсцы — чарговая і баявая задача.

Тураўскае краязнаўчае таварыства організавала свой краязнаўчы музэй (музэйчык). У гісторыі гэтага апошняга яскрава вырысоўваюцца тры стадыі: 1. Пэрыод бяспляновага і выпадковага накапленьня матар'ялаў— у выніку краязнаўчай работы. 2. Організацыя музэю, існаваньне і слабы рост яго з-за адсутнасьці сродкаў і 3. Пэрыод канцтарыснага існаваньня, шпаркага росту і разгортваньня работы музэю.

Яшчэ з 1925-26 г. вялася некаторая краязнаўчая работа. Ганяліся за помнікамі старасьветчыны. Вынікам некалькіх экскурсій актыву і вучняў 7-годкі былі накоплены экспонаты—сьведкі дагістарычнай эпохі (наканечнікі стрэл, скрабкі, чарапкі і інш.). Зьбіраліся монэты. Улетку 1927 г. раён наведала экспэдыцыя БДУ. Актыў прыняў шчыльны ўдзел у яе рабоце. Экспэдыцыя здабыла шмат матар'ялаў, але раён гэты момант прахлопаў, віною чаму была адсутнасьць сталай думкі аб музэі. Астаўлена было толькі некалькі фото-здымкаў і гербары.

Маленькая мясцовая мэтэоролёгічная станцыя вяла ўвесь час свае назіраньні і накапляла вынікі гэтых назіраньняў.

У часы заняпаду ў рабоце краязнаўчага таварыства накапленьне матар'ялаў пагоршылася, толькі выпадкова часам якая маласьць перападала краязнаўчаму таварыству па часьці археолёгіі. Больш цікавыя рэчы былі ўвезены з раёну.

У 1930 г. Краязнаўчае таварыства парашыла організаваць музэй. Першымі цаглінкамі яго павінны былі зьявіцца гэтыя нешматлікія археолёгічныя рэчы. У нардоме адвявалі пакойчык і пачалі збор экспонатаў, упіраючы на тое, каб музэй адлюстроўваў

прыроду, экономіку і быт раёну. Справа ўпіралася ў сродкі, а іх ня было. Сіламі актыву ўдалося сёе-тое абсталяваць. Райвыканком пайшоў насустрач і адпусьціў 100 рублёў. Работа пайшла інтэнсыўней. У кароткі час былі сумаваны ў дыяграмы і табліцы вынікі назіраньняў мэтэоролёгічнай станцыі аб клімаце, і весткі аб раёне, зроблена карта раёну і плян мястэчка, набыта некалькі рэчаў — старых прылад сельскае гаспадаркі, вопраткі і быту, сабраны гатункі хлябоў раёну. Некаторыя лясьніцтвы далі весткі аб лесе, узоры, драўніны і нязначныя колекцыі казюлек і матылёў.

Быў выкарыстаны (праўда мала) мясцовы аматар-фотограф для новых здымкаў, а ў фотографа-профэсыянала сёе-тое набылі з яго архіву.

Мэдычныя працаўнікі далі некалькі экспонатаў — засьпіртаваных зародкаў чалавека. Момант перадачы працоўнымі цэркваў і сынагог быў выкарыстаны для набыцьця сяготаго з „боскага" хламу, які ў комбінацыі з антырэлігійнымі табліцамі даў сярэдні антырэлігійны куток, годны для выкарыстаньня ў антырэлігійных мэтах. Райкоопсаюз перадаў некалькі модэляй.

Асабліва ўзбагаціўся музэй перадачай яму мясцовага агрогабінэту. Шэраг колекцый і табліц аб дынаміцы сельскай гаспадаркі раёну паслужыў вельмі каштоўным укладам у раённы краязнаўчы музэй. Была зроблена на месцы спроба зрабіць чучалы птушак і зьвярыны, але вынікі пакуль што з гэтага вельмі слабыя.

Музэй яшчэ не разгарнуў масавае працы — ён яшчэ ў стадыі росту. Асобныя галіны гаспадаркі і культуры прадстаўлены ў ім яшчэ слаба. Асабліва недастаткова яшчэ прадстаўлена прамысловасьць і колектывізаваная сельская гаспадарка раёну. Але музэй ужо на хаду. Ён пачынае работу, а для яе разгортваньня патрабуе пераводу яго на каштарыс РВК і вымагае адводу яму асобнага памяшканьня. Гэта дасьць магчымасьць далейшага яго разьвіцьця ў сэнсе ўзбагачэньня экспонатамі і разгортваньня пропагандысцкай і дасьледчай работы. Здаецца, што адносіны РВК да музэю — гарантуюць гэты рост, а за дзяжурнымі тлумачамі астаноўкі ня будзе.

М. Е. Бруй.

**Заўвага рэдакцыі:** У данай заметцы аўтар паказвае некаторы зрух у справе экспонаваньня музэю, папаўненьня яго рэчамі сучаснасьці, але нічога не гаворыць аб перабудове ўсёй працы музэю ў мэтах яго актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве. Пажадана, каб працаўнікі краязнаўчых музэяў падзяліліся сваім вопытам у справе экспозыцыйнай перабудовы музэяў, на аснове марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі, выяўленьня дынамікі разьвіцьця форм грамадзкага ладу ў сувязі з разьвіцьцём вытворчых сіл і паказу актыўнага ўдзелу музэю ў соцыялістычным будаўніцтве і клясавай барацьбы ў пэрыод разгортваньня соцыялістычнага наступленьня па ўсяму фронту.

## Рэзолюцыя пашыранай нарады актыву партыйных, савецкіх, профсаюзных, комсамольскіх і грамадзкіх організацый гор. Полацку аб стане і чарговых задачах савецкага краязнаўства ад 12 верасьня 1931 г.

Нарада лічыць, што:

1. Краязнаўства зьяўляецца аднэй з форм актыўнага ўдзелу працоўных мас у соцыялістычным будаўніцтве СССР. У разьвіцьці індустрыялізацыі прамысловасьці, у соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі — шляхам усебаковага вывучэньня свайго раёну, — яго прыродных багацьцяў, энэргетычных рэсурсаў, організацыі буйнай соцыялістычнай вытворчасьці і яе рацыяналізацыі і разьвіцьця пролетарскай па зьместу і нацыянальнай па форме культуры.

2. Краязнаўчая праца ў шэрагу раёнаў БССР і ў прыватнасьці ў Полаччыне да гэтага часу не перабудавана на службу соцыялістычнаму будаўніцтву ў адпаведнасьці з дырэктывамі партыі.

3. У мэтах шпарчэйшага пераводу краязнаўчай працы і накіраваньня яе на шлях актыўнай дапамогі соцыялістычнаму будаўніцтву — нарада лічыць, што практычнымі неадкладнымі задачамі раённых партыйных, савецкіх, комсамольскіх, профсаюзных і грамадзкіх організацый зьяўляюцца наступныя задачы, патрабуючыя неадкладнага выкананьня:

а) Організацыя Раённага Краязнаўчага, Бюро і краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах, у колгасах, саўгасах і пры навучальных установах; уцягненьня ў краязнаўчыя організацыі рабочых, колгасьнікаў, батракоў, бядняцка-серадняцкай масы вёскі, працоўную моладзь, асьветнікаў, агрономаў, мэдпрацаўнікоў і іншых, правёўшы сярод іх шырокую популярызацыю задач савецкага краязнаўства, рашуча выкрываючы карэньні нацыянал-дэмократызму ў краязнаўстве, праводзячы чыстку шэрагаў краязнаўчых організацый ад варожых элемэнтаў.

б) Забясьпечыць Раённае Бюро Краязнаўства і краязнаўчыя ячэйкі партыйным кіраўніцтвам і клясава-вытрыманым складам, паставіўшы пытаньне аб максымальнай разгрузцы кіраўнікоў краязнаўчых організацый ад іншых грамадзкіх нагрузак.

в) Усю краязнаўчую працу ў раёне пабудаваць так, каб яна выходзіла з плянавых меркаваньняў гаспадарчых і плянуючых устаноў раёну, прадпрыемстваў, колгасаў, саўгасаў і г. д. Падпарадкаваўшы тэмпы краязнаўчай працы лёзунгу партыі і рабочае клясы 5-цігодка ў 4 гады.

г) Прапанаваць Раённаму Бюро Краязнаўства сумесна з раённымі кіруючымі організацыямі распрацаваць нізавую сэтку краязнаў-

чых ячэек, мобілізаваць адпаведную колькасьць працаўнікоў для правядзеньня ў дэкадны тэрмін популярызацыі савецкага краязнаўства і афармленьня ячэек.

д) У пачатку кастрычніка бягучага году склікаць Раённую краязнаўчую конфэрэнцыю, а ў лістападзе арганізаваць кароткатэрміновыя курсы для кіраўнікоў краязнаўчых ячэек.

е) Неадкладна прыступіць да карэннай перабудовы працы краязнаўчага музэю, які да гэтага часу ні ў якай меры не адбівае социялістычнага будаўніцтва раёну, а зьяўляецца складам старасьветчыны.

ж) Пляны працы і справаздачы краязнаўчых організацый пэрыодычна зяслухоўваць на паседжаньнях раённых установ і організацый, практыкуючы дачы ім заданьняў па пярэдніх дасьледаваньнях, вывучэньнях і проектаваньнях тых ці іншых тэм і пытаньняў.

з) Гаспадарчыя і грамадзкія організацыі павінны аказваць матар'яльную дапамогу краязнаўству.

к) Лічыць патрэбным пэрыодычна ўтвараць грамадзкі прагляд працы краязнаўчых організацый, дабіваючыся ад іх сталага выкананьня плянаў працы і ўвязкі працы з задачамі дня.

і) Разгарнуць социялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва сярод краязнаўчых організацый на лепшую пастаноўку працы.

л) Паставіць пытаньне перад ЦБК аб уводзеньні платнай адзінкі для Раённага Бюро Краязнаўства.

## Да ўсіх краязнаўчых організацый.

З 14 по 25 кастрычніка ў БССР праводзіцца „Дзень ураджаю і колектывізацыі", асноўнай задачай якога зьяўляецца „мобілізацыя мас на бальшавіцкае разгортваньне работы па організацыйна-гаспадарчым узмацненьні колгасаў, на барацьбу за высокія якасныя паказчыкі колектыўнае гаспадаркі, за сапраўдную зьдзельшчыну, ліквідацыю абязьлічкі, за своечасовае і правільнае разьмеркаваньне даходаў і ўраджаю, за завяршэньне ўборачных работ і асноўнай сяўбы, за своечасовую перапрацоўку лёну і здачу таварнай продукцыі дзяржаве, за далейшае ўцягненьне бядняцка-серадняцкіх гаспадарак ў колгасы"...

Краязнаўчыя організацыі павінны прыняць самы актыўны ўдзел у падрыхтоўцы організацыі і правядзеньня „Дня ўраджаю і колектывізацыі", цесна ўвязаўшы сваю працу з працай створаных на мясцох для гэтай мэты камісій.

Конкрэтны ўдзел краязнаўчых організацый (райбюро, ячэйкі ў колгасах і саўгасах) павінен выявіцца:

а) у дапамозе організацыі раённых і куставых с.-гаспадарчых выставак;

б) у зборы і апрацоўцы матар'ялаў, якія характарызуюць працу па колгаснаму будаўніцтву ў раёне, савеце, колгасе, МТС, выкананьне вытворчых плянаў, правядзеньне зьдзельшчыны, вучот і разьмеркаваньне прыбыткаў і г. д.

в) у выяўленьні лепшых колгасаў і пасобных брыгад у МТС, організацыі працы ў колгасах, МТС, лепшых прыкладаў пастаноўкі жывёлагадоўлі і стварэньня кармовай базы для жывёлагадоўлі;

г) у організацыі сумесна з організацыямі ТПТЭ спэцыяльных мэтавых экскурсій у колгасы, саўгасы, МТС.

Краязнаўчыя організацыі павінны сабраць увесь багаты матар'ял, які будзе прадстаўлены на выстаўках, выкарыстаць справаздачы, рапарты і г. д., апрацаваць і выкарыстаць для практычных мэт колгаснага будаўніцтва. „Дзень ураджаю і колектывізацыі" краязнаўчая організацыя павінна выкарыстаць у мэтах популярызацыі савецкага краязнаўства, організацыі новых ячэек у колгасах, саўгасах, МТС, і ўзмацненьня працы існуючых організацый. Кароткія справаздачы (з конкрэтнымі фактамі) аб удзеле ў правядзеньні „Дня ўраджаю і колектывізацыі", а таксама найбольш цікавыя даныя, апісаньні і г. д. неабходна прысылаць у ЦБК не пазьней 1/XI.

Старшыня ЦБК Серафімаў.

Навуковы сакратар Самцэвіч.

---

1. У Нараўлянскім раёне краязнаўчым організацыямі на працягу 1930-31 г. праводзілася досьледы па шаўкоўніцтву. Вынік атрысаны добрыя. Раённы зямельны аддзел намеміў досьледы правесьці ў масавым маштабе. У колгасах пад морву намечана засадзіць каля 36 га.

2. Праз раённы краязнаўчы музэй за час з 1/I да 1/VI прапушчана больш 1000 экскурсанта ў.

Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук.



Друкарня БАН. Галоўлітбел № 2367. Заказ № 698. Тыр. 1000 экз. 5 арк.

# Зьмест.

